# УОЛТ УІТМЕН

# Лісце травы

ВЕРШЫ

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1978

## ВЕРШАРУБ З ДОЎГАЙ ВЫСПЫ

*Яго не прызнавалі. З яго смяяліся. Кпілі. Здзекаваліся. Пра яго адзіную кнігу, якой ён, верны аднолюб, аддаў усё сваё жыццё, тагачасныя газеты пісалі, што гэта «разнастайная сумесь напышлівасці, самахвальства, глупства і вульгарнасці». Нават сябры, якім паэт пасылаў сваю кнігу са шчырымі надпісамі, называлі яе «кучай гною» і альбо вярталі назад, альбо кідалі ў агонь. Што ўжо тут і гаварыць пра крытыкаў! Тыя таксама вельмі стараліся. «Аўтар, — пісалі яны, — столькі ж разумее ў паэзіі, колькі свіння ў матэматыцы».*

*Сёння яго прызналі. Ён стаў адным з самых любімых паэтаў Амерыкі. Яму паставілі нават помнік у Нью-Йорку — хай сабе і на ўскраіне.*

*Але гэта ўжо сталася пасля. Спачатку ім зацікавілася Еўропа, а потым і ўвесь свет. І на радзіму яго паэзія ўжо вярнулася, упрыгожаная вялікім лаўровым вянком і каранаваная сусветнаю славаю. Так свет вярнуў Амерыцы яе геніяльнага паэта.*

*Уолт Уітмен, цясляр, наборшчык, настаўнік, санітар (ды хіба пералічыш усе яго прафесіі!), нарадзіўся ў 1819 годзе ў штаце Нью-Йорк — на Доўгім востраве.*

*Кожны сапраўдны паэт — заўсёды наватар. Але наватарства гэтае не трэба разумець, як нейкую абстрактную форму, назаўсёды разлучаную з пачуццём. Наватарства — гэта, хутчэй за ўсё, проста свой голас, якога пакуль што яшчэ не было на зямлі.*

*А ў ім, гэтым голасе, абавязкова пасябруюць, зажывуць у злагадзе і свае пачуцці, і свае думкі, і свае (менавіта — свае!) рытмы... Пошукі свайго голасу — вось што і ёсць наватарства.*

*Амерыка, якая не прызнавала Уітмена, была на дзіва шчаслівым улоннем для яго наватарскай паэзіі.*

*У кожнага чалавека (тым больш у паэта), мусіць, бываюць такія моманты, калі ён раптам міжвольна адчувае, што жыццё пачалося не з тае хвіліны, калі ён нарадзіўся, што да яго было ўжо ўсё — і сама зямля, і людзі на ёй. І тады ён абавязкова ўзнімецца над звыклай зямлёю, каб зірнуць на яе і на сябе з вышыні стагоддзяў:*

Цяжка і доўга сусвет працаваў, каб стварыць, нарэшце, мяне...

*І тады ён абавязкова заўважыць, як віхуры сусветаў даўніх насілі яго калыску, як самі зоркі ўступалі яму месца.*

*Уітмен узняўся над зямлёю. Ён быў нібыта першы амерыканскі касманаўт. Касманаўт, які не пабаяўся ўзняцца над будзённасцю Амерыкі.*

*«Я ўвесь не змяшчаюся паміж чаравікамі і капелюшом»,— перапоўнены жыццёвай шматмернасцю, упэўнена сцвярджае гэ*гы *«добры сівы паэт».*

*Яго дапытлівая думка, выправіўшыся ў смелы палёт, сягае далёка і глыбока. То яна, як ужо гаварылася вышэй, раптам пераадолее зямное прыцягненне і вырвецца ў адкрыты космас; то апусціцца вельмі нізка, на самае дно мора, каб бліжэй разгледзець жыццё пад вадою, убачыць сутычкі і пагоні, бітвы і каханне ў марскіх глыбінях; то раптам з далечы сівых вякоў яна выхапіць, нібы асветлены пражэктарам, нечаканы малюнак, і мы ўжо разам з паэтам ласкава дабрэем, убачыўшы паказанае буйным планам буянне зародку чалавечага жыцця: «Расліны-гіганты аддавалі яму сябе ў ежу, страшыдлы-яшчары песцілі яго ў сваёй зяпе і далей няслі беражліва».*

*Так, сапраўды, «Лісце травы» была незвычайнай кнігаю. Карней Чукоўскі ў свой час так пісаў пра яе: «Гэта была кніга*

*волата, які вызваліўся ад усіх дробязей нашага мурашынага быту».*

*І хіба маглі зразумець яе некаторыя амерыканскія паэты, сучаснікі Уітмена, якія ўсё яшчэ спявалі прылізаныя гімны прыгожанькім лілеям, персям, матылёчкам, кветачкам! Не да Уітмена было і багатым чытачам, якія ўгразлі ў мішуры і разбэшчанасці.*

*Але многія разумелі паэта. У свеце, жахлівым свеце, дзе столькі ўмоўнасцяў, дзе гаспадараць розныя забабоны і забароны, раптам знайшоўся чалавек, які паглядзеў на гэта іншымі вачыма. І аказалася, што нічога немагчымага ў адносінах паміж людзьмі не бывае, што ўсё гэта робіцца вельмі проста і лёгка:*

Чалавеча зусім незнаёмы, калі ты, сустрэўшыся, пажадаеш
загаварыць са мною, то чаму б табе
і не загаварыць са мною?
Чаму б і мне не пагутарыць з табой?

*Паэт браў чытача ў свае сааўтары. Ён хацеў, каб чытач не быў халодным і абыякавым чалавекам, які спакойна назірае, што адбываецца ў яго, паэтавым, доме, а каб ён працаваў разам з аўтарам. Уітмен пісаў: «Чытач заўсёды павінен узяць на сябе сваю долю працы, у той жа меры, у якой я выконваю сваю. У «Лісці травы» я не столькі імкнуся сцвердзіць ці развіць тую ці іншую тэму, колькі ўвесці цябе, чытач, у атмасферу гэтай тэмы, гэтай думкі, каб адсюль ты сам здзейсніў свой палёт».*

*Ад ускладнёнасці і штучнасці паэт ішоў да натуральнасці і прастаты. Ён быў вельмі ўпэўнены, што законы паэтыкі абавязкова павінны падпарадкоўвацца законам прыроды, дзе ўсё так суладна і прадумана.*

*У сваёй паэме «Песня радасцяў» ён марыць стварыць такую святочную песню, поўную музыкі і людзей, дрэў і зярнят.*

*«О, калі б ёй галасы ўсіх жывёл, раўнавагу і хуткасць рыбін», — выказвае паэт сваё запаветнае жаданне. Ён згаджаецца страціць усё, аддацъ і славу і грошы, толькі б яго вершы былі*

*напоўнены будзённым жыццём прыроды. Да мора Уітмен гаворыць:*

Усё гэта, мора, аддаў бы я з радасцю,<br>
Калі б адзін толькі ўсплёск адной тваёй хвалі дало ты мне,<br>
І дыханне сваё ўдыхнула — хоць раз! — у мой верш,<br>
І ў ім гэты пах свой пакінула.

*І ў яго рытмах сапраўды загаварыла мора, зашаптаўся дождж, загуў вецер-нізавік, заспявалі птушкі, зазвінелі сонечныя промні.. Доўгія, здавалася б, такія ляныя і непаваротлівыя радкі пад рукою майстра рабіліся гнуткімі, зграбнымі, і з дапамогаю іх цяпер ужо можна было выкласці якую хочаш думку, перадаць якія хочаш адценні, эмоцыі. Ім няблага дапамагаюць у гэтым і простыя, але ёмкія, чыста уітменаўскія, метафары, у якіх паэт звычайную птушку бачыць як павветраны карабель, які ніколі не апускае сваіх крылаў-ветразяў; дзе Ніягара — блакітная вуаль на твары чалавека, а зямля — клубок, з усіх бакоў абматаны рэйкамі.*

*І не трэба вельмі доўга вывучаць гэтыя вобразы, каб зразумець, адкуль яны бяруць свой пачатак: нават з першага погляду відно, што той жыццядайнаю крыніцаю, якая напаіла гэтыя радкі, з'яўляецца фальклор. І сама форма пабудовы вобраза, і танальнасць выражэння яго, і суадноснасць рэальнага і нерэальнага — усё гэта вельмі ж ужо збліжае паэзію Уітмена з казкамі, легендамі, паданнямі.*

*Асноўнае, што радніць паэзію Уітмена з фальклорам і робіць яе народнаю,— гэта душа, цнатлівая, уражлівая і добрая душа, якая бачыць прыгожае ва ўсім.*

*«І ўбачыць вокам сваім ці паказаць каму іншаму стручок фасолі, які перасягае ўсю мудрасць вякоў»,— расчульваецца паэт, і ад гэтых радкоў павявае нейкай даўняй паганскаю вераю ў дабрату ўсяго, што жыве і расце. А колькі радасці бачыць паэт у тым звычайным, што нас акружае штодзённа і чаго мы не заўважаем, а калі і заўважаем, дык не ўмеем гэтаму радавацца.*

*Мудрасць у простым, радасць у звычайным, святочнасць у будзённым... Чалавека сапраўды павінны радаваць і ўзыход сонца, і халаднаватая вада, і саспелая восень... Але ж ён не павінен аставацца абыякавым і тады, калі чалавек пакрыўдзіць чалавека, калі чалавек зняважыць чалавека. Ён абавязкова стане на бок пакрыўджанага і зняважанага. «Хто зневажае іншага, той зневажае мяне»,— катэгарычна, упэўнена гаворыць Уітмен. Чытаеш «Лісце травы», і складаецца ўражанне, што паэт створаны з аднаго вялікага сэрца: да ўсяго яму ёсць справа, усё яго хвалюе:*

Да кожнага бунтаўшчыка, якога ў наручніках вядуць у турму,

я прыкуты рука да рукі і крочу з ім поплеч...

*Уолт Уітмен не сумняваўся ў велічы простага чалавека. Для яго кожны чалавек — гэта цэлы вялікі свет. «Кожны чалавек — гэта і ёсць сам бог»,— вось да якой высновы прыходзіць паэт.*

Жывапісцы натоўпы людзей малявалі, а між іх аднаго —
пасяродку,
І толькі яго галава — адна! — была ў залатым арэоле.

Я таксама малюю мірыяды галоў, толькі ўсе да адной у
мяне ў залатых арэолах.

*За гэтую усеабдымнасць яго паэзію абвінавачвалі ў стаднасці. А ён усяго толькі хацеў, каб усе людзі на зямлі жылі ў міры і дружбе. Ён на ўвесь свой магутны голас спяваў гімн свабодзе, роўнасці, братэрству.*

Сасніўся мне горад, які зваяваць немагчыма, хоць бы
і напалі на яго адразу ўсе краіны зямлі,
Я сніў, што гэта быў новы горад Сяброў...

*І ён марыў стварыць такі горад. Стварыць з дапамогаю паэзіі, якая мацней за ўсялякія дагаворы можа аб'яднаць усе краіны, што ёсць на зямлі...*

*Ён жадаў Амерыцы дабра. Ён хацеў бачыць яе багатай і шчаслівай. «Але,— пісаў ён,— я не магу прымусіць сябе любіць Амерыку і жадаць ей росквіту за кошт якога-небудзь іншага народа».*

*Сапраўдны паэт — гэта заўсёды асоба. Калі няма асобы, то і паэзія атрымліваецца нейкая раскіданая, кволая, бескалёрная, у ёй няма цэласнасці, мы ніяк не можам зразумець, што чалавек абараняе і за што ён змагаецца. Паэт абавязкова павінен быць самім сабою. «Зразумей,— звяртаўся Уітмен да самога сябе,— зразумей, што ў тваіх творах не можа быць ніводнай рысы, якой няма ў табе самім. Калі ты злы ці пошлы, гэта не схаваецца ад іх. Калі ты любіш, каб у час абеду за тваім крэслам стаяў лёкай, гэта адаб'ецца на тваіх творах. Калі ты буркун ці зайздроснік, калі нізка глядзіш на жанчын, гэта будзе відаць нават у тваім замоўчванні, нават у тым, чаго ты не напішаш».*

*І ён пісаў пра тое, што ведаў і як ведаў. Можа, таму нават яго «Песня пра сябе», дзе, здавалася б, паэт павінен быў астацца сам-насам з сабою, атрымалася шырокаю песняю пра ўсіх.*

*Яго творы перанаселены людзьмі — што паробіш, калі паэт усіх іх любіць! У вершах многа рэчаў, пачуццяў, пахаў, жывых істот, раслін — што ж тут дзіўнага, калі паэт іх усіх добра разумее!*

*А яго «Лісце травы» называлі менавіта за гэта каталогам рэчаў. І неяк не разумелі, што ўсё гэта хараша сплаўлена ў непаўторную каштоўнасць, імя якой — сапраўдная паэзія.*

*Ён лічыў, што разбэшчанай і распешчанай Амерыцы, краіне, дзе ўсё падпарадкавана адзінаму жыццёваму прынцыпу: «кожны сам за сябе», абавязкова патрэбен вялікі паэт, які б быў яе сумленнем. І ён стаў такім паэтам. Ён, Уолт Уітмен,— вялікі і добры вершаруб з Доўгай выспы Амерыкі.*

*ЯНКА СІПАКОЎ*

## ПРА СЯБЕ АДНАГО Я СПЯВАЮ

Пра сябе аднаго я спяваю — звычайную, простую асобу,
І ўсё ж вымаўляю слова «Дэмакратычнасць», слова сцвярджаю «Маса».

Пра фізіялогію з галавы да пят я спяваю,
Не толькі твар, не толькі мозг чалавека вартыя ўвагі Музы,
я кажу, што дасканаласць усіх тугіх формаў яшчэ болей вартая песні,
Я спяваю пра Жанчыну нароўні з Мужчынам.

Пра жыццё, бязмежнае ў жаданнях, пульсаванні і сіле,
Радаснае, створанае па цудоўных законах для самых вольных дзеянняў,
Пра Чалавека Сучаснага я спяваю.

## ШТАТАМ

Кажу я ўсім Штатам, і кожнаму з іх, і любому гораду ў Штатах:
*«Болей супраціўляйся, падначальвайся меней»,*
Адно непераборлівае паслушэнства, аднойчы — поўнае рабства,
А з поўнага рабства ніводная нацыя, штат альбо горад на гэтай
зямлі не вернуцца зноўку да волі.

## АДНОЙ СПЯВАЧЦЫ

На, бяры дарунак вось гэты,
Я яго зберагаў для якога-небудзь героя, прамоўцы ці палкаводца,
Для таго, хто паслужыў бы нашай даўняй і справядлівай справе,
вялікай ідэі, прагрэсу, свабодзе народа,
Для харобрага змагара з самаўладствам, для адважнага бунтаўшчыка;
Але я зразумеў: тое, што я зберагаў, аднолькава належыць і табе,
як і кожнаму з іх.

## СТАЮ СУПАКОЕНЫ

Стаю супакоены, адчуваючы вольна сябе ў Прыродзе,
Гаспадар усяго ці гаспадыня ўсяго, упэўнена між дрэў і жывёл я стаю,
Я гэткі ж уражлівы, рахманы, напоўнены, маўклівы, як і яны,
Разумею, нарэшце, што і беднасць мая, і праца мая, і няслаўе,
і недахопы, і ганьбаванне, злачынствы не такія і важныя,
як я думаў раней,
Куды б я ні пакіраваўся — ці да Мексіканскага мора, ці на
Маннахату, ці ў Тэнесі, ці на далёкую поўнач, ці ў глыбіню краіны,
Няхай я рачнік, ці ў лесе жыву, ці на ферме ў якім-небудзь
штаце, на ўзбярэжжы альбо ля Канадскіх азёраў,
Дзе б жыццё не ішло маё — о толькі б быць мне спакойным,
разважлівым сярод розных нягодаў,
Каб страчаць твар у твар ноч, ураганы, голад, насмешкі,
няшчасці, няўдачы — так, як іх сустракаюць жывёлы і дрэвы.

## ЧУЮ, СПЯВАЕ АМЕРЫКА

Чую, спявае Амерыка, розныя песні я чую,
Спяваюць механікі, кожны сваю песню, жыццярадасную і вабную,
Цясляр спявае сваю, мераючы дошкі ці бэлькі,
Муляр — сваю, калі ён рыхтуецца ўранку да працы
ці прысмеркам вызваляецца ад яе,
Лодачнік — сваю, тую, што належыць яму і
ягонай лодцы,
матрос спявае сваю — на палубе парахода,
Спявае шавец, седзячы на сваім услончыку, капялюшнік — стоячы
перад загатоўкаю,
Спявае лесаруб, спявае ратай, ідучы на світанні ў поле, ці
адпачываючы ў поўдзень, ці вяртаючыся, калі сонца заходзіць,
А цудоўныя песні маці, альбо маладой жонкі за працаю, альбо дзяўчыны,
якая рупна шые ці мые,
Кожны спявае пра тое, што ўласціва толькі яму альбо ёй, а не іншаму некаму,
Удзень — дзённыя песні чуваць, а ўвечары маладыя, здаровыя,
дружныя хлопцы, шырока параскрываўшы раты,
Спяваюць свае бадзёрыя, звонкія песні.

## ПАЭТАМ, ЯКІЯ ПРЫЙДУЦЬ

Паэты, што прыйдзеце! Спевакі, прамоўцы, музыкі!
Не сённяшні дзень прызнае мяне, ён не вызначыць, хто я і што я,
Вы ж, людзі іншай пароды — тутэйшай, атлетычнай, мацерыковай,
    велічней за тых, што былі ўжо раней,
З'явіцеся! Вы павінны прызнаць мяне.
Я сам напішу для будучыні вызначальныя два-тры словы,
Я паказаўся толькі на момант, каб назад зноў, у цемру пайсці.
Я — той чалавек, хто, бязмэтна ў натоўпе блукаючы, мімаходзь
    на вас кідае позірк і тут жа вочы адводзіць,
Даючы вам магчымасць самім мой твар разгадаць і вобраз выразны ствварыць.
Галоўнага я чакаю ад вас.

**ТАБЕ**

Чалавеча зусім незнаёмы, калі ты, сустрэўшыся, пажадаеш загаварыць
са мною, то чаму б табе і не загаварыць са мною?
Чаму б і мне не пагутарыць з табой?

## З ПАЭМЫ «НАРОДЖАНЫ НА ПАМАНОКУ»

Народжаны на доўгім, як рыбіна, Паманоку,
Узгадаваны і выпешчаны харошым бацькам і цудоўнай маці,
Нястомны бадзяга, улюблёны ў шматлюдныя вуліцы,
Жыхар горада майго Манхатана ці паўднёвых саван,
Альбо салдат на прывале ці ў паходзе — з ружжом і рукзаком за плячыма,
альбо рудакоп у Каліфорніі,
Альбо дзікун у сваёй хаце ў лясах роднай Дакоты, чыя ежа —
дзічына і вада з ручая,
Альбо пустэльнік, які на адзіноце радуецца спакойным марам і роздуму
У далечыні ад тлумных натоўпаў, ад прыліваў і адліваў гарадской мітусні,
Усведамляючы неаплатную шчодрасць вольнай плыні Місуры, разумеючы
магутнасць Ніягары,
Чуючы, як пасвяцца буйвалы на раўніне і як тупае касматы, мацнагруды бык
перад статкам,
Чалавек, які жыве ў заўсёдным здзіўленні перад зямлёю, скаламі,
майскімі кветкамі, зоркамі, дажджом, снегам,
Вывучыўшы ўсе песні перасмешніка і пазнаўшы палёт горнага ястраба,
Пачуўшы на світанку непаўторнага дразда-пустэльніка, які спявае
на зялёным кедры каля балота,
Адзінокі, я пачынаю на Захадзе сваю песню пра Новы Свет.

## З ПАЭМЫ «ПЕСНЯ ПРА СЯБЕ»

1

Я ўслаўляю сябе і пяю пра сябе,
І тое, што прымаю я, павінен прыняць і ты,
Бо кожны атам, што мне належыць, ён належыць і табе.

Я, неспатольны бадзяга, запрашаю да ўцехі душу сваю,
Я нікуды не спяшаюся, без заняткаў блукаю і, нагнуўшыся, лена разглядаю
маладую травінку летнюю.
Мая мова, кожны атам мае крыві створаны з гэтай зямлі, з гэтага паветра,
Народжаны тут ад бацькоў, народжаных тут ад бацькоў, якія таксама
народжаны тут,
Я, трыццацісямігадовы, у поўным здароўі пачынаю гэтую песню
І спадзяюся яе не канчаць аж да самае смерці.

Веравучэнні і школы няхай пачакаюць, хоць мы і на іх не забыліся,
Я ж прыстанак даю і прымаю Прыроду такой, якой яна ёсць, і даю
ёй магчымасць заўсёды
Гаварыць без абмежаванняў, з першабытнаю сілаю.

2

Пахнуць парфумай дамы і пакоі, па паліцах многа парфумы,
Я і сам удыхаю гэты водар, я ведаю яго і люблю яго,
Гэты пах сп'яніў бы мяне таксама, толькі я не хачу ўпівацца ім.

Паветра — не парфума, яно не стваралася штучна, яно не мае смаку і паху,
Яно ў мяне ў роце заўсёды, я ўлюбёны ў яго.

Я пайду на бераг, што каля лесу, скіну сваё адзенне і стану голы,
Бо я вар'яцею ад жадання, каб паветра датыкалася да мяне.

Пара ад майго дыхання,
Рэха, усплёскі хваль, гудлівыя шэнты, корань-прычаравальнік,
шаўковыя павучынкі, разгалістыя дрэвы, абвітыя дзікай
вінаградная лазою,
Удыханні і выдыхі, біццё майго сэрца, праходжанне крыві і паветра
праз мае лёгкія,
Пах зялёных лістоў і засохлых лістоў, пах берага і цёмных марскіх скал,
пах сена ў пуні,
Мой голас, дзе клякочуць словы, якія я вывяргаю насустрач вятрам,
Лёгкія пацалункі, абдымкі, сустрэча ласкавых у дотыку рук.
Мігценне святла і ценяў на дрэвах, калі хістаюцца падатлівыя галінкі,
Радасць з тае прычыны, што я адзін, ці з тае, што я ў вулічнай таўхатні,
альбо з тае, што я блукаю па ўзгорках і палянах,
Адчуванне здароўя, пошчак птушыны, песня, якая нараджаецца ўва мне,
калі, устаўшы раніцою, я сустракаю сонца...

6

Дзіця спыталася: *«Што такое трава?»* — і прынесла мне поўныя
жмені травінак;
Што я мог адказаць дзіцяці? Я ж ведаю не болей за яго, што такое трава.

Можа, гэта зялёны сцяг маіх жаданняў, сатканы з разнатраўя надзей?

Ці, можа, гэта хусцінка бога —
Пахкі падарунак, сумысле кінуты нам на памяць,
На ей, відаць, ёсць на ражку дзе і ўладальніка імя, каб мы ўсе ўбачыць маглі і
зразумець: *чыя яна?*
Ці, можа, травінка і сама ёсць дзіця, узгадаванае немаўлё вегетацыі,

Ці, можа, гэта іерогліф, які сустракаецца ўсюды — адзін і той жа
для ўсіх,
І, можа, ён нам гаворыць: «Зелянеючы скрозь, дзе давядзецца,
Сярод чарнаскурых і сярод белых народаў,
Канука, такаха, кангрэсмена і негра аднолькава я прымаю і адно
ім і тое ж дарую».

А зараз трава мне здаецца прыгожымі, нястрыжанымі валасамі магіл.

Густая травіца зялёная, цябе буду гладзіць я ласкава.
Можа, расцеш ты з грудзей юнакоў якіх-небудзь,
Можа, я іх, каб ведаў, мог бы нават шчыра любіць,
Можа, ты прабіваешся са старых мужчын і жанчын ці з немаўлят,
што не ў час адарваны ад матчыных лонаў,
А можа, ты, трава,— сама для іх матчына лона.

Гэтая трава такая цёмная, яна не магла вырасці з сівых галоў
старых матак,
Яна цямнейшая ад бясколерных барод дзядоў,
Занадта цёмная, каб расці з бледна-ружовых дзіцячых наднябенняў.

О, я разумею, нарэшце,— гэта ж языкі, гэта ж так трава размаўляе з намі,
І я разумею, што недарэмна расце яна з чалавечых вуснаў.

Я адчуваю, што магу перадаць вам яе маўклівыя намёкі пра юнакоў і дзяўчат,
што памерлі.
А таксама пра дзядоў і бабуль, пра немаўлят, адарваных ад матчыных
лонаў.

А дзе, як вы думаеце, падзяваліся старыя і юнакі?
І чым сталі зараз жанчыны і дзеці?
Яны зноў жывуць, і ім хораша зноў,
Бо і самы маленькі парастак сцвярджае, што смерці наогул няма,

А калі яна і ёсць, то выводзіць уперад жыццё — яна не сачыць за ім,
каб яго супыніць назусім,
Яна гіне сама ў той момант, як жыццё нараджаецца новае.

Усё наперад ідзе, разрастаецца ўшыркі, і не гіне нішто,
І памерці — гэта зусім не тое, што мы ўяўляем, гэта намнога прыемней.

7

Хто не думаў, што нарадзіцца на свет — гэта шчасце? Спяшаюся
паведаміць яму ці ёй, што памерці — такое ж самае шчасце,
і я гэта ведаю.
Я паміраю разам з паміраючымі і нараджаюся з кожным нованароджа-
ным немаўлём, я ўвесь не змяшчаюся паміж чаравікамі і капелюшом,
Я гляджу на мноства прадметаў — ніводзін з іх не падобен на іншы,
кожны цікавы, цудоўны,
Зямля цудоўная, і зоркі цудоўныя, і ўсе спадарожнікі іх гэтаксама
цудоўныя.
Я не зямля і не спадарожнік зямлі,
Я таварыш і сабрат людзей гэткіх жа бязмежных і бессмяротных, як і я,
(Яны не ведаюць, якія яны бессмяротныя, а я ведаю).

Кожны існуе для сябе і для сваіх, для мяне — мае, мужчынскае
і жаночае,
Для мяне тыя, што былі хлапчукамі, і тыя, што кахаюць жанчын,
Для мяне ганарлівы мужчына, які ведае, як джаляць крыўды,
калі пагарджаюць ім,
Для мяне нарачоная і старая дзеўка, для мяне маткі і маці матак,
Для мяне вусны, якія ўсміхаюцца, вочы, якія праліваюць слёзы,
Для мяне дзеці і тыя, што раджаюць дзяцей.
Скіньце покрывы! Перада мною вы ўсе ні ў чым не вінаватыя, для мяне вы
не састарэлыя ці пакінутыя,
Я нават праз тонкае адзенне бачу вас, нібы голых,

Я тут, каля вас, настойлівы, жадомы, нястомны, і вам ад мяне
немагчыма ўцячы.

11

Дваццаць восем маладых мужчын купаюцца каля берага,
Дваццаць восем маладых мужчын, і ў дружбе мужчынскай ім весела;
Дваццаць восем жаночых год, і ўсе, як адзін, самотныя.

Дом цудоўны яе на пагорку ля самага мора,
І яна — прыгожая, прыбраная — за шторамі на акне хаваецца.

Хто ж ёй, хто ж з маладых людзей больш за ўсё спадабаўся?
Ах, і самы нязграбны здаецца ёй самым прыгожым.

Куды ж вы, куды вы, любая? Я ж добра бачу:
Пялёскаецеся вы ў вадзе разам з імі, хоць стаіцё ля акна нерухома.

Танцуючы і смеючыся ідзе яна па беразе, яна, дваццаць дзевятая,
Мужчыны не бачаць яе, яна ж іх бачыць і нават кахае.

Бароды ў маладых мужчын блішчаць ад вады, што з даўгіх валасоў сцякае,
Маленькія ручайкі бягуць па іхніх загарэлых целах.
І, нібы ручаёк, бяжыць па целах рука-невідзімка,
Яна дрыжыць палахліва, апускаючыся ад скроняў да рэбраў.

Маладыя мужчыны ляжаць на хвалях, падставіўшы сонцу жываты свае
белыя, і ніводзін з іх не здагадаецца, хто да іх гэтак
ласкава туліцца,
І ніводзін не ўведае, хто гэта, цяжка, стрымана дыхаючы ад хвалявання,
схіліўся над імі, перагнуўшыся нібы вясёлка,
І каго яны абдаюць халоднымі пырскамі.

17

Гэтыя думкі — на самай справе думкі ўсіх людзей, ва ўсе часы
і ва ўсіх краінах, яны не толькі мае,
Калі ж яны не твае, а толькі мае, тады яны нішто ці амаль нішто,
Калі гэтыя думкі не загадка і не разгадка загадкі — тады яны
гэтаксама нішто,
Калі яны не такія блізкія, як і далёкія,— яны нішто.

Гэта трава, якая расце ўсюды, дзе ёсць зямля і вада,

Гэта паветра, агульнае для ўсіх, якое абмывае ўвесь зямны шар.

18

Я іду са звонкаю музыкаю, з маімі барабанамі і маімі трубамі,
Не адным толькі пераможцам я іграю свае маршы, я іграю і для
тых, хто пераможаны.

Ты чуў, што хораша перамагчы і выйграць дзень?
Я кажу, што загінуць — гэта таксама няблага, бо бітвы
прайграюцца гэтак жа сама, як і выйграюцца.

Б'ю я моцна ў барабаны, дзеля мёртвых грукачу,
Дзьму я ў трубы колькі сілы, звонка, весела і гучна — дзеля іх.

Слава тым, каму гэты раз не ўдалося перамагчы!
І тым, чые баявыя судны патанулі ў моры!
І тым, хто самі патанулі ў моры!
І ўсім палкаводцам, што прайгралі бітву, і ўсім нераможаным героям,
І незлічоным безыменным героям, гэтаксама, як і найвялікшым ушанаваным
героям, слава!

23

Я спяваю пра Цела і я спяваю пра Душу,
Насалода раю ўва мне і пакуты пекла ўва мне,
Радасць я прывіваю сабе і памнажаю ў сабе, а болю даю іншую існасць.

Я спяваю пра жанчыну нароўні з мужчынам,
І я кажу, што быць жанчынаю,— такое ж вялікае шчасце, як і быць
мужчынам,
І я кажу, што няма ў свеце нічога больш пачэснага і цудоўнага,
як быць маткаю людзей.

Я спяваю песню пра шырыню і гонар,
Даволі ўжо крыўдных абраз і папрокаў,
Я сцвярджаю, што ўсялякая велічыня — гэта ўсяго толькі развіццё.
Ты апярэдзіў астатніх? Ты стаў прэзідэнтам?
Гэта дробязь,— яны, усе да аднаго, не толькі дагоняць цябе,
але і пойдуць далей.

Я той, хто блукае ўдвох разам з пяшчотнай, саспелай ноччу,
Я клічу зямлю і мора, што ў ноч напалову схаваныя.

Бліжэй прыцісніся да мяне, галагрудая ноч, бліжэй прыцісніся
да мяне, магнетычная, спелая — ты ўскарміла мяне сваімі грудзямі!

Ноч з вятрамі паўдзённымі, ноч з вялікімі рэдкімі зорамі!
Ціхая, дрымотная ноч — шалёная, голая, летняя ноч.

Усміхніся, о насалодная, з асвяжальным дыханнем, зямля!
Зямля, дзе дрэмлюць сонныя, мокрыя дрэвы!
Зямля, дзе ўжо сонца зайшло, зямля, дзе горныя стромы ў лёгкім тумане!
Зямля — уся ў сіняватых, нібыта шкляных, струменях месячнага святла!
Зямля, дзе цені і ясвы мігцяць на імклівай плыні ракі!
Зямля, дзе шэрыя хмары дзеля мяне пасвятлелі і болей выразнымі сталі!

Ты гэтак шырока паслалася для мяне, зямля,— уся ў шчодрай квецені
яблынь зямля! Усміхніся, жадомая,— бачыш, ідзе твой каханы.
Шчодрая на ласкі, ты дорыш мне сваю любоў — таму і я адказваю
на яе любоўю!
О, вар'яцкаю, невыказнаю ў слове любоўю!

31

Я веру: лісцінка травы —такая ж важная, як і праца цяжкая зорак,
І мурашка не менш дасканалая, і пясчынка, і яечка крапіўніцы,
І што звычайная жаба — шэдэўр над усімі шэдэўрамі,
І што сакаўная ажына варта таго, каб упрыгожваць харамы раю,
І што самы маленькі сустаў маіх рук прысароміць можа любую машыну,
І што карова, якая, нагнуўшы галаў, панура хрумстае сенам,
вышэй за любую статую,
І што мышка — вялікі цуд, яна можа здзівіць секстыльёны тых,
хто не верыць.
Я ведаю: ува мне і гнейс, і вугаль, і доўгія пасмы імху, і плады, і карэнне,
прыгоднае ў ежу,
Жывёламі я ўвесь даверху напханы, птушкамі ўвесь я напоўнены,
І хоць я пакінуў іх далёка ззаду сябе,
Але варта мне захацець — я паклікаць магу з іх кожнага.

Дарэмна яны палахліва хаваюцца і ўцякаюць,
Дарэмна вулканы вывяргаюць на мяне свой старажытны попел,
Дарэмна мастадонты знікаюць пад сваімі ж сатлелымі касцямі,
Дарэмна рэчы, якія знаходзяцца за мілю ад мяне, прымаюць
разнастайныя формы,
Дарэмна акіяны знаходзяць сабе спакой ва ўпадзінах, а велізарныя
пачвары кладуцца на самае дно,
Дарэмна коршак жыве, нібы ў доме, высока ў небе,
Дарэмна змяя слізгае, выгінаецца паміж паўзучых раслін,
Дарэмна лось уцякае ў самую гушчэць лесу,

Дарэмна гагарка, у якой дзюба як брытва, спяшае далёка на поўнач, на Лабрадор,—
Я лячу за ёй хутка, я ўзнімаюся на вяршыню, і вось я ўжо там, у гняздзе, што ў расколіне скалы.

32

Мне здаецца, я мог бы вярнуцца і з жывёламі жыць, яны такія спакойныя і такія замкнёныя,
Я стаю і гляджу на іх доўга-доўга.

Яны не смуткуюць і не скардзяцца на нядобры свой лёс,
Яны не плачуць бяссоннымі начамі над сваімі грахамі,
Яны не даймаюць мяне, разважаючы пра сваю віну перад богам,
Расчараваных няма сярод іх, і ніхто не звар'яцеў ад шалёнае прагі валодаць рэчамі,
Ніхто з іх ні перад кім не ўкленчваецца, не робіць багоў з такіх, як і сам, з тых, што жылі тысячы год назад,
І няма сярод іх багацееў, і няма сярод іх на зямлі ўсёй гаротнікаў і жабракоў.

Гэтым яны пацвярджаюць, што яны мне радня, і таму я прымаю іх,
У іх ёсць прыкметы, знакі, што яны — гэта я.

Я здзіўляюся, адкуль у іх гэтыя знакі,
Можа, я ішоў па гэтай дарозе даўно, у агромністай далечы часу, і згубіў іх тады выпадкова?

Увесь час ідучы наперад, і тады, і цяпер, і заўсёды,
Збіраю ўсё болей і болей я на сваёй дарозе,
Бясконцы і ўсеабдымны, я падобны гэтым да іх,
Не дужа ад іх я адрозніваюся, калі яны цягнуцца за падарункамі,
Выберу аднаго, хто спадабаецца мне, і вось іду з ім, як з братам.
Найвялікшы прыгажун — жарабок, ён гарачы і адгукаецца на маю ласку,

Лоб у яго высокі і між вушамі шырока,
Ногі бліскучыя, пругкія, хвост — да пылу, да самай зямлі,
Вочы свавольствам гарацъ, вушы, нібы выразаныя — рухомыя і гнуткія,
Ноздры яго раздзьмуваюцца, калі мае ногі абдымаюць яго,
Яго стрункае цела аж трымціць ад задавальнення, калі мы імчымся наўсцяж і
вяртаемся зноў.

Яшчэ хвіліна, і я адпускаю цябе, мой конь,
Навошта мне хуткі твой бег, калі сам я хутчэйшы за цябе,
І нават калі я стаю ці сяджу, я пераганяю цябе.

37

Гэй, маруды, там, на варце! Паклапаціцеся пра зброю!
Яны ганнёю ломяцца ў дзверы — у тыя, што пераможаны! Я, відаць,
звар'яцеў!
Я змяшчаю ў сабе ўсіх пакутнікаў і ўсіх адрынутых,
Бачу сябе ў турме ў абліччы іншага чалавека,
І адчуваю тупы, невыказны боль, які не праходзіць ніколі.

Гэта праз мяне турэмшчыкі трымаюць на плячы карабіны і стаяць
на варце,
Гэта мяне раніцою выпускаюць з камеры, а на ноч саджаюць
за краты зноў.

Да кожнага бунтаўшчыка, якога ў наручніках вядуць у турму,
я прыкуты рука да рукі і крочу з ім поплеч.
(Я самы змрочны і самы маўклівы з іх, у мяне выступае пот на
перасмыкнутых ад крыўды губах.)

І разам а кожным падлеткам, якога схапілі за крадзеж, хапаюць і мяне,
і судзяць мяне разам з ім, і выносяць такі ж, як яму, прысуд.

І з кожным хворым халераю, які вось зараз сканае, я ляжу і
паміраю з ім заадно:
Твар мой зрабіўся попельна-шэрым, гузавата жылы напухлі, людзі
староняцца мяне.

Жабракі ў мяне ўвасабляюцца, а я ўвасабляюся ў іх,
Я канфузліва працягваю свой капялюш, сяджу і сарамліва прашу міласціну.

48

Я кажу, што душа не важнейшая, чымся цела,
І я кажу, што цела не важнейшае, чымся душа,
І нішто, нават бог, не вышэй, чым кожны з нас сам сабе,
І кожны, хто хоць хвіліну ідзе без чалавечай прыхільнасці,
на хаўтуры свае ён ідзе, захінуўшыся ў саван уласны,
І хоць зараз у нас, у мяне ці ў цябе, няма ні капейкі ў кішэні,
мы можам мець усё лепшае, што ёсць на зямлі,
І ўбачыць вокам сваім ці паказаць каму іншаму стручок фасолі —
гэта перасягае ўсю мудрасць вякоў.
І ва ўсялякай справе, ва ўсялякай працы кожны юнак можа стаць героем,
І кожная, самая маленькая пылінка можа стаць цэнтрам кругабежнага
сусвету,
І кожнаму мужчыну, і кожнай жанчыне я кажу: няхай ваша душа не
бянтэжыцца перад мільёнамі сусветаў.

І я кажу ўсяму чалавецтву: не распытвайцеся пра бога
Бо нават я, хто гэтак усім цікавіцца, не распытваю пра бога
(Не выказаць ніякімі словамі, як мала мяне цікавяць думкі пра бога
і смерць).

Я чую, бачу бога ў кожнай рэчы, але не магу яго зразумець,
Гэтак жа я не разумею, няўжо можа быць што-кольвек лепшае за мяне?
І навошта мне марыць пра тое, каб разгледзець бога лепей,
чым гэты дзень?

Я ж штосьці ад бога бачу гадзіну кожную, і ўсе дваццаць чатыры гадзіны,
і кожную хвіліну ў гадзіне,
У мужчынскіх і жаночых абліччах бачу я бога, і ў сваім абліччы,
калі я гляджуся ў люстэрка.
Я проста на вуліцы пісьмы ад бога страчаю, і кожнае з іх падпісана
імем бога,
І я пакідаю на бруку іх, там, дзе знайшоў, бо ведаю добра,
куды ні пайду я,
Такія ж пісьмы буду знаходзіць без ліку — адно за адным,
з веку ў век.

## З ПАЭМЫ «ПРА ЦЕЛА ЭЛЕКТРЫЧНАЕ СПЯВАЮ»

1

Пра цела электрычнае спяваю,
Безліч тых, каго я люблю, абдымаюць мяне, і я абдымаю іх,
Мяне яны не адпусцяць, пакуль я не адгукнуся на іх покліч і не пайду
разам з імі,
Пакуль іх не ачышчу, пакуль да астатку не напоўню іх шчодрасцю душы.

Хіба тыя, што разбэшчваюць сваё цела, не хаваюць сябе?
А хіба тыя, што няслáвяць жывых, лепшыя за тых, што мёртвых няслáвяць?
А хіба цела значыць меней, чым душа?
І калі цела — тэта яшчэ не душа, то што ж тады душа?

2

Любоў да цела мужчынскага ці да жаночага цела зразумець немагчыма,
бо і цела само зразумець немагчыма, Дасканалае цела мужчыны і
жаночае гэткае ж дасканалае.

Немагчыма зразумець выраз твару,
Але хораша складзены чалавек выяўляе сябе не толькі ў твары,
Ён выражаны ва ўсёй постаці, ва ўсіх часцінах цела свайго,—
у суставах, у грацыі таліі зграбнай, у выгіне рук, У хадзе, у паставе,
як голаў трымае, у гнуткасці стану, каленяў —
не схаваць яго прыгажосці нават адзенню,
Моц і спрыт яго прабіваюцца і праз тканіны;
Бачыць, як ён праходзіць побач, захапляючы, нібы паэма ці нават болей,
А потым, крыху счакаўшы, глядзець на спіну яго, на патыліцу, на лапаткі,
калі ён прайшоў.

Раскіданасць круглапгчокіх немаўлятак, грудзі і голавы сустрэчных жанчын, складкі іхніх сукенак, калі яны праходзяць па вуліцы, абрысы ног,
Голы плывец у басейне, калі ён плыве ў празрыстым зялёным зіхценні ці ляжыць, закінуўшы галаву, ціха пакалыхваецца на вадзе,
Нахіл то ўперад, то ўзад весляроў на лодках і конніка ў сядле,
Дзяўчаты, маці і гаспадыні за звыклымі хатнімі клопатамі,
Купка рабочых, якія сядзяць у поўдзень з абедзеннымі каструлькамі, іх жонкі ў чаканні,
Маладая маці, што корміць дзіця грудзьмі, дачка фермера ў кароўніку ці ў садзе,
Хлопец з капаніцаю ў полі, рамізнік, які сярод натоўпу ляйцуе шасцёркаю запрэжаных коней,
Баруканне двух чаляднікаў, амаль дарослых, здаровых, вясёлых, задзірыстых, тутэйшых — на пустэчы, увечары пасля працы,
Скінуты шапкі і паліто, абдымкі, нібы ў закаханых, і супрацiўленне,
У абхватах напружаны целы, пасмы валасоў засланяюць вочы;
Праезд пажарнікаў у сваіх новых касцюмах, ігра іхніх моцных мускулаў пад паясамі,
Няспешнае вяртанне з пажару, затым перадыппка і зноўку б'е звон трывогу — усе напружана слухаюць:
Натуральныя, разнастайныя паставы, нахіл галавы, адлік секундаў;
Гэта ўсё я люблю. І болей сябе не стрымліваю, вольна я крочу наперад, да матчыных грудзей прыпадаю я разам з дзіцем,
Плыву з плыўцамі, барукаюся з тымі, хто барукаецца, еду з пажарнымі, адпачываю, прыслухоўваюся, лічу секунды.

3

Я ведаў чалавека, звычайнага фермера, бацьку пяцёх сыноў —
Яны самі былі бацькамі сыноў, а тыя — таксама бацькамі сыноў.

Ен быў на дзіва прыгожы, моцны, спакойны,
Абрысы яго галавы, бледна-жоўтыя і сівыя яго валасы, барада, глыбокі пагляд яго чорных вачэй, шчодрасць і шчырасць паводзін,—

Усё гэта падабалася мне, і я хадзіў у госці да іх, каб любавацца старым,
які да таго ж яшчэ й мудры быў.
Ён быў шасціфутавы ростам, ён меў болей чым восемдзесят гадоў,
яго сыны былі рослыя, моцныя, барадатыя, загарэлыя прыгажуны,
Сыны і дочкі любілі яго — кожны, хто бачыў, любіў яго,
Любілі не з-за пашаны, а шчыра і кожны па-свойму любілі,
Піў ён толькі адну ваду, кроў прабівалася чырванню праз карычневы
загар яго твару,
Ён быў паляўнічы заўзяты, на рыбалку хадзіў і сам веславаў сваю лодку,
якую яму ў падарунак зрабіў карабельны цесля,
і стрэльбу таксама яму падарылі людзі, якія любілі яго,
Калі ён ішоў з пяццю сынамі і многімі ўнукамі на паляванне
ці рыбную лоўлю, вы б выбралі менавіта яго, бо ён сярод іх самым
моцным і самым прыгожым здаваўся,
Вам хацелася б доўга з ім быць, доўга сядзець з ім поплеч у лодцы,
каб да яго дакранацца.

4

Я зразумеў, што быць з тымі, хто падабаецца мне,— насалода,
Што ўвечары пасядзець у кампаніі з харошымі людзьмі — насалода,
Што быць у акружэнні цудоўнай, дапытлівай, усмешлівай, трапяткой плоці —
таксама насалода,
Пахадзіць сярод іншых, дакрануцца да каго-небудзь злёгку рукою, абвіць —
на імгненне! — яго ці яе шыю — хіба гэта мала?
Мне большай насалоды не трэба, я плаваю ў ёй, нібы ў моры.

Ёсць штосьці цудоўнае ў тым, каб стаяць побач з мужчынамі і жанчынамі,
глядзець на іх, датыкацца да іх, адчуваць іхні пах—усё гэта цешыць душу;
Многае цешыць душу, але гэта — найболей.

5

Вось жаночае цела.
Чароўны німб ззяе вокал яго — з галавы і да ног.
Яго цягне пажадліва цягаю неадольнаю,
Я дыханнем яго падхоплены, нібы я ўсяго толькі бездапаможнае
воблачка пары, і ўсё навакол знікае, апрача мяне і яго,
Кнігі, мастацтва, рэлігія, час, зямля, відомая і цвёрдая,
радасці раю і страхі пекла — усё знікае,
Неадольныя промні пульсуюць з яго неўтаймоўна, і адгукненне на іх
гэткае ж неўтаймоўнае,
Валасы, грудзі, стан, абрысы ног, стамлёна апушчаныя рукі — яны з маімі
зліліся ў адно,
Адліў, што прылівам абуджаны, прыліў, што ідзе за адлівам, любоўная плоць
у знямозе і ў слодычы болю,
Бязмежны, празрысты фантан кахання, сасмаглага, спякотнага і вялікага,
утрапенне, трымценне і белаколерны раз'юшаны сок,
І вось ужо шлюбная ноч кахання пераходзіць надзейна і ласкава
у распластаны світанак,
Які перальецца ў пагоджаны і пакорлівы дзень,
Згубіўшыся ў абдымках радасна пацішэлае дзённае плоці.

Гэта зачатак — ад жанчыны народзіцца потым дзіця, чалавек народзіцца
ад жанчыны,
Гэта купель народзін, гэта зліццё вялікага і малога,
а потым — зноўку выток.

Не саромся, жанчына,—твая перавага быць прамаці жыцця, умяшчаць
усіх астатніх і даваць пачатак усім астатнім,
Ты брама цела і ты брама душы.

У жанчыне ўсе якасці, яна іх змякчае,
Яна і на месцы сваім і ў руху заўсёды, што трымае яе ў раўнавазе,
У ёй усё прыхавана, як мае быць, яна і спакойная, і дзейсная,

Дочак ёй зачынаць і ёй зачынаць сыноў.
Калі бачу я душу сваю, адлюстраваную ў Прыродзе,
Калі бачу праз смугу штосьці невыказна чыстае, прыгожае, дасканалае,
Калі бачу схіленую галаву і рукі, скрыжаваныя на грудзях,—
    гэта Жанчыну бачу я.

6

У мужчыны не меншая душа, і ён таксама на сваім месцы,
У ім зноў-такі ўсе якасці, ён — і дзейнасць, і сіла,
Шырыня пазнання сусвету ў ім,
Яму пасуе пагарда, і захапленне, і выклік пасуюць яму,
Самыя дзікія страсці, бязмежная радасць, невымерны смутак пасуюць яму,
    гордасць існуе для яго,
Бо годны гонар мужчынскі дае душы супакой і ўцеху,
І веды яму даспадобы, ён кожную рэч хоча сам даследаваць,
    быццам сябе выпрабоўвае,
Якім бы ні быў далягляд, якімі ні былі б і мора і плавание, ён лотам
    глыбіні мерае
(Бо дзе ж яму кідаць свой лот, як не там?).

Свяшчэннае цела мужчынскае, і жаночае цела свяшчэннае,
Чыё б ні было яно — цела заўсёды свяшчэннае: няхай гэта будзе цела раба
Ці затлумленага эмігранта, які толькі што сышоў на бераг,
Кожны патрэбен тут альбо там, як і той, што жыве ў дастатку, — гэткім жа,
    як і вы, патрэбен,
Кожнаму — ёй ці яму — дадзена месца сваё ў гэтым шэсці.
(Усё гэта — шэсце,
Сусвет — гэта таксама шэсце, са зладжанай, мернай хадою.)
Няўжо вы самі ведаеце гэтулькі многа, каб таго, хто ведае меней,
    абзываць невукам?
Няўжо вы лічыце, што маеце права асуджаць кагосьці, а ён ці яна —
    не мае?

Няўжо вы ўпэўнены, што распыленая матэрыя сабралася разам, нарадзіўшы
зямлю, што рэкі цякуць, зеляніна расце
Толькі для вас, а не для яго і не для яе?

7

На аукцыёне прадаецца цела мужчынскае
(Я раней, да вайны, часта хадзіў на нявольніцкі рынак і глядзеў,
як распрадаюць рабоў),
Памагу прадаўцу — ён, разява, дрэнна ведае сваю справу.

Панове, зірніце на гэты цуд!
Якую б цану ні даў за яго пакупнік — яе будзе мала ўсё роўна,
Дзеля яго зямля рыхтавалася квінцільёны гадоў,— без жывых істот,
без раслін,
Дзеля яго няспынна, дакладна змяняліся цыклы, круціліся светы.

У галаве яго — усеабдымны мозг,
Гэтая галава і гэтае цела ствараюць герояў.

Зірніце на рукі і ногі — чырвоныя, чорныя, белыя — у іх такія
ўмелыя мышцы і нервы,
Іх трэба хутчэй агаліць, каб вы іх пабачыць маглі.

Пачуцці адменныя, вочы, дзе струміць жыццё, адвага і воля,
Жмуты грудных мускулаў, гнуткія спіна і шыя, пругкія мышцы,
лад целаскладу, моцныя рукі і ногі,
А там, усярэдзіне, зноў-такі цуд.

Пульсуе ўсярэдзіне кроў,
Тая ж самая спаконвечная кроў! Тая ж самая ярка-чырвоная кроў!
Там б'ецца неспакойнае сэрца, там усе страсці, жаданні, імкненні і надзеі
(Ці можа вы думаеце, што іх там няма, бо пра гэта не чулі вы
ў гасцінных і лекцыйных залах?).

Ён не толькі адзін чалавек, ён бацька тых, што ў сваю чаргу
станучь бацькамі,
У ім выток і дзяржаў мнагалюдных, і рэспублік багатых,
Ад яго — незлічоныя вечныя жыцці са сваімі ўвасабленнямі і насалодамі.
Адкуль вы можаце ведаць, хто праз стагоддзі народзіцца ад спадкаемца
вашага спадкаемца?
(Хіба вы б дазналіся, калі б нават маглі прасачыць праз стагоддзі,
ад каго нарадзіліся самі?)

8

На аукцыёне прадаецца жаночае цела,
Яна таксама не адна, у ёй — безліч маці будучых матак,
Яна ў сабе носіць сыноў, якія ўзмужнеюць і стануць мужамі
для іншых мацярок.

Ці любілі вы калі-небудзь жаночае цела?
Ці любілі вы калі-небудзь цела мужчыны?
Ці ведаеце вы, што яны аднолькавыя былі ва ўсіх людзей, ва ўсіх народаў,
ва ўсе часы на ўсёй неабдымнай зямлі?

Калі і ёсць што-кольвек святое, то гэта цела чалавека святое,
І слава і слодыч мужчыны — ад знака яго ўзмужнеласці спелай;
І ў мужчыны і ў жанчыны чыстае, здаровае, тугое цела, яно прыгажэйшае
за самы прыгожы твар.

Ці бачылі вы дурня, які б сам сваё цела жывое паскудзіў?
Альбо вар'ятку, якая б здзекавалася над целам сваім?
Не, яны не схаваюць сябе і не змогуць такое схаваць...

## З БУРЛІВАГА АКІЯНА НАТОЎПУ

З бурлівага акіяна натоўпу выкацілася да мяне ласкавая кропля
І нашаптала мне: *«Я кахаю цябе, але я хутка памру, каханы мой,*
*Доўгі шлях я прайшла, каб толькі зірнуць на цябе і дакрануцца да цябе,*
*Бо я не магла памерці, не зірнуўшы на цябе хоць адзін раз,*
*Бо мне было так боязна, што я назусім згублю цябе»,*

Цяпер жа, калі мы з табою сустрэліся і пабачыліся — небяспека нас
не палохае,
Вяртайся спакойна ў свой акіян, мая каханая,
Я ж таксама кропля гэтага акіяна, мая каханая, і мы не так ужо
з табой і разлучаны.
Зірні на круглую кулю зямлі, дзе ўсё дасканала і счэплена, дзе ўсё
трымаецца разам,
Але што датычыць мяне і цябе, то неадольнае мора існуе для таго,
каб нас разлучыць:
Будзь жа цярплівай — на нейкі час — і ведай, што дзеля цябе,
мая каханая,
Штодзень пры захадзе сонца я слаўлю мора, зямлю і неба.

## МЫ ДВОЕ, ЯК ДОЎГА БЫЛІ МЫ СПАДМАНУТЫ

Мы двое, як доўга былі мы спадмануты,
А зараз мы іншымі сталі, на волю ўцяклі мы, як уцякае Прырода,
Мы самі Прырода, нас не было гэтак доўга, цяпер мы вярнуліся,
Мы сталі травою, стваламі, лістотай, карэннем, карою,
Мы ў глебе ляжым, бы ў пасцелі, мы скалы,
Мы дубы, мы побач расцём на паляне,
Мы, дзікія самі, пасёмся між дзікага статка і вольна траву мы скубём,
    як і іншыя,
Мы рыбіны дзве, што побач плывуць сярод мора,
Мы першыя кветкі расцвілай акацыі, мы водар навокал струменім
    на вузкіх сцяжынках і ўранку і ўвечары,
Мы перагной гэтаксама звяроў, раслін, мінералаў,
Мы два хіжыя ястрабы, мы ў небе крыляем і адтуль — зверху ўніз — глядзім,
Мы два бліскучыя сонцы, мы самі сябе ў раўнавазе трымаем, мы планетарныя,
    зорныя, мы — быццам дзве каметы,
Мы, ікластыя, чацвераногія, па лясных гушчарах, крадучыся, бадзяемся,
    на здабычу адным скачком нападаем,
Мы два воблакі, мы з ранку да вечара над галовамі адно за адным плывём.
Мы два моры, што воды змяшалі, мы дзве вясёлыя хвалі, якія
    адна праз адну куляюцца, адна адну абмываюць,
Мы, як паветра, празрыстыя, усё да сябе мы прымаем, мы пранікальныя
    і непраніклівыя,
Мы снег, мы дождж, мы холад, мы цемра, мы ўсё, што зямлёю створана,
Мы доўга кружылі ў прасторах, нарэшце, мы зноўку дадому вярнуліся,
    нас двое,
Мы пакінулі ўсё, апроч волі, і ўсё, апроч нашае радасці.

## АДНОЙЧЫ, КАЛІ Я ПРАХОДЗІЎ ПА ЛЮДНЫМ ГОРАДЗЕ

Аднойчы. калі я праходзіў па людным горадзе,
я імкнуўся запомніць — а раптам давядзецца скарыстаць некалі —
яго вуліцы, архітэктуру, звычаі, традыцыі,
Але зараз з усяго гэтага горада я памятаю толькі адну жанчыну,
якую я выпадкова сустрэў там і якая затрымала мяне, бо пакахала мяне,
Дзень у дзень, ноч у ноч мы былі ўдваіх — усё астатняе даўно ўжо забылася,
Я кажу, што помню толькі яе, гэтую жанчыну, якая так аддана
тулілася да мяне,
Зноў мы блукаем удваіх, мы кахаем і разлучаемся зноўку,
Зноў яна трымае мяне за руку — я не павінен пакідаць яе,
Бачу я ля сябе яе блізка, бачу яе маўклівыя вусны — дрыготкія і зажураныя.

## Я ЧУЎ ВАС
## УРАЧЫСТА-ЛАСКАВЫЯ ТРУБЫ АРГАНА

Я чуў вас, урачыста-ласкавыя трубы аргана, калі ў мінулую нядзелю
раніцою праходзіў каля царквы,
Я чуў вас, асеннія вятры, калі ў прыцемках ішоў праз лес,
чуў ваша працяжлівае ўздыханне — сумнае і тужлівае,
Я чуў бездакорнага італьянскага тэнара, калі ён спяваў у оперы,
я чуў сапрана ў квартэце;
Я чуў таксама і цябе, мая каханая, калі ты мінулай ноччу
ціха шаптала ля мяне, абдымаючы рукамі маю галаву,
Чуў пульс твайго сэрца, які ў начной цішыні звінеў каля майго вуха
званочкамі.

## КАЛІ Я, НІБЫ АДАМ, РАНА ЎРАНКУ

Калі я, нібы Адам, рана ўранку,
Хараша выспаўшыся, выходжу са свайго ляснога будана,
Паглядзі на мяне — там, дзе я іду, паслухай мой голас,
падыдзі да мяне бліжэй,
Дакраніся да мяне, дакраніся сваёю даланёю да майго цела,
калі я праходжу каля цябе,
Не бойся цела майго.

## ДЗЕЛЯ ЦЯБЕ, О ДЭМАКРАТЫЯ

Прыходзь, я зраблю сушу ўсю непадзельнаю,
Я ствару самую цудоўную расу, якой яшчэ не ведала сонца,
Я ствару дзівосныя, прыцягальныя краіны,
З любоўю таварышаў,
З пажыццёвай любоўю таварышаў.

Я пасею і выгадую, нібы густалістыя дрэвы, суполкі сяброў і таварыстваў
уздоўж усіх амерыканскіх рэк, і на ўзбярэжжах вялікіх азёр,
і ўсюды на прэрыях,
Я ствару гарады неразлучныя, якія пакладуць адзін аднаму
свае рукі на плечы,
З любоўю таварышаў,
З чалавечай любоўю таварышаў.

Гэта ўсё табе ад мяне, о Дэмакратыя, я слуга твой, сяброўка мая!
Дзеля цябе, дзеля цябе я спяваю гэтыя песні!

## КАЛІ Я ПАЧАЎ У КАНЦЫ ДНЯ

Каді я пачуў у канцы дня, як маё імя сустрэлі ў Капітоліі воплескамі,
тая ноч, што прыйшла ўслед за гэтым, усё ж не была для мяне
шчасліваю ноччу,
І нават калі мне здаралася балявать ці калі мае планы збываліся,
я таксама не быў шчаслівы.
Але той дзень, калі я ўстаў на світанні з пасцелі — свежы, поўны здароўя
і, напяваючы, радасна ўдыхнуў саспелую восень,
Калі я, зірнуўшы на захад, убачыў поўню, якая бляднела, знікаючы
ў ранішнім святле,
Калі я адзін выйшаў на бераг і, распрануўшыся, купаўся, смеючыся ад холаду
вады казытлівай, і бачыў, як сонца ўзыходзіла,
І калі я падумаў пра тое, што мой дарагі сябра, мой любы сябра
зараз у дарозе да мяне, о тады я быў дужа шчаслівы,
О тады кожны глыток паветра быў смачнейшы, і ежа, якую я еў той дзень,
была сыцейшаю, і прыгожы дзень так цудоўна прайшоў,
І гэтак жа вясёла прыйшоў і прайшоў яшчэ адзін дзень, а на наступны
пад вечар прыехаў мой сябра,
І ноч наступіла, і ўсё стала ціха, і я слухаў, як нетаропкія хвалі
няспынна адна за адной паціху накочваліся на бераг,
Я чуў, як шарготка шуршэлі пясок і хвалі — нібыта шапталіся, віншуючы мяне,
Бо той, каго я люблю больш за ўсіх, ляжаў зараз побач са мною,
спаў пад адною коўдраю ў гэту халаднаватую ноч,
І яго твар, асветлены ціхім месячным святлом, быў павернуты да мяне,
І яго рука легка ляжала ў мяне на грудзях,— і ў тую ноч быў
я шчаслівы.

## БАЧЫЎ Я ЖЫЦЦЯРОСЛЫ ДУБ У ЛУІЗІЯНЕ

Бачыў я жыццярослы дуб у Луізіяне,
Ён стаяў зусім самотны, і мох звісаў з яго галін,
Ён вырас без сяброў, пад вясёлы пошум сваёй зялёнай лістоты,
Выглядам сваім ён, грубы, нязломны, здаровы, быў надобен да мяне,
Але мяне дзівіла, як мог ён у адзіноце, без ніводнага сябра побач,
шапацець вось так весела лісцём, бо я на яго месцы не змог бы,
І я адламаў галінку з некалькімі трапятлівымі лісткамі і наматаў на яе
крыху моху,
І забраў яе з сабою, каб пакласці на самым прыкметным месцы ў маім пакоі;
Але не для таго, каб яна напамінала мне пра маіх дарагіх сяброў,
(Бо апошнім часам я амаль ні пра што іншае, а толькі пра іх і згадваю),
Аднак галінка гэтая застанецца для мяне цудоўным напамінкам,
які будзе прымушаць мяне думаць пра мужную любоў;
І хай сабе гэты жыццярослы дуб раскашуецца там, у Луізіяне,—самотны,
на шырокай і вольнай прасторы,
Хай сабе весела шуміць сваёю лістотаю, усё сваё жыццё не маючы блізка
сябра любімага,
Я ведаю дужа добра, што я так не змог бы.

## ВОСЬ ЗАРАЗ У СУМЕ І Ў РОЗДУМЕ

Вось зараз у суме і ў роздуме сяджу я самотны,
І мне здаецца, што ў іншых краінах ёсць іншыя людзі, якія ў хвіліну гэтую —
таксама і ў суме і ў роздуме, Здаецца. шго
варта мне ўгледзецца, і я іх убачу ў Германіі,
у Італіі, у Іспаніі, або ў Францыі,
Ці, можа, далёка-далёка ў Кітаі, Расіі, Японіі, яны гавораць
на іншых мовах,
Але мне здаецца, што, калі б я мог пазнаёміцца з імі, я пасябраваў бы з імі
гэтак жа, як і з людзьмі ў маёй краіне,
О, я ўпэўнены, што былі б мы братамі, мы б спадабаліся адно аднаму,
Я ведаю, што з імі быў бы я шчаслівы.

## КАЛІ Я ЧЫТАЮ ПРА ТРЫУМФАЛЬНУЮ СЛАВУ

Калі я чытаю пра трыумфальную славу герояў, пра перамогі
вялікіх генералаў — я не зайздрошчу гэтым генералам,
Ні прэзідэнту на яго прэзідэнцкай пасадзе не зайздрошчу, ні багацеям
у раскошных палацах,
Але калі я чую пра братэрства ўлюбёных, пра тое, як яны прыгожа жылі,
Як яны доўга ішлі па жыцці разам, ішлі праз небяспеку і людскую
зласлівасць і ўсё ж засталіся самі сабою,
Якія яны былі неразлучныя ў юнацтве, і ў сталым узросце, і ў
старасці, як яны любілі адно аднаго і якімі вернымі былі заўсёды,-
Тады я, задумаўшыся, паспешліва іду прэч, бо самая горкая зайздрасць
гоніць мяне адтуль.

## НІ МАШЫНЫ,
## ЯКАЯ Б ЛЯГЧЭЙШАЙ ЗРАБІЛА ПРАЦУ

Ні машыны, якая б лягчэйшай зрабіла працу, не прыдумаў я,
Няма ў мяне і іншых адкрыццяў,
Не змагу я таксама пакінуць пасля сябе і спадчыны, якую б можна было
запавяшчаць на будаўніцтва бальніцы ці бібліятэкі,
Не маю я і ўспамінаў пра подзвігі і славу Амерыкі,
Не будуць мяне шанаваць ні за розум, ні за літаратурны поспех,
ні за кнігі на паліцах,
Але ўсяго толькі некалькі радасных песень, якія шчасліва
трымцяць у паветры, пакіну я пасля сябе
Усім сябрам, усім закаханым.

## САСНІЎСЯ МНЕ ГОРАД

Сасніўся мне горад, які зваяваць немагчыма, хоць бы і напалі на яго
адразу ўсе краіны зямлі,
Я сніў, што гэта быў новы горад Сяброў,
Там вышэй за ўсё шанавалася ўлада моцнай, здаровай любові,
якая ўсім кіравала,
Якая была ў кожную гадзіну і ў кожным памкненні людзей таго горада,
У кожным іх слове і ў кожным іхнім паглядзе.

## ШТО, ВЫ ДУМАЕЦЕ, Я ХАЧУ ЎСЛАВІЦЬ, КАЛІ БЯРУ Ў РУКІ ПЯРО?

Што, вы думаеце, я хачу ўславіць, калі бяру ў рукі пяро?
Можа, ваенны карабель, велічны і прыгожы, які, раскрыліўшы ўсе свае ветразі,
праплыў, бачыў я, сёння паўз бераг?
Альбо асляпляльнае хараство мінулага дня? Альбо раскошу ночы,
якая атуляе мяне?
Ці фанабэрыстую славу і рост вялікага горада, які шырыцца
вакол мяне? Не!
Я ўсяго толькі хачу расказаць пра двух чалавек — звычайных, простых,—
якіх я ўбачыў у цесным натоўпе, каля прычала, дзе яны развітваліся,
як дарагія сябры:
Адзін, той, што заставаўся, вісеў на шыі ў сябра і горача цалаваў яго,
А той, што ад'язджаў, моцна сціскаў у абдымках таго, каго мусіў пакінуць.

## ЧАСАМ, КАЛІ Я ЛЮБЛЮ КАГО

Часам, калі я люблю каго, я вар'яцею ад боязі, што люблю
дарэмнаю любоўю,
Але зараз я веру, што марнай любові не існуе, плата за яе — тая ці іншая —
бывае заўсёды.
(Я палымяна любіў адну асобу, якая мяне не любіла,
І дзякуючы таму, я напісаў гэтыя песні.)

## ЗАРАЗ, НАПОЎНЕНЫ ЖЫЦЦЁМ

Зараз, напоўнены жыццём, відомы і рэальны,
Я, саракагадовы, на гэтым восемдзесят трэцім годзе нашых Штатаў,
Чалавеку праз стагоддзе ці праз многа стагоддзяў ад нашага часу наперад,
Табе, яшчэ ненароджанаму, пасылаю я гэтыя радкі, якія будуць шукаць цябе.

Калі ты прачытаеш іх, я, што быў калісьці відомы, ужо невідомым
зраблюся,
Цяпер ужо ты —рэальны, відомы, разумеючы мае паэмы, шукацьмеш мяне,
Уяўляючы, які́м бы ты пачуваўся шчаслівым, калі б я з табою быў побач,— я ж
мог нават стаць табе сябрам;
Дык няхай усё будзе так, быццам я і напраўду з табою. (Не вельмі ты будзь
упэўнены, што вось зараз я не з табой.)

## З ПАЭМЫ «ПРЫВІТАННЕ СВЕТУ»

1

О, вазьмі за руку мяне, Уолт Уітмен!
Якое мігценне цудаў! Якія відзежы і гукі!
Які бясконцы шэраг злучэнняў, дзе ўсё між сабою счэплена,
Дзе кожная дробязь за ўсіх адказвае і кожная разам з усімі зямлёю валодае.

Якія ў табе прасторы, Уолт Уітмен?
Якія хвалі і землі ўзніклі?
Якія кліматычныя паясы? Якія людзі і гарады тут?
Хто гэтыя дзеці — тыя, якія гуляюць, і тыя, што спяць?
Хто гэтыя дзяўчаты? Хто гэтыя замужнія жанчыны?
Хто гэтыя людзі старыя, што ціха, паволі ідуць, абапіраючыся
адно на аднаго?
Якія гэта рэкі? Якія лясы і плады?
Якія гэта высокія горы, што бачны ў смузе, у засціле?
І мірыяды жытла, напоўненага людзьмі?

13

Мая душа, напоўненая спачуваннем і рашучасцю, прайшла па ўсёй зямлі,
Я шукаў сабе роўных усюды, дарагіх мне сяброў шукаў, і знайшоў іх —
яны гатовыя паразумецца са мною ва ўсіх краінах,
Я думаю, штосьці надзвычайнае паядноўвае мяне з імі.
Я з вамі, туманы, уздымаўся, і з вамі ляцеў на далёкія кантыненты,
і там асядаў разам з вамі,
Я дзьмуў разам з вамі, вятры,
Я з вамі, ласкавыя хвалі, прыпадаў да кожнага берага і трымаўся
за кожны рукамі,

Я цёк разам з вамі, пратокі ўсе і ўсе рэкі, якія толькі цякуць па зямлі,
Я на выспах пясчаных спыняўся і на скалах стромых, высокіх,
каб крыкнуць адтуль:
«Salut au Monde!»

Ва ўсе гарады, у якія прасочваецца святло і цеплыня, прасочваюся і я,
Да ўсіх астравоў, куды птушкі кіруюць палёт свой, кірую і я свой палёт.

Да ўсіх вас, ад імя Амерыкі
Я працягваю высока ўзнятую ўгору руку, я пакідаю вам знак,
Каб ён застаўся пасля мяне і быў заўсёды відзён
З усіх прыстанішч людскіх, дзе чалавек жыве і куды ён любіць вяртацца.

## З ПАЭМЫ «ПЕСНЯ ПРА ВЯЛІКУЮ ДАРОГУ»

1

Пехатой, бесклапотны, на дарогу вялікую я выходжу,
Я здаровы і вольны, і ўвесь свет ляжыць прада мною,
Гэта доўгая бурая паска навядзе мяне, куды мне захочацца.

Ад сёння не шукаю я добрае долі, бо я сам сабе добрая доля,
Ад сёння я ўжо не скарджуся, не вагаюся болей і ні ў чым патрэбы
Бывайце, хваробы, кнігі, бурклівыя звады,—
Вясёлы і дужы, я радасна крочу па шырокай дарозе наперад.

Зямля — гэта ўжо для мяне дастаткова,
Мне не трэба, каб сузор'і бліжэй да мяне апускаліся,
Я ведаю, што ім і там няблага, дзе яны зараз,
Я ведаю, што зоры патрэбны і тым, каму яны здаўна належаць.

(А я тут нашу свой даўні, прыемны цяжар,
Я нашу іх, мужчын і жанчын, я нашу іх з сабою, куды б ні ішоў,
Я клянуся, што мне немагчыма вызваліцца ад іх,
Я напоўнены імі, і сам напаўняю ў сваю чаргу іх.)

2

Я іду па табе, дарога, іду і ўзіраюся, але мне здаецца, што бачу
не ўсё я,
Мне здаецца, ты маеш многа такога, што ўбачыць не проста.
Ты вучыш быць мудрым: усё прыняць, не адрынуць нікога, не аддаць
перавагі нікому,

Кучаравы негр, злачынец, хворы, непісьменны — для ўсіх ты,
дарога, адкрытая;
Хтосьці раджае, нехта спяшае за лекарам, чыкільгае жабрак,
улукаткі п'яны ідзе, механікі крочаць гурмой і смяюцца,
Падлетак, што з дому збег, багацея карэта, франт шыкоўны, двое закаханых,
якія ўцякаюць, каб пажаніцца таемна,
Гандляр, што ні свет ні зара спяшае на рынак, катафалк, калёсы —тыя,
што ў горад мэблю вязуць, і тыя, што вяртаюцца з горада,
Яны праходзяць, і я праходжу, і ўсе праходзяць, і ніхто не замінае
нікому,
І няма ніводнага, каго б не прыняла дарога, няма нікога, хто б не быў
для мяне жаданы.

3

Ты, паветра,— табою я дыхаю і табой гавару!
Вы, рэчы, з якіх нараджаецца і форма і сэнс маіх думак!
Ты, святло, што мяне і ўсё, што навокал мяне, лёгкай смугой, бы дажджом,
ахінаеш!
Вы, утаптаныя сцежкі, што туліцеся ўзбоч дарогі!
Мне здаецца, што ў вас прыхаваны нябачныя жыцці, і таму вы мне
ўсе дарагія.

Вы, брукаваныя тратуары гарадоў!
Вы, дыхтоўныя парапеты вуліц!
Вы, паромы! Вы, дошкі і с лупы на прыстанях! Вы, судны ў рыштаваннях!
Вы, далёкія караблі!
Вы, натоўпы дамоў! Вы, фасады, працятыя вокнамі! Вы, дахі і стрэхі!
Вы, веранды і шыкоўныя брамы! Вы, балясы і прыгожыя жалезныя агароджы
каля дамоў,
Вы, вокны, чыё празрыстае шкарлупінне так многа хавае і так многа можа
адкрыць нам,
Вы, дзверы і прыступкі, што ўздымаюцца ўгору! Вы, аркі!
Вы, шэрыя камяні тратуараў бясконцых! Вы, пераходы, вытаптаныя
нагамі прахожых!

Многа вы памятаеце, і, я думаю, усё, што да вас дакраналася, вы ўвабралі
ў сябе і ўсё гэта перадаеце мне зараз употай,
Вы паверхні свае засялілі жывымі і мёртвымі, а з іхнімі душамі
я сустрэнуся і пасябрую.

4

Зямля распасціраецца праваруч і леваруч,
Нібы ажывае малюнак, дзе кожная дробязь асветлена гэтак цудоўна,
Музыка ліецца туды, дзе чакаюць яе, і змаўкае там, дзе яна непатрэбная,
Вясёлы гоман шматлюднай дарогі, радаснае і бадзёрае адчуванне дарогі.

О дарога прасторная, гэта ты ў мяне ціха пытаешся: *«Не пакінеш мяне?»,*
Ці гаворыш: *«Не рызыкуй пакідаць, бо як толькі пакінеш — ты
загінуў, лічы»?*
Альбо кажаш: *«Я гэтак гладка ўтаптаная, гатовая, адкрытая для
ўсіх — і ты трымайся мяне»?*

«О дарога ўсялюдная,— кажу я ў адказ,— я не баюся з табой расставацца,
але ж я вельмі люблю цябе.
Ты разумееш мяне нават лепей, чым я сам сябе разумею.
Ты даражэйшая мне нават за песню, праспяваную мною».

Я думаю, усе гераічныя ўчынкі на вольным прасторы народжаны,
і вольныя песні — таксама зачаты на вольных вятрах,
Я думаю, і сам бы я мог спыніцца вось тут і дзівы, і цуды спяліць,
Я думаю, кожны, хто стрэнецца мне ў дарозе, будзе мне даспадобы,
і ўсе, хто пабачыць мяне, спадабае мяне,
Я думаю, усе, каго б я толькі не ўбачыў, мусяць шчаслівымі быць.

5

Ад сёння я ўрачыста агалашаю, што я вольны ад розных уяўных
абмежаванняў і выдуманых повязяў,
Іду, куды ўздумаецца, сам сабе гаспадар, поўны і непадзельны,

Прыслухоўваюся да іншых, хораша ўдумваюся ў тое, што яны кажуць,
Супыняюся, вывучаю, парады прымаю, мяркую,
Ціха, але настойліва выблытваюся з путаў, якія маглі б мяне затрымаць.
Вялікімі глыткамі я ўдыхаю, нібы скразнякі, прастору,
Усход і захад — мае, поўнач і поўдзень — мае.

Я большы і лепшы, чым я думаў.
Я нават і сам не ведаў, што ўва мне столькі дабрыні.
Усё мне здаецца прыгожым,
Я зноўку і зноўку магу паўтараць мужчынам і жанчынам: вы былі
такія шчодрыя да мяне, што я хачу вам аддзячыць тым жа,
Усё, чым я ўзбагачуся ў дарозе, я ўзбагачуся дзеля сябе і дзеля вас,
Я раздам сябе ўсім, каго на шляху сваім стрэну,
Я падкіну ім новую радасць і грубую сілу,
І хто адмовіць мяне — той не засмуціць мяне,
А хто прыме мяне — той, ён ці яна, будзе сам шчаслівы і
ашчасліўіць мяне.

6

Калі б тысяча найцудоўных мужчын з'явілася зараз перада мною, гэта б
не здзівіла мяне,
Калі б тысяча найпрыгажэйшых жанчын паўстала зараз перада мною, гэта б
таксама не ўразіла мяне.

Цяпер я зразумеў таямніцу, як ствараюцца самыя цудоўныя людзі:
Ім трэба расці на вольным паветры, есці і спаць пад адкрытым небам,
убіраць у сябе і сонца і дождж, як убірае зямля.

Тут месца хапае для кожнага гераічнага подзвігу
(Для такога подзвігу, які палоніць сэрцы ўсіх на свеце людзей,
Які мае столькі моцы і волі, што змятае ўсе законы, пацяшаецца над уладамі
і высмейвае ўсе пярэчанні сабе).

Тут правяраецца мудрасць,
Канчаткова мудрасць правяраецца не ў школах,
Мудрасць нельга перадаць ад таго, хто яе мае, таму, у каго яе няма,
Мудрасць ідзе з душы, яна не падуладна доказам, яна сама сабе доказ,
Яна заўсёды і ўсюды, у кожнай рэчы і з'яве,— яна іхні змест,
Яна сцвярджае ўпэўнена рэальнасць і бессмяротнасць свету і яго
дасканаласць сцвярджае;
У плыні і з'яў і рэчаў ёсць штосьці такое, што ў душы абуджае мудрасць.

Зноў я пераглядаю ўсе філасофіі і рэлігіі,
Можа, яны правільныя і прыдатныя толькі ў класах і аўдыторыях,
але нікуды не вартыя пад высокімі аблокамі, сярод краявідаў
прыроды, ля ручаёў струмлівых.

Тут кожны зразумее, чаго ён варты,
Тут кожны адчуе, кожны ўбачыць, што ён мае ў сабе.
Мінулае, будучыня, веліч, каханне — калі ты існуеш без іх, значыць,
і яны існуюць без цябе.

Толькі зерне жывіць кожную рэч;
Дык хто ж абшалушыць яго для цябе і для мяне?
Хто разблытае ўсе вузлы, усе мудрагельствы жыцця — для цябе і для мяне?

Тут людзі горнуцца адзін да аднаго, а такое не запלануеш загадзя,
гэта заўсёды ўзнікае стыхійна;
А ці ведаеш ты, што гэта значыць, калі незнаёмцы сустрэчныя
любяць цябе?
А ці ведаеш ты гаворку іхніх вачэй, што глядзяць на цябе?

9

Хадзем! Хто б ты ні быў, выходзь, і мы пойдзем з табою поплеч!
Вандруючы са мною, ты адкрыеш тое, што не стамляе ніколі.

Зямля не стамляе ніколі,
Спачатку зямля грубай, маўклівай і незразумелай здаецца, Прырода — гэткая ж грубая і незразумелая напачатку,
Але ты не засмучайся, наперад ідзі, там схаваны дзіўныя дзівы,
Я клянуся табе, ёсць там гэткія дзівы, што пра іх прыгажосць
нельга словамі расказаць.

Хадзем! Не павінны мы тут прыпыняцца,
Хай сабе крамы напханы шчодра запасамі, хай сабе і жытло такое ўтульнае — мы не можам застацца тут,
Хай сабе гавань ад бур беражэ, хай сабе воды спакойныя — мы не можам кінуць тут якар,
Хай сабе людзі гасцінныя нас прывецілі шчыра — мы ж іх гасціннасць можам прыняць не болей, як на хвілінку.

10

Хадзем! Спакуса можа быць яшчэ болей зманлівая,
Мы пабурунім па морах нязведаных, што ніякіх шляхоў не маюць,
Мы паспяшаем туды, дзе ятрацца ветры, дзе абрынаюцца хвалі, дзе кліпер, кіруемы янкі, імклівіць наперад, распусціўшы ўсе ветразі.

Хадзем! Мы з сабою бярэм сілу і волю, зямлю і стыхію,
Здароўе, непакору, бадзёрасць, годнасць, цікаўнасць;
Хадзем! Ад усіх вашых дактрын — хадзем!
Ад усіх вашых казанняў, о бяздушныя папы-матэрыялісты з вачыма кажаноў.

Смуродны труп ляжыць на нашай дарозе — зараз жа, не марудзячы, пахаваем яго.
Хадзем! Але папярэджваю цябе:
Са мною пойдзе толькі той, хто мае самую лепшую кроў, цярплівасць і мускулы,
Я не вазьму з сабою ў дарогу тых, хто не мае здароўя і мужнасці,
Не прыходзьце сюды тыя, хто ўжо змарнаваў свае самыя лепшыя сілы,

Толькі тыя ідуць хай са мной, у каго моцнае і вынослівае цела. Не патрэбны мне хворыя, п'яніцы і венерыкі.
(Я і такія, як я, пераконваем не аргументамі, пароўнаннямі, рыфмамі,
А сваёю прысутнасцю пераконваем мы.)

11

Слухай! Я з табой буду шчыры,
Я не хачу табе абяцаць звыклых, прыемных узнагарод, я абяцаю табе новыя, грубыя,
Вось якімі будуць твае дні, што чакаюць цябе наперадзе:
Ты не будзеш назапашваць і складаць у кучы тое, што называюць багаццем,
Ты будзеш раздаваць шчодрай рукою ўсё, што нажывеш і заробіш,
Ты, увайшоўшы ў горад, які табе спадабаецца, не будзеш затрымлівацца ў ім надоўга, а пойдзеш далей, падпарадкоўваючыся неспатольнаму поклічу вандравання.
Цябе правядуць іранічнымі ўсмешкамі, з цябе будуць пацяшацца тыя, хто застаецца там,
Але нават на неадольны покліч кахання ты адкажаш толькі палкім пацалункам,
І не паслухаешся шчыра працягнутых да цябе рук, якія захочуць цябе ўтрымаць.

13

Хадзем! Да таго, што не мае канца і не мае пачатку,
Каб вытрываць многае: пераходы — удзень і прывалы — уночы,
Каб усё паяднаць у мэце, у сваім падарожжы, для якіх —усе нашы дні, нашы ночы,
Каб зноўку сустрэцца ў новых, больш значных вандроўках,
Каб нічога ў дарозе не бачыць, апроч мэты — дайсці да яе і, мінуўшы, пакрочыць наперад,
Каб не заўважаць ні часу, ні прасторы, а бачыць адно толькі мэту, дайсці да яе і, мінуўшы, пакрочыць наперад,

Каб не бачыць іншых шляхоў, толькі тую бачыць дарогу, што разлеглася
перад табою і чакае цябе,— якой бы доўгай яна ні была,
Каб убачыць стварэнняў розных, якіх бог стварыў ці хто іншы,
якія ідуць да той жа мэты, да якой праступеш і ты,
Каб зразумець, што няма такіх скарбаў, якімі б не мог ты валодаць
без грошай і працы, маючы на свяце жыцця ўсё, але не забіраючы
з сабою ніводнай макулінкі,
Каб узяць усё самае лепшае з фермы фермера і з элегантнай вілы багацея,
і цнатлівую ўцеху шчаслівай у шлюбе пары, і кветкі садоў,
і плады ў садах,
Каб узбагаціцца душою ад шчодрасці кожнага горада, па якім
табе давядзецца прайсці,
Каб несці потым з сабою яго будынкі і вуліцы, несці паўсюль іх,
куды ты ні будзеш ісці,
Каб пасабраць у адно пры сустрэчах з людзьмі думкі з іхніх галоў,
а з сэрцаў — каханне,
Каб за сабою павесці ўпадабаных усіх і дзеля іх астатніх пакінуць,
Каб зразумець, што сусвет — гэта шлях, гэта мноства шляхоў, шляхоў і дарог
для душ падарожных.

Усё саступае дарогу душам, якія ідуць наперад,
Усе рэлігіі, усе звыклыя рэчы, мастацтвы, урады — усё, што было
альбо ёсць відомае на гэтай планеце ці на іншых планетах,
разбягаецца па кутках і хаваецца ў шчыліны перад шэсцем душ
на вялікіх дарогах сусвету,

Усякі іншы рух наперад — толькі сімвал і падтрымка гэтага
шэсця мужчынскіх і жаночых душ па вялікіх шляхах сусвету.
Вечна жывым — вечна наперад ісці,
Паважаныя, урачыстыя, зажураныя, сцятыя, збітыя з панталыку,
вар'яты, палкія, непакорныя, слабыя, незадаволеныя,
Роспачныя, гордыя, даверлівыя, хворыя, прызнаныя іншымі людзьмі
ці адрынутыя іншымі людзьмі,—

Яны ідуць! Яны ідуць! Я ведаю, што яны ідуць, але не ведаю, куды яны ідуць,
Толькі ведаю, што яны ідуць да чагосьці самага лепшага — да чагосьці самага вялікага.

Хто б ты ні быў, выходзь! Мужчына ці жанчына — выходзь!
Ты не павінен адсыпацца і бавіць час у сваім доме, нават калі ты пабудаваў яго сам ці калі табе пабудавалі яго іншыя.

Выходзь з цёмнага самазняволення! Выходзь з-за шырмаў!
Не варта пярэчыць — я ведаю ўсё і таму рассакрэчу тваю таямніцу.

Бачу цябе я наскрозь, ты не лепшы ад іншых,
Ты не заслонішся ад мяне ні смехам, ні танцамі, ні полуднем, ні вячэраю, ні купкаю людзей,
Скрозь адзенне і ўсе ўпрыгожанні на гэтым вымытым, чыстым, дагледжаным твары
Бачу маўклівую і прыхаваную нянавісць, бачу адчай.

Не давяраючы сваёй споведзі ні жонцы, ні мужу, ні сябру,
Другое «я», двайнік кожнага, панура і палахліва хаваецца па цёмных кутках,
Нямы і бесцялесны на вуліцах гарадоў, далікатны і пачцівы ў гасцiных,
У чыгуначных вагонах, на параходах, на шматлюдных зборнях,
Гасцюючы ў мужчын ці ў жанчын, за сталом, у спальні, паўсюль,
Шыкоўна апрануты, рассмяяны, са стройнаю паставаю, а ў грудзях — смерць, а пад чэрапам — пекла,
У адзенні з тонкай тканіны, у пальчатках, пад банцікам, з папяровымі кветкамі,
Прытрымліваючыся звычаяў, ён нічога не гаворыць пра сябе,
Гаворыць пра ўсё, але нават паўслова не кажа пра сябе.

15

Хадзем! Дарога ляжыць перад намі!
Яна бяспечная— я прайшоў яе сам, мае ногі перамералі яе хораша — дык не марудзь жа!
Няхай папера застаецца на пісьмовым стале няспісаная, на паліцы — неадкрытая кніга!
Няхай інструменты застануцца ў майстэрнях! Няхай і грошы не будуць зароблены!
Няхай школа стаіць парожняю! Не звяртай увагі на кліч настаўнікаў!
Няхай святар вядзе сваю Казань з амбону! Няхай адвакат просіць апраўдання, а суддзя — вымагае падпарадкавацца законам.

Таварыш! Я даю табе сваю руку!
Я даю табе сваю любоў, якая каштоўней, чым грошы,
Я даю табе самога сябе наперад усіх павучанняў і законаў;
Ну, а ты, ці аддасі мне сябе? Ці пойдзеш са мною ў дарогу?
Ці будзем мы з табою падтрымліваць адзін аднаго праз усё жыццё?

## З ПАЭМЫ «НА БРУКЛІНСКІМ ПАРОМЕ»

Не перашкодзіць нішто нам — ні час, ні месца, і нават прастора
для нас не замінка,
Я з вамі, мужчыны, жанчыны цяперашняга пакалення і з безліччу
пакаленняў наступных,
І тое, што адчуваеце вы, гледзячы на ваду і неба,— паверце,
гэта ж і я адчуваў,
І я калісьці часцінкаю быў жывога натоўпу, такі ж гэтаксама,
як і кожны з вас,
Як вас асвяжае, поўнячы радасцю, дыханне ракі з незамглёнаю плынню,
так і мяне яно асвяжала,
Як вы стаіцё, нахіліўшыся па-над поручнямі, і плывяце з хуткаплынным
патокам, так і я стаяў, адплываючы, і нішто мяне
не прыспешвала,
Як вы глядзіцё на незлічоныя мачты караблёў і шырокія трубы параходаў,
так і я глядзеў.

Я таксама ў даўнія часы безліч разоў пераплываў гэтую раку і
бачыў сонца на захадзе,
Бачыў снежаньскіх чаек высока ў небе, бачыў, як яны на нерухомых крылах,
ледзь пагойдваючыся ў палёце, луналі над вадою,
Бачыў, як жоўта пераліваласся ў сонечных промнях частка іх цел,
а другая была ў глыбокім ценю,
Бачыў павольныя кругі, што паступова плылі к небасхілу, на поўдзень,
Бачыў, як блакітнае летняе неба адбіваецца ў вадзе,
Мае вочы асвятляў зыркі след ад сонечных промняў,
Я глядзеў на прыгожыя цэнтрабежныя спіцы святла, якія, нібы арэол,
ззялі вакол ценю маёй галавы на асветленай сонцам вадзе,
Я любаваўся смугою, якая ахінала пагоркі на поўдні і на паўднёвым
захадзе,

З У. Уітмен

Глядзеў на туман, што кучаравіўся, нібы воўна баранчыкаў, і ледзь-ледзь
адліваў фіялетавым.
Глядзеў на заліў, бачыў караблі, што ў порт уваходзяць,
Бачыў, як набліжаліся яны, а на іх — знаёмых і блізкіх мне бачыў,
Бачыў белыя ветразі шхун і шлюпак, бачыў караблі на якары,
Матросаў за працай на палубе і тых, хто, расставіўшы ногі,
снасці мацуюць, што лезуць на мачты,
І круглыя мачты, і хісткія корпусы, і вузкія вымпелы, што ўюцца, бы змейкі,
Рух вялікіх і малых параходаў, і лоцманаў у рулявых рубках,
Белы след на вадзе за кармою, колы, што аж дрыжаць ад хуткага вярчэння,
Сцягі ўсіх народаў, як іх апускаюць пры захадзе сонца, бачыў,
Упрыцемку хвалі з краямі, быццам карункі, нібыта поўныя кубкі,
мігценне святлівых, вясёлых іх грэбняў,
Прастора, якая шырэе, расце і засціцца ўдалечы, гранітныя шэрыя сцены
партовых складоў,
На рацэ надвячоркам — гурт ледзьве бачных буксіраў у прысмерку,
да якіх з двух бакоў прытуліліся баржы, і лодкі, што з сенам,
і сям-там прыпозненыя ліхцёры,
А на суседнім беразе палыханне ў цемры агню з камінoў ліцейных
цэхаў, што палае высока і ярка — ажно вочы слепіць уночы,
І чорнае начное мігценне кантрастуе з шалёным чырвоным і жоўтым
святлом, якое скача па дахах дамоў і ў цяснінах вуліц паміж дамамі.

## З ПАЭМЫ «ПЕСНЯ РАДАСЦЯЎ»

О, стварыць бы самую ўрачыстую песню!
Поўную музыкі — поўную мужчынскай, жаночай спеласці і наіўнага дзяцінства!
Поўную звычайнай людской працы, поўную дрэў і зярнят.

О, калі б ёй галасы ўсіх жывёл, раўнавагу і хуткасць рыбін!
О, калі б у песні капалі кроплі дажджу!
О, калі б ззяла ў ёй сонца і каціліся хвалі ў песні!

О, радасць маёй душы — яна, вольная, нібы з клеткі выпушчаная,—
пражыхнула маланкаю!
Мне мала ўсяго зямнога шара, мне мала аднаго цеснага стагоддзя,
Мне трэба абавязкова тысячы такіх шароў і ўсе, як адно, стагоддзі.

О, радасць машыніста! Весці паравоз!
Каб слухаць шыпенне пары, чуць прарэзлівы, вясёлы крык паравоза,
яго свіст, яго ўзбуджаны смех!
Каб вырвацца ў вольны прастор і імчацца ўдалячынь без перапшод.

О, бесклапотнае блуканне па палях і пагорках!
Кветкі і лісцё звычайнага пустазелля, вільготная прахалода і цішыня лясоў,
Прывабны водар зямлі на світанні і раніцу ўсю.

О, радасць імчаць — ёй ці яму — на кані!
Сядло, галоп, моцна прыціскацца да сядла і слухаць тугое журчанне ветру
ў валасах і ў вушах.
О, радасць пажарніка!
Я чую трывогу ў самую поўнач,
Я чую звон і крыкі! Я бягу, я абганяю натоўп!
Бачу полымя і аж вар'яцею ад захаплення.

О, радасць барца з моцнымі мускуламі, які, нібы вежа, узвышаецца
на рынгу і, хараша натрэніраваны, разумеючы сваю перавагу ў сіле,
прагне хутчэй сустрэцца з праціўнікам.

О, радасць вялікага, звычайнага спачування, якое толькі чалавечая душа
можа выпраменьваць такім роўным і такім невычэрпным свячэннем!

О, радасць маці!
Гадаваць, маючы вытрымку, дараваць, бязмежна любіць, пакутаваць
і заўсёды цярпліва раджаць новыя жыцці.

О, радасць памнажэння, росту, аднаўлення сіл,
Радасць спакою і ціхамірнасць згоды і ладу.

О, каб вярнуцца туды, дзе я нарадзіўся,
Каб яшчэ раз пачуць, як шчабечуць птушкі,
Каб пахадзіць дзеля ўцехі па роднаму селішчу, каля гумнаў патупаць,
у палях пабываць яшчэ раз
І яшчэ раз прайсціся па садзе, па старых яго сцежках...

О, радасць мужнай пары самастойнасці, годнасці!
Каб не ўкленчваць ні перад кім і ні ў чым не ўступаць ніякому тырану —
хай вядомаму ці невядомаму,
Каб хадзіць, не згінаючы спіну, лёгкім, пружыністым крокам,
Каб глядзець супакоеным поглядам альбо тым, дзе маланкам аж цесна,
Гаварыць паўнагучным голасам, што з шырокіх грудзей выдыхаецца,
І разумець, што ты — такая ж асоба, як і кожны чалавек на зямлі.

Ці ведаеш ты чароўныя радасці юнацтва?
Радасці моцнай дружбы, і вясёлага слова, і рассмяяных вачэй?
Радасці шчаслівага прамяністага дня, радасці гульняў, якія
поўняць нам грудзі?
Радасці прыемнай музыкі, радасці асветленай залі і тых,
хто кружыцца ў танцы?
Радасці шчодрых абедаў, разгульных пагулянак, гасціны?

І ўсё ж, о, мая душа, ты вышэй за ўсё!
Ці ведаеш ты радасці засяроджанага роздуму?
Радасці вольнага і замаркочанага сэрца, пяшчотнага, засмучанага сэрца?
Радасці самотных блуканняў толькі сам-насам са скаронаю, але гордай
душою, радасці перажыванняў і барацьбы?
Боль і пакуты, экстазы, радасці насалодных роздумаў — удзень і ўначы?
Радасці думак пра Смерць, пра вялікія сферы Прасторы і Часу?
Прарочая радасць чакання лепшай, узнёслай, ідэальнай любові,
якою абдораць цябе цудоўная жонка і слаўны, і шчыры,
і вечны твой сябра?
Радасці ўсе твае бессмяротныя — такія ж, як і сама ты, душа.

О, пакуль я жыву, хачу быць не рабом, а ўладаром жыцця,
Хачу стрэціць жыццё, як сустракае яго пераможца сапраўдны,
Ніякага раздражнення, ніякага суму, без скаргаў і без прыдзірлівых кпінаў,
Я хачу даказаць гэтым гордым законам паветра, вады і зямлі,
што душа мая ім непадлеглая
І што няма такой знешняй сілы, якая магла б узяць верх нада мною
і загадваць мне...

## З ПАЭМЫ «ПЕСНЯ ПРА ТАПОР»

1

Моцны, голы, шэра-бледны,
Галаву дасталі з нетраў,
Косць — з металу, скура — з дубу, аднарукі, аднагубы,
Жар спяліў той ліст ці мала, ручку — зерне ўзгадавала,
Абапёрся на травіны,
Сам апорай стаць павінен.

Моцныя абрысы і ўласцівасці гэтых абрысаў — мужчынская праца,
якую можна пачуць і ўбачыць,
Сімвал, чарада розных рэчаў, якія складаюць адно цэлае, наплывы музыкі,
Пальцы арганіста, якія нервова шукаюць мелодыю на клавішах
вялікага аргана.

2

Вітанне ўсім краінам зямлі, кожнай па-свойму,
Вітанне краінам сасны і дуба,
Вітанне краінам лімона і фігі,
Вітанне краінам золата,
Вітанне краінам пшаніцы і маісу, вітанне вінаградным краінам,
Вітанне краінам цукру і рысу,
Вітанне краінам бавоўны, вітанне краінам белай бульбы і салодкай бульбы,
Вітанне гарам, раўнінам, пяскам, лясам, прэрыям,
Вітанне берагам урадлівых рэк, пласкагор'ям, цяснінам,
Вітанне бязмежным пашам, вітанне плодным землям, багатым на сады, лён,
каноплі, мёд,
Вітанне такое ж гарачае і суровым краінам,

Гэткім жа багатым, як і краіны золата, садавіны, пшаніцы,
Краінам капальняў і рудняў, краінам шурпатых, насычаных руд,
Краінам вугалю, медзі, волава, цынку, свінцу,
Краінам жалеза — краінам, дзе нараджаюцца тапары.

4

Сіла і смеласць — назаўсёды!
Што ўзвышае жыццё, тое ўзвышае і смерць,
І мёртвыя ідуць наперад, як і жывыя,
І будучыня невядомая нам не болей, чым сучаснасць,
І грубасць зямлі і чалавека месціць у сабе не меней, чым пяшчотнасць зямлі
і чалавека,
І нішто не вечнае, акрамя чалавечай годнасці, што стварае асобу.

Што, вы лічыце, жыве вечна?
Можа, вы думаеце, што вялікі горад вечны?
Ці шматлюдная індустрыяльная дзяржава? Ці падрыхтаваная канстытуцыя?
Ці як найлепей збудаваныя вялізныя караблі?
Ці атэлі з граніту і жалеза? Ці якія-небудзь шэдэўры дойлідства,
альбо крэпасці і гарматы?

Кіньце вы — не! Самі па сабе ўсе гэтыя рэчы не маюць каштоўнасці,
Яны толькі запаўняюць свой час — як танцоры, што скачуць, як музыкі,
што граюць для іх,
Спектакль мінае, усё ідзе як мае быць,
Усё ідзе дужа добра, спакойна, пакуль не палыхне непакора.

Горад вялікі — калі ў ім жывуць самыя лепшыя мужчыны і жанчыны,
І хай сабе ў ім толькі некалькі вартых жалю хацін, ён усё роўна
тады можа стаць найвялікшым горадам ва ўсім свеце.

7

Бясплодны пейзаж хавае пад сабою руду — ён цудоўны,
нягледзячы на такі свой несамавіты выгляд.
Вось тут рудня, тут рудакопы,
Тут плавільная печ, закончана плаўка, стаяць кавалі наўзгатове
з молатамі і кляшчамі,
Тое, што служыла заўсёды і служыць заўсёды,— вось яно, пад рукамі.

Нішто не служыла лепей, чым гэта,— тапор служыў хараша ўсім.
Служыў красамоўным, умелым грэкам і служыў задоўга да іх,
Служыў пры ўзвядзенні самых трывалых дыхтоўных будоў, якія жылі даўжэй,
чымся іншыя,
Служыў іудзеям, персам, старажытным індусам,
Служыў тым, хто насыпаў курганы на Місісіпі, памагаў тым, чые
вялікія руіны, як помнікі, засталіся ў Цэнтральнай Амерыцы,
Служыў альбійскім храмам у лясах і на раўнінах з іх грубаю каланадаю,
служыў друідам.
Служыў для высякання пячораў — вялізных, высокіх і змрочных —
у снежных гарах Скандынавіі,
Служыў тым, хто ў далёкія часы рабіў на гранітных сценах
нязграбныя накіды сонца, месяца, зорак, суднаў, хваль акіянскіх,
Служыў у дарозе пры нашэсці готаў, служыў плямёнам пастухоў і намадам,
Служыў старадаўнім кельтам, служыў суровым піратам балтыйскім,
Служыў яшчэ раней, чым ім, старажытным, бяскрыўдным жыхарам Эфіопіі,
Служыў для вырабу рулёў на вельботы прагулачныя і на тыя, што
для вайны аснашчаюцца,
Служыў пры ўсіх вялікіх работах на сушы і пры ўсіх вялікіх работах на моры,
Сярэднім вякам і яшчэ больш даўнім, чым сярэднія вякі,
Служыў не толькі жывым, тады і цяпер, але і мёртвым служыў.

71

Бачу еўрапейскага к    та:

Ён стаіць у масцы, апрануты ў чырвонае, на вялізных нагах,
мае дужыя голыя рукі,
І абапіраецца на вельмі цяжкі тапор.

(Хто была твая апошняя ахвяра, кат еўрапейскі?
І чыя гэта кроў на табе, такая ліпкая і яшчэ неабсохлая?)

Бачу, як для пакутнікаў заходзіць сонца,
Бачу прывідаў, якія сыходзяць з эшафота,
Прывідаў мёртвых лордаў, каралеў, з якіх знялі кароны, абвінавачаных
у здрадзе міністраў, нізрынутых каралёў,
Супернікаў, здраднікаў, атручальнікаў, зняслаўленых правадыроў
і многіх іншых.

Бачу тых, хто ва ўсіх краінах паміраў за справядлівасць,
Засеў іх быў небагаты, але ўраджай будзе бясконцы і невычэрпны
(Запомніце, о, чужаземныя каралі, о, святары,— ураджай будзе бясконцы
і невычэрпны).

Бачу я, кроў з тапара змытая дачыста,
І лязо, і тапарышча — чыстыя,
З-пад іх не пырскае кроў еўрапейскіх арыстакратаў, яны не шалеюць
ад радасці, дакранаючыся да шый каралеў.

Бачу, што кат адыходзіць, ён робіцца непатрэбным,
Бачу эшафот, на які ніхто не ўзыходзіць, які ўжо заплеснеў,
на якім не відно нават ніякага тапара,
Бачу магутны сімвал дружбы і сілы маёй уласнай пароды, новай,
вялікай пароды.

## З ПАЭМЫ «ПЕСНЯ РОЗНЫХ ПРАФЕСІЙ»

Усю, сабраную разам, пашану вядомую я аддаю вам, хто б ні былі вы,
Прэзідэнт там, у Белым доме, існуе для вас, а не вы для яго існуеце,
Сенатары ў сваіх кабінетах існуюць для вас, а не вы для іх,
Кангрэс кожны год збіраецца дзеля вас гэтаксама,
Законы, суды, фарміраванне штатаў, хартыі гарадоў, гандаль і пошта,—
усё гэта ўзнікае і знікае толькі для вас.

Уважліва слухайце, мае шаноўныя вучні!
Дактрыны, палітыка, цывілізацыя — усё пачынаецца ад вас,
Скульптуры, і манументы, і розныя іншыя помнікі з надпісамі —
усе яны вашы двайнікі і ўзнаўляюць вас,
Уся сутнаець гісторыі, статыстыкі, усе міфы, паданні з давён-даўна
жывуць і зараз у вас,
Калі б вы не дыхалі, не хадзілі зараз, то дзе былі б яны ўсе?
Самыя славутыя паэмы былі б тлом, прамовы і п'есы былі б пустатою.

Уся архітэктура ўзнікае для вас толькі тады, калі вы на яе глядзіце,
(А вы думалі, што яна жыве толькі ў белым ці ў шэрым камені?
Альбо ў лініях арак і карнізаў?).

Уся музыка прачынаецца ў вас, калі пра яе напомняць вам інструменты,
Але яна — не скрыпкі і не карнеты, не габоі і не грымлівыя барабаны,
не ноты для барытона, які спявае саладжавыя рамансы,
не партытура для мужчынскага хору ці для жаночага хору,—
Музыка — і бліжэй і далей, чым яны.

## МАЛАДОСЦЬ, ДЗЕНЬ, СТАРАСЦЬ І НОЧ

Маладосць, вясёлая, здаровая, шчадралюбая — маладосць, поўная грацыі,
сіл і чароўнасці,
Ці ведаеш ты, што і старасць прыйдзе гэткая ж грацыёзная,
моцная і чароўная.

Дзень цудоўны, што так дапаўна распусціўся,—дзень вялізнага сонца,
руху, жаданняў і смеху,
За табою ноч ідзе блізка, з мільёнамі сонцаў высокіх,
са сном і з цемрай гаючай, што сілы ўзнаўляе.

## ПІЯНЕРЫ! О ПІЯНЕРЫ!

Пойдзем, дзеці загарэлыя,
Стройна ў шэрагі пастаньце, падрыхтуйце вашу зброю.
Стрэльбы з вамі? А ці з вамі вашы вострыя сякеры?
Піянеры! О піянеры!

Нам марудзіць зараз нельга,
Нам ісці, сябры, далёка, праз нягоды, небяспеку,
Моцнай, юнай мы пароды і ў адказе за ўвесь свет,
Піянеры! О піянеры!

Моладзь, моладзь майго краю!
Ты цярплівая і дзейсная, прыклад годнасці і дружбы,
Бачу я, сябры, выразна, як нялёгка першым крочыць,
Піянеры! О піянеры!

Дзе старэйшыя народы?
Прытаміліся, саслаблі і свой вопыт забываюць там, за морамі, стамлёна?
Возьмем мы іх вечны клопат, іхні лес і цяжар возьмем,
Піянеры! О піянеры!

Усё мінулае — мінула,
Мы з расколінаў выходзім у наш новы і прыгожы, разнастайны, лепшы свет,
Гэты свет мы заваюем, свет і працы і паходаў,
Піянеры! О піянеры!

Мы ўсё новыя атрады
Па нязведаных дарогах шлём на кручы і ў цясніны,
Мы ўзбіраемся на горы, рызыкуем дужа смела, каб адолець перашкоды,
Піянеры! О піянеры!

Векавыя валім дрэвы,
Гацім рэкі, працінаем і вярэдзім шахтамі зямную кулю,
Мы адмерваем прасторы, цяжка ўруньваем аблогі,
Піянеры! О піянеры!

І прыйшлі мы з Каларада,
Мы з вяршыняў гор высозных, мы са с'ер, з плато шырокіх,
З рудняў мы, з раўнін, са сцежак, дзе праходзяць толькі звер і паляўнічы,
Піянеры! О піянеры!

З Арканзасу, ці з Небраскі,
Ці з сухіх цэнтральных штатаў, ці з Місуры, кроў бунтуе ў нашых
жылах, бы ў заморскіх вашых продкаў, Ціснем
мы ўсім сябрам рукі, сябрам з Поўначы і Поўдня,
Піянеры! О піянеры!

О нястомная парода!
Я люблю цябе ўсім сэрцам! І любоў да ўсіх пяшчотна напаўняе мае грудзі!
Радуюся і журуся, ад любові аж шалею,
Піянеры! О піянеры!

Сцяганосцы, уздыміце
Нашу маці-валадарку (перад ёй, шматзорнай, схілім шчыра мы галовы),
Баявую нашу маці, што нікім не зваявана,
Піянеры! О піянеры!

Мае дзеці, азірніцеся,
Дзеля тых, хто за спіною, нельга адступаць, здавацца,
Даўніх прывідаў мільёны, што ў вяках далёка ззаду, хмурачыся,
напіраюць, і наперад нас піхаюць,
Піянеры! О піянеры!

Рушым шчыльнымі радамі,
Страты мы заўжды папоўнім, бо жывыя зменяць мёртвых,
Праз баі, праз паражэнні — толькі ўперад без супынку,
Піянеры! О піянеры!

О, памерці б толькі ў руху!
Есць між нас хто ўпасці мусіць? Каму смерць наканавана?
Тады лепей вам памерці ў паходзе, у дарозе, каб лягчэй было запоўніць
дзірку гэтую жывымі,
Піянеры! О піянеры!

Усе пульсы ўсяго свету
Зліты з нашымі і б'юцца ў добрай згодзе з нашым рухам,
Па адному і гурбою ўсе да нас ідуць і з намі,
Піянеры! О піянеры!

Шматкалёрны свет жыццёвы,
Усе формы і праявы, усе рабочыя за працай,
Маракі і сухаземцы, багацеі і рабы,
Піянеры! о піянеры!

Нешчаслівыя ў каханні і шчаслівыя ў каханні,
Вязні, кінутыя ў цэлі, праведнікі, з імі побач — тыя, хто заўжды грашыў,
І вясёлыя і ў суме, хто жыве і хто пры смерці,
Піянеры! О піянеры!

Сам я і мая душа і цела,
Мы, падружаная тройца, выбіраем мы дарогу і па ёй блукаем разам,
Ходзім берагам, дзе цені, дзе ўсмялела скачуць здані, мітусяцца, напіраюць,
Піянеры! О піянеры!

Бач, як шар зямны кружае!
Бач, вакол планеты-сёстры, гронкі сонцаў і свяцілаў,
Усе ззяючыя дні, таямнічыя ўсе ночы, перапоўненыя снамі,
Піянеры! О піянеры!

Гэта — з нас і гэта з намі,
Гэта трэба для пачатку, бо наступнікі пакуль што ў эмбрыёнах знемагаюць,
Мы ж, хто зараз у паходзе, шлях для іх вандровак чысцім,
Піянеры! О піянеры!

О вы, дочкі майго краю!
Маладыя і старыя! Нашы маці, нашы жонкі!
Вы ідзеце поплеч з намі, не адстаючы ад нас,
Піянеры! О піянеры!

Спевакі найновых прэрый!
(Хай, загорнутыя ў саван, спачываюць у магілах песняры часоў ранейшых,
што сваё даўно зрабілі),
Вашы ж стоеныя несні я пачую неўзабаве, і вы, новыя бадзягі,
з намі пойдзеце ў дарогу,
Піянеры! О піянеры!

Не для ўцехі насалоднай,
Не для мякенькіх пантофляў, не для цішы і падушак,
Не для скарбаў і багацця, што пахована па куфрах,—нам не трэба
гэта шмоцце,
Піянеры! О піянеры!

Што, балююць зноў абжоры?
Спяць таўшчэзныя санліўцы? Зачынілі свае дзверы на засовы і завалы?
Наша ж ежа будзе сціплай, коўдрай будзе нам зямля,
Піянеры! О піянеры!

Хіба ноч ужо настала?
І цяжкой была дарога? Мы стаміліся, прысталі, засыпаем ідучы?
Што ж, прыляжце, дзе ідзеце, падраміце, скіньце стому,
Піянеры! О піянеры!

А калі зайграюць горны
І затрубяць трубы ранку — чуеце, як гучна, ясна разлягаецца іх кліч? —
Хутка ўсе на свае месцы! Хутка ў шчыльныя калоны!
Піянеры! О піянеры!

## ФРАНЦЫЯ

18-ты год нашых Штатаў

Вялікі і год, і месца,
І прарэзлівы крык нованароджанага, які расчульвае матчына сэрца болей,
чым да гэтага расчульвалі іншыя.

Я хадзіў па берагах майго ўсходняга мора,
Чуў над хвалямі той ценькі голас,
Бачыў тое цудоўнае дзіця, якое, прачнуўшыся, тужліва плакала
сярод гарматнага гулу, крыкаў, праклёнцаў, трэску будынкаў,
што абвальваліся на зямлю,
Не спалохаўся я ні крыві, якая струменіла па раўчуках прыдарожных,
ні трупаў асобных, ні тых, што ляжалі ў грудах, ні тых,
што звозіліся на двухколках,
Не скамянеў ад роспачы, пабачыўшы шал смерці, ні гул кананады,
ні страляніна не аглушылі мяне.

Бледны, маўклівы, суровы, што мог я сказаць пра гэты доўгацярплівы
выбух пераспелага гневу?
Ці мог я жадаць, каб чалавек быў іншы?
Ці мог я жадаць, каб людзі былі з дрэва альбо з каменю?
Ці каб не былі справядлівымі лес і час?

О, Свабода! О, сяброўка мая!
І ў нас таксама полымя, карцеч і тапары прыхаваны і чакаюць зручнага
моманту,
І ў нас таксама нельга цябе знішчыць, хоць ты і даўно над прыгнётам,
І ў нас таксама маглі паўстаць, нарэшце, спараджаючы забойствы,
І ў нас таксама маглі б запатрабаваць адплаты за ўсе ўчыненыя крыўды.

Таму я шлю гэтае сваё прывітанне праз мора,

I я не выракаюся гэтых жудасна-крывавых радзін і хрэсьбін,
А, помнячы кволы і ціхі плач па-над хвалямі, буду чакаць цярпліва
і з надзеяй — колькі б гэта не доўжылася,
I ад сённяшняга дня я, зажураны, але ўпэўнены, зберагу гэтую
справу, перададзеную мне ў спадчыну, для ўсіх краін свету,
I я шлю гэтыя словы з любоўю ў Парыж,
I спадзяюся, што там знойдуцца спевакі, якія зразумеюць іх,
I я думаю, што ў Францыі ёсць яшчэ столькі прыхаванай музыкі,
якая можа затапіць, нібы паводка,
О, я чую ўжо сумятню гукаў — гэта настройваюцца інструменты,
якія заглушаць потым усё, што ім замінае,
О, я спадзяюся, што ўсходні вецер данясе і сюды той урачысты марш волі,
Ён даляціць да мяне, і я, напоўнены ім, шалеючы ад радасці,
Паспяшаю хутчэй перакладаць яго ў словы, каб уславіць яго,—
Я яшчэ спяю табе песню, сяброўка мая.

## З КАЛЫСКІ, ЯКАЯ ЗАЎСЁДЫ ГАЙДАЕЦЦА

З калыскі, якая заўсёды гайдаецца,
З горла перасмешніка, гэтага музычнага чаўначка,
З вераснёўскай поўначы,
Дзе дзіця, пакідаючы цёплую пасцель, блукала ў адзіноце — галалобае,
басанож — па бясплодных і далёкіх палях,
Зверху — з вясёлкі, вымытай дажджом,
Знізу —з таямнічага трымцення ценяў, якія скручваюцца і сплятаюцца,
нібы жывыя,
З палянак шышпыны і чорнай ажыны,
З успамінаў пра птаха, які спяваў для мяне,
З тваіх успамінаў, мой засмучаны брат, з тваёй утрапёнай песні,
якая то ўзлятае, то нікне, З-пад гэтага жоўтага
паўмесяца, які так позна ўзыходзіў
і здаваўся апухлым ад слёз,
З першых, пачатковых гукаў смутку і кахання — адтуль, з туману,
З тысяч народжаных у маім сэрцы водгукаў, якія не аціхнуць ніколі,
Са слоў, моц і пяшчота якіх — самая незраўнаная,
З тых, якія вяртаюцца, каб уваскрэсіць мінулае,
Якія, нібы чародка птушак, шчабечуць, крыляюць, пралятаючы над галавою,
Якія імкліваць сюды, перш чым усё паспешліва знікне ад майго
цікаўнага позірку,
Я, дарослы чалавек, а стаю і плачу зноўку, нібыта хлапчук,
Кідаюся на пясок — тварам да хваль,
Я, пясняр болю і радасці, паядноўваю ў сабе мінулае і будучае,
Слухаю ўсё, углядаюся, сягаю далей І спяваю песню ўспамінаў.

Тады быў Паманок,
Тады ў паветры духмяніў бэз і хараша рунілася марская трава,

Я ўбачыў тады на марскім беразе ў кустах шыпшынніку Крылатых гасцей з Алабамы — дзвюх птушак, дзвюх разам, І іхняе гняздо, і ў ім чатыры светла-зялёныя яечкі ў карычневых крапінках; І кожны дзень самец рупіўся ля сяброўкі, то адлятаючы, то зноў прылятаючы, І кожны дзень самка, стаіўшыся, ціха

сядзела ў гняздзе — толькі вочкі яе свяціліся, І
кожны дзень я, цікаўны хлапчук, стаяў не дужа блізка, каб
не напалохаць іх, Асцярожненька зазіраў у куст, вывучаў і
імкнуўся ўсё зразумець.

*Святлі! Святлі! Святлі!*
*Радуй нас сваёй цеплынёю, вялікае сонца!*
*Пакуль мы грэемся, мы ўдваіх, мы разам.*

*Нас двое!*
*Вецер паўднёвы дзьме ці вецер паўночны дзьме,*
*Дзень белы прыходзіць ці чорная ноч настае,*
*Дома ці далёка — за гарамі і рэкамі — ад дому,*
*Заўсёды спяваць, на час не зважаючы,*
*Пакуль мы ўдваіх, пакуль разам.*

Але аднойчы —
Магчыма, забітая кім — ён не ведаў пра гэта —
Яго сяброўка не сядзела ўжо раніцою, уціснуўшыся ў гняздзечка,
Не вярнулася яна ні пасля поўдня, ні на другі дзень,
Не прыляцела яна ўжо ніколі.

І з таго часу ўсё лета праз гоман мора,
І ноччу, сцішанай ноччу пад прывіднай поўняю,
Альбо над хрыпатым рокатам хваль,
Ці ўдзень, пералятаючы з куста на куст,
Клікаў сваю сяброўку — я гэта бачыў і чуў — зажураны ў адзіноце птах,
Самотны госць з Алабамы.

*Дзьмі! Дзьмі! Дзьмі!*
*Дзьмі, вецер марскі, на ўзбярэжжа Паманока;*
*Я чакаю, я прагна чакаю, што ты прыдзьмеш да мяне сяброўку маю.*

І калі шчыравалі ў небе зоры,
Усю доўгую ноч навылёт на выступе мохан аброслай скалы,
Унізе, ля нора, перад самым плёскатам хваль,
Сядзеў гэты адзінокі чароўны спявак, і ў спевах яго былі слёзы.

Ён клікаў сваю каханую,
Ен выплакваў журботную песню, якую толькі я адзін з усіх людзей разумеў.

Браце мой, я спачуваю табе,
Іншым, можа, усё роўна, а я, нібы скарб, кожны твой гук берагу,
Бо я не адзін раз асцярожна, у цемры спаўзаў уніз на гэты бераг
І ціха, унікаючы месячнага святла, амаль зліваўся з ценямі;
Я і зараз прыгадваю невыразныя абрысы, гукі, рэха, вадзежы —
розныя і непаўторныя,
Бачу белыя рукі хваляломаў, высунутыя далёка ў мора —
нібыта яны клічуць кагосьці.
І сябе, басаногага хлапчука, бачу і нават чую, як вецер кудлаціць
мне валасы,
А я ўсё стаю і слухаю доўга-доўга.

Слухаю, каб запомніць, каб праспяваць, каб перакласці на мову людзей
тваю песню,
Паўтараючы за табою, мой браце, кожнае слова.

*Супакой! Супакой! Супакой!*
*Горнецца хваля да хвалі і, прыгарнуўшыся, заціхае,*
*А за імі іншыя коцяцца — у абдымку і блізкія-блізкія,*
*Толькі мая каханая не прыгорнецца да мяне, не супакоіць мяне.*

*Нізка поўня вісіць — позна яна ўзышла,*
*Яна позна ўскацілася — о, я здагадваюся, што і яна перапоўненая*
*каханнем, каханнем.*
*І мора шалёна кідаецца на зямлю, да берага*
*горнецца З каханнем, з каханнем.*

*О, ноч! Ці не мая гэта каханая лётае там, дзе ламаюцца хвалі?*
*Ці не яна гэта — вунь тая маленькая чорная кропка, якую бачу я ў белай*
*далечыні?*

*Голасна! Голасна! Голасна! Голасна клічу цябе я, мая каханая!*
*Выразны і чысты свой голас выстрэльваю я па-над хвалямі,*
*Безумоўна, ты ж павінна пачуць, што я тут, што я тут,*
*Ты мусіш пазнаць мяне, мая каханая.*
*Месяц, што нізка павіс!*

*Што гэта за варухлівая, цемнаватая плямка на тваім буравата-жоўтым*
*абліччы?*
*О, гэта ж цень, гэта ж цень ад сяброўкі мае!*
*Не затрымлівай больш яе, месяц,— адпусці да мяне, засумлёнага.*

*Зямля! Зямля! О, зямля!*
*Куды ні сягаю, я толькі і думаю, што ты, калі б захацела,*
*магла б вярнуць мне маю каханую,*
*Бо я амаль упэўнены, што невыразна бачу яе ўсюды, куды ні зірну.*

*О, узыходныя зоркі!*
*Магчыма, тая, якую я клічу, узыдзе разам з вамі.*

*О, горла! О трапятлівае горла!*
*Зазвіні, загучы мацней у паветры!*
*Пранізай зямлю і лясы,*
*Бо недзе ж прыслухоўваецца, каб пачуць мяне, тая, каго я гэтак*
*чакаю.*

*Звініце ж, мае песні! Начныя адзінокія песні!*
*Песні зняможанага кахання!*
*Уражаныя смерцю песні!*
*Песні пад гэтым марудлівым жоўтым месяцам, які бляднее сыходзячы!*
*О, пад гэтым месяцам, які амаль апусціўся ўжо ў мора!*
*О, утрапёныя песні роспачы!*

*Але — ціха! Не трэба крычаць!*
*Цішэй! Дазволь мне толькі шаптаць даверліва,*
*І ты на хвіліну суцішся, шумліва-ахрыплае мора,*
*Бо мне здалося, што я чую, як мая каханая адгукаецца мне дзесьці,*
*Ды гэтак нясмела, што я павінен суцішыцца, яшчэ болей суцішыцца,*
*каб учуць яе,*
*Суцішыцца, але не змоўкнуць зусім, бо тады, яна не знойдзе мяне.*

*Сюды, мая каханая!*
*Тут я! Тут!*
*Гэтым нястомным клічам я кажу табе, дзе я,*
*Гэты кожны гук мае песні — для цябе, мая каханая, для цябе.*

*Але асцерагайся, каб цябе не завабілі куды ў іншае месца;*
*Гэта — свіст ветру, а не голас мой,*
*Гэта — пырханне, пырханне пырскаў,*
*А гэта — мітуслівыя цені ад лістоты.*

*О, цемра! О, усё марна!*
*О, я стомлены смуткам няўцешным маім!*
*О, карычневы німб на небе вакол месяца, які патанае ў моры!*
*О, занепакоенае адлюстраванне ў вадзе!*
*О, горла! О засмучона-ўсхвалявае сэрца!*
*І я, што марна, без адказу спяваю ўсю ноч!*

*О, мінулае! О, шчаслівае жыццё! О, песні радасці!*
*У паветры, у лясах, над палямі,*
*Каханая! Каханая! Каханая! Каханая! Каханая!*

*Але болей няма са мною мае сяброўкі, няма са мною!*
*Мы ўжо не разам, мы не ўдваіх.*

Песня сціхае,
А ўсё іншае жыве, як і раней,— зоркі ззяюць,
І веюць ветры, і рэха песні пташынай трымціць,
 маці старая — сярдзітае, гнеўнае мора стогне бясконца
Ды шуршыць шэрым, шаргатлівым пяском на беразе Паманока,
І вялікі жоўты паўмесяц, які ад цяжару свайго апусціўся да мора
  і ледзь не кранаецца тварам вады,
І захоплены хлопчык — да босых ног яго лашчацца хвалі, валасы
  вятрыска кудлаціць;
Каханне, што ў сэрцы даўно знемагала, зараз на волі і апантана
  клякоча, бунтуе,
Значэнне пачутай несні, якая глыбока душу хвалюе,
Дзіўныя слёзы, якія па твары бягуць,
Размова траіх, дзе кожны ціха, напаўголаса гукі свае прамаўляе,
Дзікая маці старая, што плача бясконца.
Гэта ўсё ў хлапечай душы абуджае пытанні, таямніцы з шыпеннем
  расказвае мора — тыя, якія даўно патанулі,—
Гэтаму паэту, які выпраўляецца ў дарогу.

Дэман ці птах! (Сказала душа хлапчука.)
І ты сапраўды спяваў для сяброўкі сваёй? Ці, можа, спяваў для мяне?
Таму што быў я дзіця, і вусны мае былі неразбуджаны, і мова ўва мне
  яшчэ спала, а вось пачуў я цябе,
І сябе зразумеў, і пазнаў, навошта існую, і пачаў абуджацца,
І ўжо тысячы спевакоў і тысячы песень — галаснейшых, чысцейшых
  і болей журлівых за твае,
І тысячы шчабятлівых водгаласаў узніклі, каб жыць ува мне і ніколі
  ўва мне не памерці.
О, адзінокі спявак, ты мяне стварыў сваёй песняй,
О, і я, адзінокі слухач твой, ніколі пра цябе не забудуся, заўсёды
  ўслаўляць цябе буду,

І нікуды ад гэтага мне не ўцячы, і рэха жыць будзе вечна са мною,
І ўжо ніколі не змоўкне ўва мне плач неспатольнай любові,
І я ўжо ніколі не стану тым хлапчуком бесклапотным, які́м быў
да гэтае ночы
Ля мора, над жоўтым і нізкім месяцам,
Там, дзе ўсё ўва мне абудзілася — і агонь, і прыемнае пекла ў душы,
І нязведаныя жаданні, і лёс мой.

О, падаруй мне разгадку! (Яна стаілася недзе тут, у цемры начной),
О, калі ўжо мне наканавана ўведаць так многа, дазволь жа мне ведаць усё!
А дно толькі слова (і я зазнаю яго),
Слова апошняе, самае лепшае слова з усіх,
Прывіднае, выплюхнутае з віроў — што ж? — я чакаю;
Ці не вы шэпчаце мне яго заўсёды, марскія хвалі?
Ці не з вашых цёмных прадонняў і мокрых пяскоў выходзіць яно?

І тады мне адказвае мора,
Не прыпыняючыся і не спяшаючыся,
Яно шэпча мне поначы, шэпча ў даверы яшчэ да світання,
Шапялявіць ціхае і прыемнае слова: «Смерць»,
І зноўку — смерць, смерць, смерць, смерць;
Прашапацела, але не так, як птушка, і не так, як маё ўсхваляванае
сэрца дзіцячае,
Спачатку яно гарнулася да мяне, шамацела каля маіх ног,
А затым упэўнена падпаўзло да самых вушэй і ласкала ўсяго мяне
захліснула,—
Смерць, смерць, смерць, смерць, смерць.

Пра гэта я не забудуся,
І песню, якую цёмны мой дэман, мой брат
Спяваў мне пры месячным святле на шэрым беразе Паманока,
Я паяднаў з тысячамі іншых песень, узятых спрытна,
Бо тады ж прачнуліся і мае ўласныя песні,
А з імі прыйшла разгадка — слова, што хвалі з глыбінь сваіх выдыхнулі,

Слова для гэтай чароўнай песні і для ўсіх астатніх песень,
Гэтае моцнае і далікатнае слова, якое, лашчачыся, падпаўзала да маіх ног
  і якое
(Нахіліўшыся, нібыта над разгайданаю калыскаю старэнькая бабулька
  ў прыгожых убраннях)
Мора шапнула мне.

## КАЛІ Я АДПЛЫВАЎ РАЗАМ З АКІЯНАМ ЖЫЦЦЯ

1

Балі я адплываў разам з акіянам жыцця,
Калі хадзіў па берагах, якія я ведаю,
Калі блукаў там, дзе спакойнае мора заўсёды плёскаецца ля цябе,
Паманок, Дзе вялікія хвалі ўздымаюцца з хрыплым шыпеннем,
Дзе старая, сярдзітая маці настойліва гукае і марна аплаквае сваіх дзяцей,
 што забрала караблекрушэнне,
Аднойчы, у такі дзень позняй восені, калі я, разважаючы, уважліва
 глядзеў на поўдзень,
Калі быў захоплены сваёю ўзбуджанасцю і тым пыхлівым гонарам,
 з якім я прамаўляў свае паэмы,
Мяне ўразіла адкрыццё, што вось гэты беражок адліву і рэшткі пад нагамі,
Край вады і асадак —ці не ўвасабляюць яны ўсе моры і ўсю сушу планеты?

Зачараваны, я адарваў свой позірк ад поўдня, каб лепей разгледзець
 гэтыя наносы на беразе —
Салому, трэскі, абломкі дрэў, пустазелле і марскую клейкавіну,
Шумавінне, засохлую пену на бліскучых каменьчыках, лісцё марское травы,
 што пакінуў адліў.
Мілю за міляй ішоў я і чуў, як ламаюцца з плёскатам хвалі — недзе з боку
 ў мяне,
Паманок быў усюды, і я не адганяў свае даўнія думкі пра падабенствы;
Гэта ўсё падарыў мне ты, востраў, падобны на рыбіну,
Калі я блукаў па тваіх берагах знаёмых,
Калі я, блукаючы, усхваляваны і ўзрушаны, шукаў свае вобразы.

2

Калі я іду па берагах, якіх я не ведаю,
Калі, услухоўваючыся ў тужлівую песню мора, чую галасы
мужчын і жанчын, якіх параскідала караблекрушэнне,
Калі я ўдыхаю ледзь улоўныя подзімы ветру, якія мяне абдымаюць, палоняць,
Калі акіян — такі таямнічы — падкочваецца да мяне ўсё бліжэй і бліжэй,
Я таксама значу тады не болей, чым рэшта намыву, прыбітая морам,
Чым жменька пясчынак, засохлых лісткоў, што разам сабраны,
Калі разам нас зграбці, я з імі — нібыта адно, сам я частка пяску і намыву.

О, збіты з толку, загнаны, стаптаны і прыніжаны,
Той, хто карае сябе за тое, што ўсмеліўся рот свой адкрыць,
Я ўсвядоміў нарэшце, што сярод балбатні, рэха якой перакочваецца нада мною,
сам ані не ўяўляў аж дасюль, хто я і дзеля чаго я,
І што перад усімі маімі фанабэрыстымі паэмамі стаіць маё сапраўднае «я» —
яшчэ нечапанае, незакранутае, нявыказанае,
Яно стаіць воддаль і вітае мяне насмешліва, дражнячыся,—
то іранічным жэстам, то кіўком галавы,
І пасміхаецца здзекліва з кожнага напісанага мною слова,
І моўчкі паказвае спачатку на мае песні, а затым на пясок над нагамі.

Я разумею, што на самай справе я нічога не зразумеў, ніводнае рэчы,
і ніхто, ніводзін чалавек зразумець не зможа,
Прырода тут, каля мора, узяла нада мною верх, каб з мяне пацяшацца
і джаліць мяне,
І ўсё толькі праз тое, што я адважыўся адкрыць свой рот, каб спяваць для ўсіх.

3

Вы, два акіяны, я такі ж, як і вы,
Мы шэпчам з дакорам аднолькавым і несціхома варочаем смецце, пясок,
хоць не ведаем самі — навошта,
А гэты хлам і шмаццё — ці не нагадваюць яны і вас, і мяне, і ўсіх?

Ты, бераг, што асыпаецца, бераг, намывам прыліваў захламлены,
Ты, востраў, падобны на рыбіну, я прымаю тое, што над нагамі,
Што тваё, тое і маё, ойча.

Я, Паманок, гэтаксама,
Я гэтаксама пеніўся, плыў з бясконцымі плынямі, і мяне на твае берагі
выкідала,
Я гэтаксама толькі след намыву і друзу,
Я гэтаксама пакідаю на табе, востраў, падобны на рыбіну, маленькія
караблекрушэнні.

Я да грудзей тваіх прыпадаю, мой бацька,
Я гэтак моцна да цябе прыціскаюся, што ты не зможаш мяне адпіхнуць,
Я моцна буду трымаць у абдоймах цябе, пакуль ты не адкажаш мне тым жа.

Пацалуй мяне, ойча,
Дакраніся да мяне сваімі вуснамі — гэтак жа, як я дакранаюся
да вуснаў тых, каго я кахаю,
Дыхні мне, пакуль я тулюся да цябе, сакрэт твайго вечнага шэпту,
якому я гэтак зайздрошчу.

4

Сплывай, акіян жыцця (прыліў яшчэ вернецца),
Старая, сярдзітая маці, ты не стамляйся стагнаць,
Плач па тых, хто не выплыў з караблекрушэнняў, галасі і не бойся мяне,
не выракайся мяне,
Не шуршы гэтак хрышла і злосна ля маіх ног, калі я дакранаюся да цябе,
каб зачэрпнуць з глыбінь тваіх сілы.
Мае намеры лагодныя — да цябе і да ўсіх,
Я сілы чэрпаю для сябе і для тога вунь прывіда, які зверху пільнуе мяне
і, куды б ні ішлі мы, кіруе за мной і за намі за ўсімі.

Я і ўсе мы — пагнаныя ветрам наносы, маленькія мёртвыя цельцы,
Снежна-белая пена і бурбалкі
(Бачыш, з мёртвых вуснаў маіх паволі спадае ціна,
Бачыш, іскрацца і коцяцца вясёлкавыя колеры),
Пучкі саломы, пясчынкі, абломкі,
Паднятыя сюды на паверхню многімі разнастайнымі плынямі, дзе адно
супярэчыць другому,
Штормам, доўгім заціжкам на моры, цемрай і плёскатам хваль,
Абдумванне, узважванне, уздых, салоная сляза, кропелька вады
ці макулінка зямлі —
Усё гэта ўзнята наверх бясконцаю і нябачнаю працаю, усё перабрадзіла
і выкінута,
Адна альбо дзве прывялыя, змятыя кветкі, якія прынесла цячэнне,
плывуць бязмэтна на хвалях,
Менавіта яны для нас — пахавальная песня Прыроды,
Менавіта яны адтуль, куды мы ідзём, дзе грымяць ужо трубы хмар,
Мы, прывярэдлівыя, самі не ведаем, адкуль нас сюды занесла,
мы раскладзеныя перад табою,
Ты праходзіш альбо сядзіш,
Хто б ты ні быў, мы таксама наносы, ляжым над нагамі ў цябе.

## СЛЁЗЫ

Слёзы! Слёзы! Слёзы!
Поначы, у самоце, слёзы
На белы бераг капаюць, капаюць, і іх усмоктвае пясок,
Слёзы, і ніводная зорка не ўспыхне, усюды цемра і запусцеласць,
Ліюцца слёзы з вачэй, галава захінутая ў чорнае;
О, хто гэтая здань? Гэты цень у цемры, ў слязах?
Хто такою бясформеннай глыбаю згорбіўся і на ўсколенцы стаў — там, на пяску?
Слёзы, што ручаямі струменяць, слёзы, якія рыдаюць ад моцнага
болю і задыхаюцца ад шалёнага крыку;
О, бура, ты цела займела, саспела і зараз ляціш звар'яцела ўздоўж берага.
О, дзікая, змрочная бура начная, твой вецер! Вы вывяргаеце навальніцу,
вы безразважныя!
О цень, гэткі стрыманы, прыстойны ўдзень, з такім ціхамірным тварам
і хадою спакойнай,
Але ўночы, калі ты ляціш і ніхто не бачыць цябе,— о, тады
нараджаецца нестрыманы акіян
Слёз! Слёз! Слёз!

## ПТУШЦЫ ФРЭГАТУ

Ты спала ўсю гэтую ноч высока ў нябёсах — на буры,
Абноўленая прачнулася і на крылах вялізных сваіх зноўку ў палёт,
(Вар'яцее, ятрыцца шторм? Ты ўзлунаеш над штормам,
І спачываеш у небе, і неба, твой раб, бы ў калысцы, люляе цябе).
Зараз блакітнаю кропкаю плывеш ты далёка, далёка ў небе
І нібыта за сонцам, што з хваль паднялося, з палубы я за табою сачу
(Я і сам усяго толькі кропка, пылінка на гэтай рухомай аграмадзіне свету).

Далёка, далёка ў моры,
Пасля таго, як начныя, разлютаваныя плыні павыкідаюць на бераг
рэшткі караблекрушэнняў,
Калі зноў над зямлёю зоймецца дзень — такі вясёлы і такі ціхамірны,
Калі заружавее пругкая, эластычная зара, хораша ўсміхнецца сонца,
Калі пашырэе прастора ад празрыстага, блакітнага паветра,—
Тады з'яўляешся і ты.

Ты народжана з бурай змагацца (уся ты — крылы),
Спрачацца з небам, і з зямлёю, і з морам, і з ураганам,
Ты карабель паветраны, які ніколі не згортвае ветразяў,
Дні і тыдні крыляеш ты ўперад без стомы — цераз прасторы і сферы
ў вярчэнні,
У вечаровым сутонні на Сенегал ты глядзіш, а раніцою — ты ўжо
над Амерыкай,
Лётаеш, жыхаеш там, у вышынях, спаміж маланак і хмар навальнічвых,
І калі ты імклівіш настойліва там — эх, была б у цябе ды мая душа! —
Якую б насалоду! Якую б ты радасць уведала!

## НА БЕРАЗЕ, УНАЧЫ

На беразе, уначы
Стаіць дзяўчынка са сваім бацькам
І глядзіць на ўсход, на асенняе неба.

Там, у вышыні, у цемры,
Пакуль пражэрлівыя хмары, хаўтурныя хмары развінаюцца ў чорнае
страхоцце,
Пакуль яны драпежна зніжаюцца і хутка распаўзаюцца ўздоўж і ўпоперак
па небе,
Пасярод светлай палоскі чыстага неба, што яшчэ бялее на ўсходзе,
Узыходзіць спакойны і велічны валадар зорак — Юпіцер,
І тут жа, толькі крыху вышэй,
Плывуць пяшчотныя сёстры Пляяды.

З гэтага берага дзяўчынка, трымаючыся за бацькаву руку,
Глядзіць на хаўтурныя хмары, якія пераможна спускаюцца ніжэй і ніжэй
і, здаецца, вось-вось праглынуць усё,
Спалохана глядзіць і ціха плача.

Не плач, дзіця, Не плач, мае любае,
Дазволь мне пацалункамі асушыць твае слёзы,
Нядоўга будуць пераможцамі гэтыя бязлітасныя хмары,
Ніколі ім не ўдасца назаўсёды завалодаць небам — гэта толькі здаецца,
што яны праглынулі зоркі,
Юпіцер абавязкова з'явіцца зноў, май цярпенне, паназірай яшчэ раз,
іншаю ноччу — і, убачыш,
Пляяды таксама абавязкова з'явяцца зноў,
Яны ўсе бессмяротныя, зоркі,— срабрыстыя і залачавыя зоркі, яны зноў,
павер мне, заззяюць,

Вялікія і малыя зоркі будуць зноўку блішчаць, бо яны вечныя,
Агромністыя бессмяротныя сонцы і задумлівыя, даўгавечныя месяцы
таксама будуць ззяць зноўку.

Тады, дарагое дзіця, хіба плачаш ты па адным толькі Юпіцеры?
Хіба маркоцішся ты толькі па пахаваных зорках?

Слухай, ёсць штосьці
(Вуснамі сваімі суцяшаючы цябе, я кажу да цябе шэптам,
Я даю табе першую параду, здагадку, уніклівы намёк),
Ёсць штосьці, што яшчэ болей бессмяротнае, чым зоркі
(Багата было хаўтур, багата дзён і начэй мінула),
Ёсць штосьці такое, што будзе існаваць у свеце даўжэй нават,
чым зыркі Юпіцер,
Даўжэй, чым нават само Сонца, альбо ўсе яго рухомыя спадарожнікі,
Альбо прамяністыя сёстры Пляяды.

## АДНАМУ З ПРЭЗІДЭНТАЎ

Усё, што ты робіш і кажаш,— прывідны міраж для Амерыкі,
Ты не вучыўся ў Прыроды — законам Прыроды, ты не навучыўся
яе вялікай шчодрасці, сумленнасці, справядліваоці,
Ты не зразумеў, што толькі гэта пасуе нашым Штатам,
А ўсё іншае, дробязнае, рана ці нозна павінна развеяцца,
як міраж, над нашымі Штатамі.

## БОСТАНСКАЯ БАЛАДА

(1854)

У Бостан каб паспець у час, як найраней устаў я,
Там выбраў месца на рагу, каб лепш спектакль пабачыць.

Дай дарогу, Джанатан!
Дарогу прэзідэнцкаму распарадчыку! Дарогу ўрадавай гармаце!
Дарогу федэральнай пяхоце і конніцы (і прывідам, якія, спатыкаючыся,
падаюць адзін на аднаго).

Я з любоўю гляджу на палосы і зоркі сцяга, я спадзяюся, што флейты
зайграюць нарэшце «Янкі Дудль».
Як ярка шаблі блішчаць у ваяк з пярэдніх радоў!
У кожнага ў руках рэвальвер, яны маршыруюць, важныя і падцягнутыя
на Бостане крочаць.

За імі — хмараю пыл, ветэраны, кульгаючы, услед шкандыбаюць,
Адны — на мыліцах, на драўляных нагах, другія — забінтаваныя
і бяскроўныя.

Вось гэта напраўду відовішча — мёртвыя падняліся з зямлі!
Могільнікі старыя з пагоркаў скрануліся, каб на ўсё паглядзець!
Прывіды! Безліч прывідаў — з бакоў і ззаду!
Фарсіста заломлены праедзеныя моллю капелюшы, мыліцы ў зданяў —
з туману!
Рукі на подвязі ў іх, старыя абапіраюцца на плечы маладых.

Што ўсхвалявала вас, прывіды-янкі? Чаму так ляскочуць вашы
бяззубыя сківіцы?
Ці ліхаманка трасе вас? Ці вы не бачыце, што за стрэльбы прымаеце
свае мыліцы і спрабуеце з іх прыцэліцца?

Калі вашы вочы засцелюць слёзы — вы не пабачыце прэзідэнцкага
распарадчыка,
Калі пачнеце стагнаць — вы не пачуеце ўрадавых гармат.

Ці не сорамна вам, дзівакі старыя? Апусціце мыліцы вашы — спарахнелую
зброю, сваіх валасоў сівых пасаромцеся,
Бо тут жа стаяць і глядзяць вашы праўнукі, а з вакон назіраюць іх жонкі,
Зірніце, як яны апрануты хораша, як прыстойна сябе паводзяць.

Горш вам і горш? Вы не можаце гэта выносіць? Вы назад паспяшаеце?
Хіба гэтак нясцерпна, смяртэльна вам знаходзіцца сярод жывых?

Тады — прэч! Як хто можа — адсюль!
Зноў у свае дамавіны! Назад на пагоркі ў магілы, старыя калекі! Мне здаецца,
не тут ваша месца, не тут.

Зараз тут іншаму месца — ці сказаць вам, каму, джэнтльмены Бостана?
Я пра гэта мэру шапну, ён пашле людзей надзейных у Англію,
Яны атрымаюць дазвол ад парламента, на брычцы пад'едуць да склепа,
Адкапаюць труну караля Георга, хуценька дастануць манарха з савану,
косці яго складуць у дарожныя скрынкі,
Знойдуць хуткабежны кліпер — вось для цябе груз, чарнапузы кліпер,
Сушы якары, ветразі раскрыляй і хутка кіруй да Бостанскай бухты.

А вось зараз клічце зноў прэзідэнцкага распарадчыка, вывозьце
ўрадавую гармату,
Прывядзіце сюды гарлапанаў з кангрэсу, новае шэсце рабіце,
і яго хай ахоўвае тая ж пяхота і конніца.

А ў цэнтры ўсяго, як аздоба — заморскі госць;
Глядзіце, усе паважаныя грамадзяне, глядзіце з вокнаў, жанчыны!

Тыя, што ездзілі, адкрываюць скрынку, складаюць каралеўскія косці,
склейваюць там, дзе яны не трымаюцца,
Ставяць чэрап на рэбры, а на чэрап — карону ўздзяваюць.

Што ж, ты хораша адпомсціў, стары гуляка,— карона вярнулася на месца сваё,
нават болей, чым на сваё!

Рукі ў кішэні засунь, Джанатан,— ад сёння ты становішся чалавекам,
Ты вялікі хітрун, і гэта адна з тваіх штучак, што табе ўдалася цудоўна.

## Я СЯДЖУ І ПАЗІРАЮ

Я сяджу і пазіраю на ўсе засмучэнні гэтага свету, бачу ўсю ганьбу яго і
прыгнёт,
Чую патаемныя, сутаргавыя рыданні юнакоў, якіх даймае сумленне і сорам,
якія пакутуюць і раскайваюцца ў сваіх нядобрых учынках,
Бачу пачварнасць жыцця, бачу спадлелых дзяцей, якія зневажаюць
сваіх мацярок — забытых, схуднелых, у адчаі, блізкіх да смерці,
Бачу жонак, чыё жыццё скалечана мужамі, бачу назойлівых спакуснікаў,
якія ліпнуць да маладых жанчын,
Заўважаю пакуты рэўнасці і кахання нязбытнага, бачу заганы
на гэтай зямлі, якія ўсе прыхаваць спяшаюцца,
Бачу спадчыну войнаў, эпідэміі, тыранію, бачу пакутнікаў, вязняў,
што ў турмы замкнёны,
Назіраю голад на моры — матросы кідаюць жэрабя: каго забіць,
каб выратаваліся астатнія,
Бачу пагарду, грэблівасць і знявагу ганарліўцаў уладных, якія
пагарджаюць рабочымі, беднякамі, неграмі і іншымі жабракамі;
Усё гэта — подласць і пакуты бясконцыя — я, седзячы тут,
не першы дзень бачу,
Бачу, слухаю і маўчу.

## ЛЮБОЎНАЯ ЛАСКА АРЛОЎ

Іду над ракою, узбоч дарогі (гэта мой ранішні пшацыр, мой адпачынак),
І раптам у небе да спазмаў расчулены клёкат і ласка арлоў,
Імклівая, любоўная спохватка ўверсе, на вольным прасторы,
Сашчэнлены, сціснуты кіпці — раз'юшана круціцца кола жывое,
Б'юцца ласкава чатыры крылы і дзве дзюбы, вярчэнне ў радасці злучанай
масы,
Кулянне, кіданне, спрытныя выкруты, петлі, падзенне, як камень, уніз,
І вось над ракою павіслі, двое — адно, у млявым, дрымотным зняменні
кахання,
Імгненне нерухомай раўнавагі — і вось расстаюцца яны, і кіпці
слабець пачынаюць,
І ў неба паціху ўзнімаюцца вышэй на крылах вялікіх, таксама аслаблых,
Ляцяць — ён сабе, і яна таксама сабе.

## ВЯСКОВЫ МАЛЮНАК

Праз расчыненыя насцеж дзверы ціхай вясковай адрыны
Відна асветленая сонцам паша, дзе коні і каровы скубуць траву,
І лёгкая смуга, і шырокі кругагляд, і мройлівы небасхіл, які
павольі знікае ўдалечыні.

## ДЗІЦЯЧАЕ ЗДЗІЎЛЕННЕ

Помню, калі яшчэ быў хлапчанём маленькім,
Я, прыціхлы і здзіўлены, слухаў, як святары ў сваіх нядзельных казаннях
гаварылі пра бога,
Які заўсёды чамусьці змагаўся супроць некага жывога, а пасля —
супроць яго думак.

## ПРЫГОЖЫЯ ЖАНЧЫНЫ

Жанчыны сядзяць альбо ходзяць сюды ці туды — і старыя, і маладыя,
Маладыя прыгожыя, але старыя яшчэ больш прыгажэйшыя за маладых.

**ДУМКА**

Пра веру, пакору, паслухмянасць;
Я стаю ўбаку і гляджу, да глыбокага подзіву ўражаны, як мільёны людзей ідуць за такімі людзьмі, якія зусім у людзей не вераць.

## ДУМКА

Пра Справядлівасць — быццам бы Справядлівасць можа быць нейкаю
іншаю, акрамя той, якую вызначаюць прыродныя суддзі і абаронцы,
Быццам бы яна можа быць то такою, то гэткаю — у залежнасці ад таго,
хто пра яе разважае.

## НАШЫМ ШТАТАМ
## (У 16-е, 17-е і 18-е прэзідэнцтвы)

Адкуль гэта млявасць, санлівасць? Чаму дрэмлюць усе і я з усімі драмлю?
Які непраніклівы змрок! Брудная пена на хвалях марскіх!
Хто яны, што, нібы кажаны ці шакалы, пахаваліся ў Капітоліі і на ўсё
з пагардай глядзяць?
Якое гнюснае прэзідэнцтва! (О Поўдзень, дзе тваё сонца пякельнае!
О Поўнач, з тваім Лядовым дыханнем!)
Хіба гэтыя людзі — сапраўдныя кангрэсмены? А вось тыя —
справядлівыя суддзі? Няўжо вось гэта — прэзідэнт?

Тады і я падрамлю яшчэ крышку, бо я разумею, што нашы Штаты
дрэмлюць не так сабе;
(Калі ж пачарнеюць хмары, гром з бліскавіцаю грымне, тады ўсе мы,
вядома ж, прачнёмся,
Поўдзень і Поўнач, Усход і Захад, цэнтр краіны і яе ўзбярэжжы — усе мы,
безумоўна, прачнёмся).

## ТЫСЯЧА ВОСЕМСОТ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЕРШЫ

Узброены год — год барацьбы,
Не для цябе, жахлівы год, тонкія рыфмы і саладжавыя любоўныя рамансы,
Ты не можаш сядзець за пісьмовым сталом і, як бледны паэцік,
ціха сюсюкаць вершамі,
Ты — мужны мужчына, стройны, у сінім адзенні ідзеш ты наперад
адважна з вінтоўкаю на плячы,
Тваё касцістае, загартаванае цела, загарэлыя рукі і твар твой,
а за поясам, збоку — нож,
Калі я чую твой моцны голас, чую твой зычны покліч, што грыміць па ўсяму
кантыненту,
Мужны твой голас, о год, які ў гарадах вялікіх бунтуе,
Калі бачу цябе сярод жыхароў Манхатана — як рабочага між рабочых,
Бачу, як ты хадою імкліваю па прэрыях з Ілінойса ці з Індзіяны прастуеш,
Ці як крокам спружыністым ты падмінаеш Захад, з гор Алеганскіх сыходзіш.
Калі бачу цябе ля Вялікіх азёраў, ці ў Пенсільваніі, ці на суднах,
якія плывуць па рацэ Агайё,
Ці як на поўдзеяь ідзеш ты ўздоўж рэк Тэнесі, Кумберленда, ці як стаіш
на вярпшні гары Чатануга,
Бачу ў хадзе тваю ёмкую постаць у сінім адзенні, бачу, як зброю нясеш ты,
Калі я зноўку і зноўку чую рашучы твой голас,
Год, які заспяваў нечакана жэрламі круглагубых гармат,—
Я тады падпяваю табе, пшаркі, грымотны, засмучаны і звар'яцелы год.

## БІЦЕ! БІЦЕ! БАРАБАНЫ!

Біце! Біце! Барабаны! — Грыміце! Трубы! Грыміце!
Праз вокны, праз дзверы ўварвіцеся з неўтаймоўнаю сілаю,
Выбухніце ў царквах урачыстых і раскідайце ўсіх, хто там моліцца,
Грымніце ў школах, дзе вучні ціха сядзяць над падручнікамі,
Разлучыце каханых — жаніху з нарачонай не час зараз цешыцца,
І табе, хлебадар, трэба забыцца пра мірную працу — не час зараз
поле араць і зерне збіраць не час,
Бо шалёна і гулка б'юць барабаны, і ўтрапёна трубы гудуць.

Біце! Біце! Барабаны! — Грыміце! Трубы! Грыміце!
Над гулам гарадоў вірлівых, над грукатам колаў на вуліцах,
Хто там пасцелі ўзбівае, мякчыць перад сном? Нікому не ўдасца
ўначы паспаць у гэтых пасцелях,
А ўдзень — аніякіх здзелак: спекулянты і маклеры, ці не сорамна вам
цанавацца зараз?
Хіба яшчэ балбочуць балбатуны? Хіба спявак спрабуе спяваць?
Хіба яшчэ ўстае на судзе абаронца, каб давесці суддзям сваё?
Тады лютуйце, барабаны,— і паспешней, і ямчэй? Крычыце прарэзлівей, трубы!

Біце! Біце! Барабаны! — Грыміце! Трубы! Грыміце!
Не слухайцеся ніякіх размоў пра замірэнне, не прыпыняйцеся
дзеля ўгавораў,
Не зважайце на баязліўцаў, не зважайце на тых, хто плача і моліцца,
Не зважайце на старых, што просяць юнакоў вярнуцца,
Заглушыце сваім шумам крык дзяцей, рыданне матак,
Хай лафеты здрыгануцца, хай вас мёртвыя пачуюць, не сабраныя пакуль што
ў пахавальныя павозкі,—
Гэтак біце, о жахлівыя барабаны,— так трубіце гулка, трубы!

## ВЯРТАЙСЯ З ПОЛЯ, ТАТА

Вяртайся з поля, тата,— вось пісьмо ад нашага Піта,
Выходзь на ганак, матуля,—прыйшло пісьмо ад твайго дарагога сына.

Бачыце, зараз восень,
Бачыце, цёмная зеляніна дрэў жаўцее і чырванее,
Лёгкі ветрык, што шапоча ў лісці, лагодзіць і цешыць задумёныя сёлы Агайё,
Яблыкі даспяваюць у садах, і вінаградныя гронкі спеюць на лозах,
(Ці чуеце вы, як пахнуць вінаградзіны?
Ці чуеце вы, як пахне грэчка, над якою яшчэ нядаўна гулі пчолы?).

А над усім, бачыце, неба — такое спакойнае, такое чыстае пасля дажджу,
з такімі цудоўнымі воблакамі,
І тут, на зямлі, таксама спакойна ўсё і прыгожа, усё жыццём перапоўнена —
на ферме зараз дастатак

І на полі таксама дастатак,
Але зараз з поля вяртайся, тата, прыходзь — дачка цябе, чуеш, кліча,
І ты, матуля, выходзь хутчэй, выходзь жа хутчэй на ганак.

І маці паспяшае, хвалюецца — адчувае бяду яе сэрца, ногі дрыжаць,
падгінаюцца,
Спяшае, валасоў не прыбраўшы нават і не паправіўшы на галаве хусцінку.
Разрывае таропка канверт.
О божа, гэта ж почырк не нашага Піта, хоць і ўнізе стаіць яго імя,
О, гэта ж чужая рука піша за нашага дарагога сына, о збалелая матчына душа!
Зямля паплыла з-пад ног, у вачах пацямнела, да яе даходзяць
толькі асобныя словы,
Абрыўкі фраз: «*паранены ў грудзі... кавалерыйская сутычка... забралі
ў шпіталь...*
*Зараз яму блага, але хутка, спадзяемся, будзе лепей*».

Ах, я вось зараз
Сярод шчодрага і ўрадлівага Агайё, сярод яго гарадоў і фермаў
Бачу толькі адну-адзіную постаць няшчаснай маці са спалатнелым тварам,
саслабелую, несуцешную маці,
Якая стаіць, прысланіўшыся да вушака дзвярэй.

*«Не засмучайся так, дарагая мамачка* (старэйшая дачка, нядаўні падлетак,
суцяшае яе праз слёзы,
А меншыя сястрычкі збіліся ў кучку і маўчаць напалохапа),
*Зірні, дарагая мамачка, пісьмо ж гаворыць, што нашаму Піту
будзе хутка ўжо лепей».*

На жаль, ніколі яму, яе беднаму хлопчыку, не будзе ўжо лепей
(яму ўжо нічога не трэба, гэтай адважнай і простай душы),
Пакуль стаяць яны тут, ля дзвярэй, каля дома — ён ужо мёртвы,
Адзіны сын — ужо мёртвы.

Зараз маці ўжо трэба, каб было лепей:
Яна схуднела, у жалобным адзенні,
Удзень не кранаецца ежы, уначы прачынаецца часта,
Ляжыць з вачыма адкрытымі ў цемры і плача, ляжыць з адзіным жаданнем,
О, каб з гэтым жыццём развітацца непрыкметна і ціха, каб пайсці
адсюль назаўсёды,
Абы толькі разам быць са сваім дарагім і ўжо мёртвым сынам.

## ВАРТУ НЕЗВЫЧАЙНУЮ НЁС Я АДНОЙЧЫ НОЧЧУ Ў ПОЛІ

Варту незвычайную нёс я аднойчы ноччу ў полі,
Калі ты, мой сыне і дружа, смяртэльна паранены ўпаў у той дзень каля мяне,
Я толькі адзін раз зірнуў на цябе, у твае дарагія вочы, і яны адказалі мне
гэткім паглядам, якога ніколі я не забуду,
Адзін толькі дотык тваёй рукі да маёй, о мой хлопчык, рукі,
якую ты ледзь адарваў ад зямлі,
А потым я зноў паспяшаў у бой, у зацяты, нясканчаны бой,
І толькі позна ўначы, калі мяне падмянілі, я вярнуўся на гэтае месца,
Убачыў цябе халодным і мёртвым, мой дружа, убачыў тваё нерухомае цела,
мой сыне, якое нядаўна адгукалася на дабрыню (ніколі ўжо яно не
адгукнецца на дабрыню),
Павярнуў цябе тварам да зорак, да іх святла, і ноч была ціхая,
і вецер нёс прахалоду начную,
І доўга я ў гэтай варце стаяў каля мёртвага, а навокал мяне, бы ў тумане,
шырока распасціралася поле бою,
У варце незвычайнай, у варце слаўнай стаяў я тою духмянаю і маўкліваю
ноччу,
Але ніводнай слязіны не ўпала, ніводнага стогну не выдыхнулася,
хоць я доўга-доўга, смуткуючы, стаяў над табою,
Потым сеў на зямлю — тут жа, побач з табою,— даланямі падпёр падбародак,
І праходзілі дзіўныя гадзіны, бессмяротныя і таямнічныя гадзіны
з табою, мой дружа,— і ані слязы, ані слова,
У маўклівай варце любові і смерці, у варце дзеля цябе, сыне мой і салдат;
Пакуль зоры паціху знікалі на захадзе, а на ўсходзе — з'яўляліся новыя,
Я апошнюю варту нёс над табою, харобры мой хлопчык (не змог я
цябе ўратаваць,— імгненнай была твая смерць,
Гэтак аддана цябе я любіў, так пра цябе клапаціўся жывога),
Пасля, калі ноч мінула, калі ледзь занялося світанне, Я
загарнуў таварыша ў яго коўдру, беражна ўхутаў яго,

Клапатліва прыкрыў яму грудзі, падаткнуў крайкі пад галаву і пад ногі,
І, абмытага першымі промнямі сонца, якое якраз узыходзіла, паклаў
майго сына ў спехам выкапаную магілку.
Вось так я закончыў сваю незвычайную варту, варту начную на марачным полі
змагання,
Варту над целам хлопчыка, які адгукаўся на ласку (ад яго ўжо
ніколі-ніколі не дачакацца ласкі нікому),
Варту над целам таварыша, што загінуў імгненна, варту, якой не забуду
ніколі,
Не забудуся, як сонца ўзышло, як я падняўся з вільготнай зямлі,
беражліва загарнуў у коўдру цела салдата
І пахаваў яго там, дзе ён упаў.

## З ПАЭМЫ «ЛЕКАР ПАРАНЕНЫХ»

Згорблены, стары, іду я між новых твараў,
Задумліва ўглядаючыся ў мінулыя годы, адказваю дзецям
На іхнія просьбы: «Раскажы нам, дзед», гутару з юнакамі і дзяўчатамі,
    уважнымі да мяне,
(Узбуджаны і раззлаваны, я думаў спачатку не ўспамінаць пра вайну,
Але хутка пальцы мае расслабіліся, галава панікла, і я скарыўся,
І я ўжо зноўку сяджу ля параненых, і суцяшаю іх, і моўчкі журуся
    над мёртвымі);
Праз гады стань сведкаю зноў і раскажы пра той час, пра раз'юшаны гнеў,
Пра нечуваных герояў (а хіба толькі адзін бок харобры быў?
    І другі быў таксама харобры!);
Раскажы пра дзве наймагутныя арміі ў свеце,
    Пра войска імклівае, слаўнае, — раскажы пра ўсё, што ты бачыў.
Што запала табе ў душу — глыбока і выразна? Якія бітвы?
    Якія перамогі і паражэнні, якія аблогі запомніў ты назаўсёды?

## НЕ МАГУ ПАХВАЛІЦЦА Я МАЛАДОСЦЮ

Не магу пахваліцца я маладосцю,
Вытанчанасцю манер, я зусім не цікавы субяседнік,
Нехлямяжы ў гасцiных, не ўмею танцаваць прыгожа,
Сярод вучоных, у іх асяроддзі я сяджу маўклівы, скаваны — не прыстае
да мяне вучонасць,
Зграбнасцю і самавітасцю не вызначаюся я, але ёсць іншыя рэчы,
якія мне звычныя і якімі я ганаруся:
Я параненым смагу спатольваў, карміў іх, суцяшаў салдат, што каналі,
А ў хвіліны пярэдыху пасярод прыцiхлага лагера
Складаў гэтыя песні.

## З ПАЭМЫ
## «ДАЙ МНЕ ЦУДОЎНАЕ ЦІХАЕ СОНЦА»

Дай мне цудоўнае ціхае сонца з усімі яго асляпляльнымі промнямі,
Дай мне набрынялыя сокам чырвоныя плады, што саспелі ў восеньскім садзе,
Дай мне луг, дзе пгчодра зелянее някошаная трава,
Дай мне звычайнае дрэва, вінаград, які закруціўся вусамі за шпалеру,
Дай мне маіс малады, маладую пшаніцу, дай мне спакой жывёл, якія ідуць ціхамірна і вучаць ва ўсім адчуваць задаволенне,
Дай мне ціхія-ціхія ночы, якія бываюць у мясцінах пагоркавых, на захадзе ад Місісіпі,— каб я мог любавацца зоркамі,
Дай мне духмяны сад на світанні з водарам кветак прыгожых, дзе я мог бы блукаць адзінотна, дзе ніхто б мой спакой не парушыў,
Дай мне ў жонкі жанчыну з прыемным, як радасць, дыханием, ад якой ніколі не стомішся,
Дай мне чароўнае дзіця, дай спакойнае жыццё ў вясковай хаце — у далечыні ад мітусні шумлівага свету,
Дай мне праспяваць, быццам птушцы, свае спантаныя песні, праспяваць нязмушана, вольна — нібы самому сабе,
Дай мне зацішак і адзіноту, дай мне, Прырода, о дай мне, Прырода, тваю першароднасць, здароўе!

Гэтак прасіў і маліў я (стамлёны і знерваваны бясконца, знясілены доўгай вайною),
Гэтак жадома прасіў — сэрцам адкрытым прасіў,
Я і зараз прашу, але ўсё ж я адданы табе, упадабаны мой горад,
Дзень пры дні, з году ў год, о мой горад, я блукаю па вуліцах звыклых тваіх,
Паланёны табой,— ты трымаеш мяне і нікуды адсюль не пускаеш,
Гэтак шчодра ты жывіш мяне, узбагачаеш душу, дорыш гэтулькі твараў цікавых;

(О, я ўжо бачу, што тое, ад чаго я збегчы хацеў, пакарыла мяне
і суцешыла,
Бачу, як мая зменлівая душа сама ўжо затоптвае ўсё, чаго гэтак
шчыра нядаўна прасіла).

## О, ХЛАПЧУК ЗАГАРЭЛЫ З ПРЭРЫЙ

О, хлапчук загарэлы з прэрый,
І да цябе прыходзілі ў гэты лагер многія з прыемнымі і жаданымі дарункамі,
Прыносілі з сабою і ўхвалу, і падарункі, і смачную ежу, але вось
        калі нарэпце з навабранцамі
З'явіўся ты — маўклівы, без усялякіх падарункаў,— і калі мы
        толькі зірнулі адзін на аднаго,—
О дзіва! Ты даў мне гэтым болей, чым усе дарункі ў свеце.

## КАЛІ ЦВІЎ ГЭТАЙ ВЯСНОЮ БЭЗ У МАІМ ДВАРЫ

1

Калі цвіў гэтай вясною бэз у маім двары,
І вялікая зорка так рана згасала ў небе начным на захадзе,
Я плакаў і адцяпер буду плакаць заўсёды кожнаю новай вясною.

Кожнаю новай вясною гэтыя трое будуць зноў да мяне вяртацца —
Бэз, у квецені шчодрай, зорка, што згасае на захадзе,
І думка пра яго, любімага.

2

О, магутная зорка, што звяла на захадзе!
О, цені начныя! О, панурая ноч — уся ў слязах!
О, вялікая згаслая зорка! О, чорны морак, які яе пахаваў!
О, жорсткія рукі, вы зрабілі мяне бездапаможным! О, мая бязрадная душа!
О, бессардэчная хмара, ты захінула мяне ўсяго і не хочаш вызваліць
    маю душу на волю.

3

Насупраць старой фермерскай хаты, у двары, каля пабеленага плота,
Стаіць высокі куст бэзу, і лісточкі на ім — акурат зялёныя сэрцы,
І кветкі вострымі дзюбачкамі вытыркаюцца з разбуджаных бутонаў,
    і водар, які я гэтак люблю, струменіць навокал,
І кожны пялёстак — дзіва. І вось ад гэтага куста ў двары
З далікатнымі кветачкамі — такімі прыемнымі ў колеры, з сакавіта-зялёнай,
    на сэрцы падобнай, лістотай
    Галінку, усю ў квецені, я адламаў.

4

На балоце, у глухім зацішку
*Стоены і* палахлівы птах песню сабе спявае.

Дрозд самотны,
Пустэльнік, які схаваўся як найдалей ад тых мясцін, дзе людзі жывуць,
Спявае адзін сам сабе песню.

Песню горла, якое крывавіць,
Песню жыцця — яна выйсце для смерці (я ведаю пэўна, дарагі мой браце:
Ты, бясспрэчна, памёр бы, каб не меў мажлівасці пець).

5

Па зялёных грудзях вясны, па краіне, пасярод гарадоў,
Па вузкіх сцяжынках і цераз адвечныя лясы, дзе прабіліся з зямлі
сінявокія браткі — светлыя крапінкі на шэрым падсціле
з леташняга лісця,
Паміж траў, якія буяюць паабапал дарог, плыве паміж траў бясконцых,
Паўз жоўтае сцеблаванне пшаніцы, якая скінула саван свой і
кожным зярняткам у гэтых цёмна-карычневых палях уваскрэсла,
Несучы мёртвае цела туды, дзе яму спачываць у магіле,
Дзень і ноч падарожнічае труна.

6

Труна, якая праходзіць па сцежках і вуліцах,
І ўдзень і ўначы плыве ў вялікай журботнай хмары, ад якой чарнее зямля,
Пад велічны шолах нахіленых сцягоў, сярод гарадоў, што адзеліся
ў колер жалобы,
Па Штатах, якія, нібыта зажураныя жанчыны, стаяць, захінуўшыся ў чорнае,
З даўгімі жалобнымі працэсіямі, што ідуць за труною з начнымі паходнямі,
З безліччу свяцільняў, запаленых над морам твараў маўклівых
і галоў непакрытых,

Са станцыямі, якія чакаюць труну, з засумлёнымі тварамі ўсюды,
З паніхідамі праз усю ноч, з тысячагалосым адпяваннем — магутным
і ўзрушаным, якое паволі ўздымаецца ў высі,
З галасамі, што, быццам бы слезы, капаюць горка навокал труны,
З цьмяна асветленымі царквамі, з арганамі, якія скаланаюцца і рыдаюць там,
дзе яна праходзіць,
З несціханым плачам званоў пахавальных.
Табе, о труна, калі ты паціху плывеш ля мяне,
Я даю сваю галінку бэзу.

7

(Не толькі табе, не табе адной —
Кветкі і зялёныя галінкі я да кожнай труны прыношу,
Бо свежую, нібы ранак, песню я хачу праспяваць табе,
о, разумная і святая смерць.
Усю цябе букетамі руж,
Усю цябе, о смерць, я ўсцілаю ружамі і лілеямі раннімі,
Але больш за ўсё бэзам, які зацвітае раней ад усіх,
Я наламаю шчодра, я наламаю галінак з тваіх кустоў
І з поўным наруччам прыйду і высыплю ўсё на цябе,
На цябе і на ўсе твае труны, о смерць.)

8

О, заходняя зорка, што ў небе плыве!
Зараз я ведаю, што ты хавала ў сабе, калі месяц таму я хадзіў,
Калі я маўкліва блукаў светлавата-цяністымі тымі начамі,
Калі бачыў я, што ты хочаш штосьці сказаць, нахіляючыся кожную ноч
да мяне,
Калі ты ўсё ніжэла й ніжэла, нібы з неба ка мне спускалася
(а іншыя зоркі толькі дзівіліся з гэтага),
Калі ўрачыстаю ноччу мы блукалі з табою ўдваіх (бо штосьці —
а што, я не ведаю сам — не давала мне спаць),

Калі ноч выраджалася ў світанне, калі я глядзеў на заходні
небакрай, дзе была ты, перапоўненая нейкай пакутлівай скрухаю,
Калі я стаяў на пагорку над ветрам у гэтай пасвятлелай і ахаладалай ужо
начы,
Калі я назіраў, як праходзіла ты ўдалечыні і як згубілася
ў густым яшчэ мораку начным,
Калі мая душа, устрывожаная сваёю бядою, неспатольна пасняшалася за табой,
маркотная зорка,
А ты зрабіла сваё, скацілася ў ноч і знікла.

9

Спявай жа там, на балоце, спявай,
О, спявак сарамлівы і пяшчотны, я чую твой пошчак, твой кліч,
Я чую, я хутка прыйду, я разумею цябе,
Я затрымаюся толькі на хвіліну, бо прамяністая зорка не адпускае мяне,
Зорка, мой таварыш, які адыходзіць, трымае і не адпускае мяне.

10

О, як мне самому спяваць для нябожчыка, якога я гэтак любіў?
І чым упрыгожыць мне песню сваю для гэтай вялікай і слаўнай душы,
якая пагасла?
І водар які прынясу я на яго дарагую магілу?

Марскія ветры веюць з усходу і з захаду,
Веюць з Усходняга мора і веюць з Заходняга мора, пакуль не сустрэнуцца
ў прэрыях.
Гэтыя ветры, а з імі — і дыхание песні маёй,
Іх водар я прынясу на яго дарагую магілу.

11

О, што я павешу на сценах пакоя,
Якія карціны я мушу павесіць на сценах,
Каб упрыгожыць апошні прытулак таго, каго я люблю?

Карціны вясны маладой, карціны фермаў і хат,
З красавіцкім надвячоркам пры захадзе сонца, з дымам — светлым і ціхім,
З паводкаю шчодрага золата — ад вялікага, ленага сонца,
што, патанаючы паволі, светліць і шырыць паветра,
З маладою і мяккай травой пад нагамі, са светла-зялёнай лістотаю
дрэў шчыраплодных,
З рухомым блакітам ракі наводдаль, з ветрыкам, што грудзі вады
тут і там хвалюе,
З шэрагам пагоркаў па рачных берагах, з гульнёю святла і ценяў,
з мноствам ліній на фоне неба.
І каб тут жа, паблізу, быў горад з натоўпам дамоў заселеных
і з камінамі высокімі,
І каб віравала жыццё ў ім, каб былі ў ім майстэрні і рабочыя,
што вяртаюцца з працы дадому.

12

Зірні, цела і душа,— гэта мая зямля,
Мой уласны Манхатан са шпілямі, і паспешнае мігценне прыліваў, і караблі,
Разнастайная і прасторная зямля, Поўдзень і Поўнач, асветленыя сонцам,
берагі Агайё і бліскучая Місуры,
І бязмежныя пракаветныя прэрыі, узрадаваныя травой і маісам.

Глядзі, вось самае цудоўнае сонца, такое спакойнае і гордае,
Вось лілова-барвовы ранак з ледзь-ледзь улоўным ветрыкам,
Пяшчотнае, бязмежнае, народжанае ў спакоі святло,
Дзіва, што разліваецца ўсюды, і ўрэшце — саспелы поўдзень,
Вечар прыемны, што ўслед ідзе, жаданая ноч і зоры,
Якія ззяюць над усімі маімі гарадамі і атульваюць чалавека і зямлю.

13

Спявай жа, спявай, шэра-буры птах,
Спявай з балота пустэльнага, лі сваю песню з кустоў,
Бясконцую песню з прысмерку, адтуль, дзе сосны і кедры.

Спявай, мой любімы браце, спявай з трыснягу сваю песню, што
западае ў душу,
Што, нібы чалавечая песня, напоўнена сумам бязмерным.

О, нястомны, і вольны, і пяшчотны!
О, дзіклівы пяюн, што шырыць і ачышчае душу! О, дзівосны спявак!
Я чую толькі цябе аднаго, але зорка ўсё яшчэ трымае мяне
(і ўсё ж яна хутка знікне),
Але бэз з неадольным пахам таксама не адпускае мяне.

14

Сёння, калі надвечар я сядзеў і глядзеў перад сабою
На светлы дзень, які вечарэў, з яго вясновымі нівамі, з фермерамі,
якія клапаціліся пра ўраджай,
На шырокія і неспазнаныя краявіды маёй айчыны — з яе лясамі і азёрамі,
На лёгкую прыгажосць нябёсаў (пасля бунтоўных вятроў і штормаў),
Я чуў пад аркаю неба, у надвячорку, які ўвачавідкі мінае,
галасы дзяцей і жанчын,
Бачыў неўтаймоўныя прылівы і адлівы, бачыў караблі пад ветразямі,
І шчодрае лета, якое набліжалася, і палі, на якіх раскашавалася праца,
І безліч асобных хат, і ў кожнай хаце — свая ежа, сваё жыццё, свой клопат,
І мітуслівае віраванне вуліц, і заціснутыя прасторамі гарады —
і вось тады, зірні, тут і там
Абвалілася на ўсіх, падмяла ўсё, і мяне ахінула разам з усімі,
Насунулася хмара — доўгі і чорны дзень,
І я зразумеў смерць і святую сутнасць яе.

Вось з гэтым разуменнем смерці, якое з аднаго боку ідзе побач са мною,
І з думкаю пра смерць, што таксама ідзе побач са мною — толькі ўжо
з другога боку,
І я пасярод іх, быццам з сябрамі, пабраўшыся з імі па-сяброўску за рукі,
Спяшаюся да бязмоўнай, прытоенай ночы, якая прымае ўсіх,
Іду на бераг — уніз, да вады, і сцяжынкай туды, дзе балота ў суцемку,
Дзе ўрачыстыя цёмныя кедры, дзе маўклівыя, нібы прывіды, сосны.

І спявак, такі палахлівы пры іншых, не баіцца мяне, Шэра-буры птах прымае, быццам знаёмых, нас, траіх сяброў, І спявае гімн смерці, песню таму, хто мне дарагі.

З цёмнага пустэльнага гушчару,
Ад пахкіх кедраў і гэткіх спакойных, прывідных сосен,
Шырыцца ўслаўляльная песня птушкі.

І гэтая велічальная песня палоніць мяне,
Калі я ўначы нібыта трымаюся за рукі абодвух маіх сяброў,
І голас мае душы зліваецца з песняю птушкі.

*Прыходзь, цудоўная і суцешная смерць!*
*Шастаеш ты вакол свету і спакойна да нас прыходзіш, прыходзіш,*
*Удзень і ўначы, да ўсіх і да кожнага,*
*Раней ці пазней прыходзіш, далікатная смерць.*

*Хвала сусвету бязмежнаму*
*За жыццё і радасць, за рэчы і цікавыя веды,*
*І за каханне, шчымлівае каханне — але хвала! хвала! хвала!*
*Ей, смерці, за ўпэўнена чэпкія рукі і халодныя абдымкі.*

*Цёмная маці, ты заўсёды ступаеш нячутна сваімі мяккімі, ціхімі крокамі.*
*Чаму ж ніхто не спявае табе песню зычлівых запросін?*
*Тады гэтую песню я праспяваю табе, я ўзвялічу цябе над усім,*
*Я падару табе гэтую песню, каб ты, калі прыйдзе мой час, ішла па мяне*
*без ваганняў.*

*Прыходзь, магутная выратавальніца!*
*Калі ўжо так здарылася, калі ўжо ты столькі забрала, я з радасцю апяваю іх, мёртвых,*
*Што патанулі ў ласкавым і схваляваным тваім акіяне,*
*Абмытыя плынню тваёй насалоды, о смерць.*

*Я вітаю цябе серэнадаю радасці,*
*Хай танцамі сустракаюць цябе, хай весяляцца, прыбіраюцца і балююць,*
*Табе пасуюць шырокія краявіды, і высокае, раскрыленае неба,*
*І жыццё, і палі, і агромністая задуменная ноч.*

*Ціхая ноч пад безліччу зорак,*
*Бераг акіяна і шэпт даверлівы хваль, хрыплы голас, які я добра ведаю,*
*І душа, што горнецца да цябе, о бяскрайняя смерць, захінутая ў чорную цень укрывала,*
*І цела, што з удзячнасцю туліцца да цябе.*

*Над вершалінамі дрэў да цябе мая песня плыве,*
*Над хвалямі, што ўстаюць і спадаюць, над мірыядамі палёў і бяскрайнімі прэрыямі,*
*Над гарадамі ўсімі, напакаванымі туга людзьмі, над дарогамі і партамі з іх мітуснёю кішлівай,*
*Я шлю гэту ўхвальную песню з радасцю, з радасцю шлю да цябе, о ты, смерць.*

15

Разам з маёю душою
Голасна і моцна прадаўжае спяваць шэра-буры птах,
Напаўняючы ноч сваімі чыстымі і выразнымі гукамі.

Гучна ў соснах і змрочных кедрах,
Гулка ў ядранай волкасці на пахкім балоце,
І я разам з маімі таварышамі там, сярод ночы.

Калі з вачэй маіх спаў засціл,
Мне адкрылася доўгая чарада відзежаў.

І я ўбачыў, нібы ў тумане, войска,
І, нібы ў нямых снах, убачыў сотні баявых сцягоў,
Іх неслі праз дым бітваў, яны былі прабітыя снарадамі — я гэта бачыў,
Яны калыхаліся то тут, то там сярод дыму — падзёртыя, залітыя крывёю,
І, нарэшце, толькі шматкі засталіся на дрэўках (і ўсё гэта — у цішыні,
у маўчанні),
А вось і дрэўкі ўжо ўсе паламаныя і пашчапаныя.

Я ўбачыў палеглых на крывавых палях бітваў, былі іх мірыяды,
І белыя шкілеты юнакоў я таксама бачыў,
Бачыў трупы, і гэта былі трупы ўсіх ваяроў, што загінулі ў бітвах,
Але бачыў я іх не такімі, якімі мы прывыклі ўяўляць —
Самі яны былі дужа спакойныя, самі яны не пакутвалі,
Пакутвалі тыя, хто застаўся жывы, несуцешная маці пакутвала,
І жонка, і дзіця, і зажураны сябра — пакутвалі,
І войска, што засталося, таксама пакутвала.

16

Іду паўз відзежы, іду паўз ноч,
Іду, ужо не трымаючыся за рукі маіх таварышаў,
Іду праз песню, якую спявае самотны птах і якая з песняю маёй душы
супадае,
Гэтая пераможная песня — выйсце для смерці, яна зменлівая і заўжды
маладая,
Ціхая і тужлівая песня, з гэтакім чыстым пошчакам, яна расла і спадала,
затапляючы ноч,
Зажурана патанала і млела, перасцерагала і папярэджвала, а потым зноў
выбухала з радасцю,
Засцілала ўсю зямлю і запаланяла прасторнае неба,
Калі я ўначы слухаў гэты магутны псалом, што гучаў з зацішку, з балота,
Калі я, праходзячы, пакідаў цябе, бэзавы куст, з тваімі лістамі,
якія гэтак падобны на сэрцы,
Пакідаў цябе там, на двары, дзе ты шчодра цвіцеш кожнай новай вясною.

Я песню сваю дзеля цябе супыніў,
І ўжо не гляджу на цябе, на захад, каб маўкліва з табой гаварыць, не гляджу,
О, прамяністы таварыш мой са срэбраным тварам уночы.

Я ўсё зберагу — і паасобку, і разам — усё, што набыў гэтай ноччу:
Песню, дзівосную песню, якую праспяваў шэра-буры птах,
І тую песню, што адгукалася на яе, абуджалася ў душы маёй, нібы рэха,
І прамяністую зорку, што ўпала з пакутным ценем на твары,
І тых, хто, узяўшы мяне за рукі, ішлі побач са мною на покліч
    птушынай песні —
Мае таварышы і я пасярод іх, на ўсё гэта я ніколі не забудуся
    дзеля яго, мёртвага, якога я так любіў,
Дзеля гэтай самай цудоўнай і самай мудрай душы між усіх маіх
        дзён і краёў — і гэта дзеля яго, майго дарагога,
Бэз, і зорка, і птушка паядналіся з песняй маёй душы
    Там, сярод сосен духмяных і змрочных, зацененых кедраў.

## О КАПІТАН! МОЙ КАПІТАН!

Капітан! Мой Капітан! Прайшлі мы шлях спаўна,
Пасіліў буры карабель, і мэта ўжо відна,
І блізка порт, і рад народ, званоў гуд звар'яцелы,
Вітаюць людзі карабель зажураны і смелы.
Ды сэрца! сэрца! сэрца!
Колер крыві вільготнай
На палубе, дзе Капітан мой
Ляжыць нежывы і халодны.

О Капітан! Мой Капітан! Устань, зірні — сцягі
Дзеля цябе ўзвіліся скрозь, у людзях — берагі,
Табе букеты і вянкі, гірлянды і фанфары,
Цябе чакаюць і завуць узбуджаныя твары.
Мая рука — пад тваёй галавой,
О Капітан, бацька мой родны!
Гэта нейкі сон, што на палубе
Ты ляжыш нежывы і халодны.

Мой Капітан ані слова — ён не чуе маёй рукі,
Самкнёны белыя вусны — мой бацька маўклівы такі,
На якар стаў карабель — скончылася цяжкая дарога,
З жахлівага падарожжа вярнуўся ён з перамогай.
Святкуйце, берагі! Званіце, званы!
А я — збалелы, маркотны
Хаджу па палубе, дзе мой Капітан
Ляжыць нежывы і халодны.

## З ПАЭМЫ «ЛЯ БЕРАГОЎ БЛАКІТНАГА АНТАРЫЁ»

Збочце з дарогі, Штаты!
Чалавек перш за ўсё — сам сабою, просты, звычайны.

Дазвольце мне забраць тое, што я зарабіў,
Дазвольце мне праспяваць песні пра вялікую Ідэю, а ўсё астатняе
пакіньце сабе,
Я любіў зямлю, сонца, звяроў і пагарджаў багаццем,
Я дзяліўся з усімі, хто б у мяне не прасіў чаго, абараняў
дзівакоў і вар'ятаў, аддаваў свой заробак і працу іншым,
Ненавідзеў тыранаў, не спрачаўся пра бога, быў цярплівы і памяркоўны
да людзей, не гнуў галавы ні перад вядомым, ні перад зусім невядомым,
Сябраваў з моцнымі, неадукаванымі людзьмі, і з маладзёнамі,
і з маткамі сем'яў,
Чытаў гэтае лісцё сам сабе, на вольным паветры, правяраў яго
дрэвамі, зорамі, рэкамі,
Гнаў ад сябе ўсё, што зневажала маю душу ці брудзіла маё цела,
Сабе дамагаўся толькі таго, чаго дамагаўся і іншым,
У лазарэты спяшаўся, дзе знаходзіў адданых сяброў з усіх Штатаў
(Колькі салдат, паміраючы, схілялі свае галовы на гэтыя грудзі,
Гэтыя рукі і гэты голас, колькі армілі яны, падбадзёрвалі
і ўзнімалі на ногі,
Усяляючы прагу жыцця ў зусім саслабелыя целы);
Я ахвотна яшчэ пачакаю, пакуль зразумеюць мяне і ацэняць, як трэба, мяне,
Не зракаючыся нікога, прымаючы ўсіх.

(Скажы, о Маці, хіба я не быў верны тваім жаданням?
Хіба думкі пра цябе і вобраз твой чысты не збярог праз усё жыццё?)

## БЫЛО ДЗІЦЯ,
## ЯКОЕ КОЖНЫ ДЗЕНЬ ВЫХОДЗІЛА З ХАТЫ

Было дзіця, якое кожны дзень выходзіла з хаты,
І на якую б рэч толькі не зірнула яно —само гэтай рэччу рабілася,
І кожная рэч станавілася часткай яго самога на дзень, ці на нейкую
гадзіну дня,
Ці на доўгія-доўгія гады, ці нават на кругабегі гадоў.

Ранні бэз зрабіўся часцінаю гэтага дзіця,
І трава, і белы ці ружовы павой, і белая ці ружовая канюшына,
і песня валасянкі,
І сакавіцкія ягняткі, і бледна-ружовыя парасяты, і наструненыя жарабяткі,
і гарэзлівыя цялягкі,
І шумлівая чародка пылянят на двары ці качанят каля сажалкі,
І рыбкі, якія так дзіўна вісяць у вадзе, і сама такая прыгожая
і такая незразумелая вада,
І вадзяныя расліны са сваімі таямнічымі пляскатымі лістамі —
усё стала часткаю яго.

Красавіцкія і майскія парасткі зрабіліся часткаю яго,
Усходы зімовага пасеву, і светла-жоўтыя ўсходы маісу, і агародніна
на градах,
І яблыні — спачатку ў квецені, а пасля — усе ў яблыках, і лясныя ягады,
і самае звычайнае пустазелле каля дарогі,
І стары п'янчужка, які хістаецца дадому з хлеўчука пры шынку, адкуль ён,
праспаўшыся, толькі што выйшаў,
І настаўніца, што прайшла па дарозе, спяшаючыся ў школу,
І прыязныя, ціхія хлапчукі і задзірыстыя забіякі,
Свежашчокія дзяўчаткі ў чысценькіх сукенках і негрыцянскія
хлапчукі і дзяўчаткі басанож,
І ўсё, што мянялася ў горадзе і ў вёсцы,— там, куды б дзіця не ішло.

Бацькі — той, хто абудзіў яго, і тая, што потым насіла яго і нарадзіла,
Яны далі гэтаму дзіцяці болей, чым толькі жыццё,
Яны аддавалі яму сябе кожны дзень і таксама пасля сталі часткай яго,
Маці, збіраючы вячэру, спакойна ставіць талеркі на стол,
Маці ціха прамаўляе да ўсіх ласкавыя словы, яна ў свежым каптурыку і
сукенцы, і калі яна праходзіць побач — павявае чысцінёю ад яе
і ад яе адзення,
Бацька, моцны, самастойны, мужны, раздражнёны, сярдзіты, несправядлівы,
Аплявухі, хуткія гучныя словы, удалая, зацанаваная здзелка,
зваблівая спакуса,
Сямейныя звычкі, размовы, госці, мэбля, тужлівае і расчуленае сэрца,
Замілаванне, з якім не саўладаць, сэнс усяго, што навокал цябе, і думкі —
а што, калі раптам усё гэта сон?
Сумненні ўдзень і сумненні ўначы, гэтыя дзіўныя «калі» і «як»,
І тое, што нам здаецца такім, ці такое яно сапраўды, ці ўсё гэта
на самай справе толькі ўспышкі і сполахі?
Мужчыны і жанчыны, якія на вуліцах тоўпяцца, калі яны не ўспышкі
і сполахі, дык хто ж яны тады?
А самі вуліцы, і фасады дамоў, і тавары ў вітрынах,
Калёсы, брыгады, прыстані з цяжкім дашчаным насцілам, агромністыя
пераходы і паромы,
Вёска на ўзгорку, якая відаць здалёку пры захадзе сонца,
паміж мною і вескай — рака,
Цені, водсветы за смугой, святло, што на стрэхі і вільчыкі
бела-карычнева падае — за дзве мілі адсюль,
Шхуна, якая непадалёку санліва сплывае разам з адлівам, маленькая лодка,
што слаба зачалена за яе карму,
Сумятня хваль, якія спяшаюць і падаюць адна на адну, усплёскі
зламаных грэбняў,
Шматкалёрныя воблакі ўверсе, і ўдалечыні доўгая палоса каштанавай
водмелі, і чысты, маўклівы прастор, у якім яна ляжыць ціхамірна,
І небакрай, і праляцелая чайка, і пах салёных лагун, і бераг балота,—
Усе гэта стала часткай таго дзіця, якое выходзіла з хаты штодзень,
і што зараз выходзіць, і што будзе выходзіць заўжды, кожны дзень.

## ПТУШЫНЫ ПОШЧАК ТАЕ ПАРЫ, КАЛІ БЭЗ ЗАЦВІТАЕ

Птушыным пошчакам грымні, о мая непадкупная мова, пра радасць тае пары,
калі бэз зацвітае (яна ў памяць вяртаецца зноўку),
О, ты — голас і вусны Прыроды, падаруй мне сувеніры самага
летняга лета,
Збяры разам прыкметы жаданыя (гэтак дзеці збіраюць на марскім беразе
каменьчыкі ці нанізваюць ракавінкі),
У песню ўбяры красавік і май, дзе стогнуць жабы ў стаўках,
паветра гэткае пругкае,
Пчолы, матылькі, верабей са сваёю няхітраю песняю,
Сіняя птушка і ластаўка, хуткая, нібы страда, не забудзься пра дзятла,
што высокае дрэва дзяўбе, залатымі махаючы крыламі,
Сонечная смуга над спакойнай зямлёю, дым, што чапляецца за цябе,
ад раллі падымаецца пара,
Мігценне вод веснавых, рыба ў тых водах, а над усім — блакітнае неба,
Усё, што зіхціць і вяселіцца, гаварлівы ручай,
Кляновыя лясы, дні бадзёрыя ў лютым, калі робяць кляновік,
Дзе малінаўка скача — быстравокая, з карычневай грудкаю,
Яна пада˝ свой пявучы і чысты голас, калі вечарэе і калі світаць пачынае,
Ці калі яна пырхае паміж яблынь у садзе і парадчыць гняздо
для пары народзін,
Сакавіцкі снег растае, вярба распушае свае жоўта-зялёныя коцікі,—
Гэта вясна! Гэта ўжо лета! Што ў іх ёсць і чаго ў іх няма?
Ты, душа мая, зараз на волі, але ўсё ж цябе штосьці турбуе, а што — я і сам,
прызнаюся, не ведаю,
У дарогу, хутчэй у дарогу — хадзем, мы не будзем тут заставацца!
О, каб можна было так ляцець, як птушкі лятаюць!
О, каб гэтак імклівіць, як караблі імкліваць!
Каб слізгацець з табой, о душа, над усім, над усім, як карабель
па хвалях слізгае;

Увабраць бы ў сябе ўсе намёкі, пачаткі, блакітнае неба, траву
і світальныя кроплі расы,
І водар бэзу, кусты з цёмна-зялёнай, падобнай на сэрцы лістотай,
Лясныя браткі і маленькія пяшчотныя кветачкі, якія называюць людзі
«нявіннасць»,
Рэчы ўсе ва ўсім іх багацці, але не для рэчаў саміх, а для свайго акружэння,
Каб прывабным зрабіць куст, які я люблю, каб спяваць разам з птушкамі
Песню пра радасць тае пары, калі бэз зацвітае, пары, што вяртаецца зноўку
і зноўку.

## ВЫ, ЗЛАЧЫНЦЫ, КАГО ВІНАВАЦЯЦЬ У СУДАХ

Вы, злачынцы, каго вінавацяць у судах,
Вы, катаржнікі ў турэмных клетках, вы, забойцы, асуджаныя
  і закаваныя ў жалезныя кайданы,
Хто ж я такі, што мяне не судзяць разам з вамі, што я пакуль
  не за кратамі?
Я такі ж бязлітасны і жорсткі, як і кожны з вас, чаму ж мае рукі
  не ў ланцугах, ногі — не ў кайданах?

Вы, прастытуткі, што на тратуарах выстаўляеце сябе напаказ
  ці бессаромнічаеце ў сваіх пакойчыках,
Хто ж я такі, што магу называць вас больш непрыстойнымі, чым сам?

О, вінаватыя! Я прызнаюся сам — я сам сябе абвінавачваю!
(О, мае зычліўцы, не хваліце мяне, не лесціце мне — гэта прымушае мяне
  моршчыцца,
Я ж бачу тое, чаго вы не бачыце, ведаю тое, чаго вы не ведаеце.)

Пад гэтаю вось грудною клеткаю я ў брудзе увесь, і няма мне чым дыхаць там,
За гэтым абліччам, якое здаецца такім спакойным, увесь час
  бурляць прылівы і адлівы пекла,
Юр і распуста даспадобы мне,
Баўлю я час са злачынцамі і разбэшчаных шчыра люблю,
І разумею, што я — адзін з іх, што сам я належу да прастытутак
  і катаржнікаў,
І адцяпер я не буду іх выракацца, бо хіба ж можна вырачыся самога сябе?

## ЗВЫЧАЙНАЙ ПРАСТЫТУТЦЫ

Не хвалюйся, будь спакойная са мною — я Уолт Уітмен, вольны
ад умоўнасцяў і шчодры, як сама Прырода,
Пакуль сонца не вырачыцца цябе, я не выракуся цябе,
Пакуль воды не адмовяцца блішчэць дзеля цябе, а лісцё — шапацець
дзеля цябе, мае словы не адмовяцца блішчэць і шапацець дзеля цябе.

Дзяўчо маё! Я прызначаю табе спатканне і кажу табе, каб ты з годнасцю
падрыхтавалася да гэтае сустрэчы,
І я кажу табе, каб ты была цярплівая і бездакорнаю, пакуль я не прыйду.

А пакуль што я вітаю цябе шматзначным позіркам, каб ты не забылася
на мяне.

## ЦУДЫ

Ну, хто ж цяпер марыць пра цуды?
А я дык ва ўсім бачу цуд,
Калі праходжу па вуліцах Манхатана,
Ці кідаю хуткі позірк на дахі дамоў, на далёкае неба за імі,
Ці іду басанож па беразе, па самым крайку вады,
Ці стаю пад дрэвам у лесе,
Ці размаўляю ўдзень з тымі, каго я люблю, ці сплю ўначы з тымі, каго я
люблю,
Альбо сяджу за сталом, палуднуючы з іншымі,
Альбо разглядаю незнаёмых людзей, якія сядзяць насупраць мяне ў вагоне,
Альбо слухаю, як клапатліва звіняць у вуллях пчолы летняю раніцай, Ці
гляджу, як пасецца жывёла на лузе,
Ці сачу за птушкамі альбо за прыгожымі стракозамі ў паветры,
Ці любуюся чароўным захадам сонца, ці зоркамі, якія светляць
спакойна і ярка,
Ці разглядаю прывабны, далікатны, тонкі сярпок вяснянага маладзіка,—
Усё гэта і ўсё астатняе — для мяне цуд,
І паяднанае разам, і кожнае паасобку, на месцы сваім — цуд.

Для мяне кожная гадзіна святла і цемры — цуд,
Кожны кубічны метр прасторы — цуд,
Кожны квадратны ярд зямной паверхні — цуд,
Кожны фут у яе глыбіню — гэтаксама вялікі цуд.

Мора для мяне — пастаянны цуд,
Рыбы, якія плывуць,— скалы — дыханне хваль — караблі з людзьмі на іх,—
Якія, скажыце, яшчэ больш незвычайныя цуды вам трэба?

## З ПАЭМЫ «ДУМАЙ ПРА ЧАС»

Думай пра час — пра ўсё, што мінула, думай,
Думай пра сённяшні дзень і пра вякі, якія наперадзе, якія змяняюцца вечна.

Ці не здагадваўся ты, што і сам ты таксама не вечны?
Ці не палохаўся ты, успомніўшы пра магільных, земляных чарвякоў?
Ці не задумваўся ты, што будучыня для цябе — пустата.

А калі і сённяшні дзень — пустата? А рангам і мінулае, якое
не мае пачатку,— таксама пустата?
Калі будучыня — пустата, то і яны, безумоўна, гэткая ж пустата.

Падумай, што і калісьці вось так уставала сонца на ўсходзе, што
мужчыны і жанчыны, тыя, якіх ужо зараз няма, былі рухавыя,
сапраўдныя і жывыя.
Падумай, што быў час, калі ні ты, ні я нічога не бачылі, не адчувалі,
не думалі, не ведалі, што такое жыццё,
Падумай, што зараз мы тут, мы жывём і ведаем добра, што такое жыццё.

## ДУМКІ

Пра думку грамадскую,
Пра спакойны і абавязковы дэкрэт, які павінен з'явіцца рана ці позна
(такі бесстаронні! такі выразны і канчатковы!),
Пра спалоханага прэзідэнта з пабялелым тварам, які сам у сябе
патаемна пытаецца: «А што, урэшце, скажа народ?»
Пра легкадумных суддзяў, пра кангрэсменаў прадажных, пра губернатараў,
мэраў і пра такіх, як яны, што стаяць, выкрытыя і бездапаможныя,
Пра папоў, якія мармычуць альбо лямантуюць (хутка, хутка ад іх усе
адхіснуцца),
Пра тое, што з кожным годам змяншаецца прыстойнасць і аўтарытэт
чыноўнікаў, законаў, амбонаў і школ,
Пра тое, што ўсё расце, мацнее і шырэе самаўсвядомленне мужчын і жанчын,
іх гонар, іх асоба,
Пра сапраўдны Новы Свет і праменістыя Дэмакратыі ўсюды,
Пра падначаленне ім палітыкі, арміі, флоту,
Пра яркае сонца ў іх саміх, пра ўнутранае святло, якое яны
будуць выпраменьваць больш за ўсё іншае,
Пра тое, што ўсё змяшчаецца ў іх і ўсё пачынаецца ад іх.

## З ПАЭМЫ «БЫВАЙЦЕ!»

Не, гэта не кніга, таварыш,
Хто дакранецца да яе, той дакранецца да чалавека,
(Хіба ўжо ноч? Мы з табою адны і навокал нікога?)
Гэта я, каго ты трымаеш і хто трымае цябе,
Са старонак саскокваю да цябе на рукі, але магіла мяне кліча назад.
О, як твае ласкавыя пальцы ўсыпляюць мяне,
Тваё дыханне ападае навокал мяне, бы раса асвяжальная, тваё сэрцабіццё
закалыхвае мяне і цешыць мой слых,
І шчасце запаланяе мяне з галавы да ног —
Такое бязмежнае, чароўнае шчасце.

## КАЛІ Я СЯДЖУ І ПІШУ

Калі я, хворы, стары, сяджу і пішу,<br>
Мне балюча думаць, што зласлівасць і сумная цьмянасць<br>
маіх старэчых гадоў,<br>
Панурая маркота, болі, вяласць, запоры, сварлівасць, нараканні<br>
Могуць прасачыцца ў мае штодзённыя песні.

**ПЕРШАЯ БАГАТКА**

Простая, свежая і чыстая, вызваленая сонцам з палону зімы,
Як быццам бы ніколі не было на свеце ніякіх хітрасцяў,
моды, грашовых здзелак, палітыканства,
Са свайго нагрэтага промнямі гняздзечка ў траве, цнатлівая,
сарамлівая і залатая, як золак,
Першая багатка — кветка вясны — даверліва паказвае свой тварык.

## ЦІХІЯ ДНІ

Не толькі ў шчырым каханні шчасце,
Не толькі ў багацці, у пашане спелага ўзросту, яно — не толькі
поспехі ў палітыцы альбо на вайне;
Бо калі жыццё паволі вяне, калі супакойваюцца бурныя страсці,
Калі надыходзіць хараство светлых і ціхіх колераў вячэрняга неба,
Калі пяшчота, напоўненасць, спакой ахопліваюць усяго цябе, нібы
ласкавае і гаючае паветра,
Калі асеннія дні свецяцца мяккім святлом, і наліваюцца, нарэшце,
яблыкі, і вісяць, лянiва-саспелыя, на галінках,—
Тады, услед за безліччу іншых, прыходзяць самыя шчаслівыя, самыя
ціхамірныя дні,
Цудоўныя дні спакойнага і насалоднага роздуму.

## ДЗЯКУЮ Ў СТАРАСЦІ

Дзякую ў старасці, дзякую, пакуль яшчэ з вамі я,
За здароўе, за паўдзённае сонца, за паветра, неадчувальнае на дотык,
за жыццё, проста за жыццё,
За каштоўныя ўспаміны, якія заўсёды са мною (пра цябе, мая любая мама,
пра цябе, мой бацька, пра вас, мае сёстры, браты і сябры),
За ўсе мае дні — не толькі за мірныя дні, але і за дні вайны гэтаксама,
За пяшчотныя словы і ласку, за падарункі з чужых краёў,
За прытулак, за віно і за мяса, за прызнанне мяне самаго.
(Вы, далёкія, за смугою гадоў нябачныя — маладыя альбо старыя — незлічоныя,
неспазнаныя чытачы мае дарагія,
Мы ніколі не стрэліся і ніколі не стрэнемся, але нашыя душы
здаўна абдымаюцца шчыра і доўга);
За ўсе істоты і вобразы, за каханне, справы, словы і кнігі, за формы
і колеры.
За ўсіх смелых і моцных людзей, за адданых і настойлівых людзей,
якія ўзнімаліся на абарону волі ва ўсе часы і ва ўсіх краінах,
За яшчэ болей смялейшых і мацнейшых, за самых адданых
(ім асаблівую лаўровую галінку, пакуль я жыву,— ім, у бітвах жыцця
загартаваным абраннікам,
Кананірам песні і думкі, вялікім артылерыстам, правадырам,
што заўсёды наперадзе, капітанам душы);
Як салдат, што вярнуўся дадому з вайны, як падарожнік — адзін
з мірыядаў, які азіраецца назад, на гэтую доўгую чараду людзей,
Дзякуй кажу я — радаснае дзякуй! — ад салдата і падарожніка дзякуй!

## МАЦНЕЙШЫЯ ЎРОКІ

Няўжо ты вучыўся толькі ў таго, хто захапляўся табою,
быў ласкавы з табою і ўступаў табе ўсюды дарогу?
Няўжо ты не браў ніякіх урокаў у тых, што выракаліся цябе,
варагавалі з табою? Ці ў тых, што адносіліся да цябе з пагардаю
і адпіхвалі цябе, каб самім прайсці першым?

## НЕ ТОЛЬКІ БЯЗЛІСТЫЯ ГАЛІНКІ З ПРЫТОЕНЫМ ЖЫЦЦЁМ

О песні, вы не толькі бязлістыя галінкі з прытоеным жыццём
(лускаватыя і голыя, нібыта арлінbacknя кіпці),
Можа, у які-небудзь шчаслівы сонечны дзень (хто ведае?)
якой-небудзь будучай вясны альбо лета на вас набухнуць пупышкі,
Зазелянее лісцё, прахалодны з'явіцца цень, сакаўныя нальюцца плады —
Яблыкі ці вінаград, вырастуць новыя магутныя галіны дрэў, плыне свежае,
вольнае і чыстае паветра,
І любоў і дружба расквітнеюць тады, нібы духмяныя ружы.

## КАЛІ З'ЯВІЎСЯ ПАЭТ
## У САМЫМ РОСКВІЦЕ СВАІМ

Калі з'явіўся паэт у самым росквіце сваім,
Узрадаваная Прырода (круглы і ціхамірны шар з усімі зменамі
дзён і начэй) абвясціла: *«Ён — мой»;*
Але тут загаварыла таксама Душа чалавека — гордая, зайздросная,
непрымірымая: *«Не, ён — толькі мой»;*
Тады паэт у самым росквіце сваім стаў паміж імі дзвюма і ўзяў іх за рукі,
І гэтак вось ён і сёння і вечна стаіць, нібы прымірыцель і аб'яднальнік,
моцна трымаючы іх за рукі,
Якія ён ніколі не паслабіць, пакуль гэтых дзвюх не прымірыць,
І пакуль, абрадзелы, не злучыць іх назусім.

## АСЦЭОЛА

Я ўжо быў амаль дарослы, калі ў Брукліне, у штаце Нью-Йорк, мне давялося сустрэцца (у сярэдзіне 1838 г.) з адным ваенным мараком, які вярнуўся з форта Молтры (Паўднёвая Караліна). Я доўга гутарыў з ім і даведаўся ад яго тое, пра што расказваецца ніжэй,— пра смерць Асцэолы. Асцэола быў малады і бясстрашны правадыр з племя семінолаў. У час вайны ў Фларыдзе ён здаўся ў палон нашым войскам, быў пасаджаны ў турму і памёр у форце Молтры літаральна ад «разбітага сэрца». Яго хвароба была выклікана тугою па волі. І лекар, і афіцэры ставіліся да яго добразычліва і рабілі ўсё мажлівае, каб палегчыць турэмны рэжым, і вось які быў яго канец.

Калі прыйшоў яго смяротны час,
Ён паволі ўстаў са свае пасцелі на падлозе,
З цяжкасцю апрануў сваё баявое адзенне, сарочку, абуўся,
падперазаўся поясам,
Папрасіў, каб яму далі чырвонай фарбы (яго люстэрка трымалі перад ім),
Расфарбаваў сабе палову твару, шыю, запясці, тыльны бок далоняў,
Старанна прыладзіў да пояса нож для здымання скальпаў, потым лёг,
адпачыў крыху,
Затым зноў прыўзняўся, усміхнуўся і, напаўседзячы, моўчкі падаў
кожнаму руку,
Знясілены, абвяў на падсцілку (моцна сціскаючы дзяржальна тамагаўка),
Спыніў свой пагляд на жонцы і на маленькіх дзецях — апошні пагляд.

(Няхай жа хоць гэтыя радкі ўславяць яго імя і будуць напамінкам
пра тое, як ён памёр.)

## БЫВАЙ, МАЯ ФАНТАЗІЯ

Бывай, мая Фантазія!
Бывай, дарагая сяброўка, дарагая любоў!
Я ўжо адыходжу, а куды — і сам я не ведаю,
Не ведаю, які лёс мой наперадзе, не ведаю, ці давядзецца нам зноў
　　калі-небудзь сустрэцца з табою,
І ўсё-ткі — бывай, мая дарагая Фантазія.

А зараз, у апошні раз, дазволь мне назад азірнуцца —на хвілю;
Ува мне ўсё павольней, ледзь чутна гадзіннік мой цікае,
Выхад цямнее, набліжаецца ноч, хутка сэрца заціхне, навечна супыніцца.

Доўга мы разам жылі, радуючы і цешачы адно аднаго;
Як цудоўна было! — А зараз павінны мы разлучыцца — бывай жа,
　　мая Фантазія.

Але я не хачу асабліва спяшацца,
Доўга, і праўда, жылі мы разам, спалі і ачышчаліся разам, зліваючыся
　　амаль у адно;
І таму, калі настане час паміраць,—мы памром гэтаксама разам
　　(не, нас ніхто не разлучыць),
Калі мы і пойдзем куды ў невядомае, мы пойдзем разам з табою, насустрач
　　таму, што павінна здарыцца,
Можа, нам будзе лепей і весялей, і мы пазнаем штосьці самае важнае,
Можа, ты зараз мяне павядзеш да маіх самых лепшых, сапраўдных песень
　　(хто ведае?),
Можа, гэта менавіта ты адмыкаеш і замыкаеш тыя наканаваныя, апошнія
　　дзверы,— што ж, тады канчаткова бывай,
Бывай — і прывітанне табе! — мая Фантазія!

## ТЛУМАЧЭННІ

Асобнай кнігаю творы выдатнага амерыканскага паэта Уолта Уітмена (1819-1892), які ў свой час пісаў, што «...я буду шчаслівы, калі мяне пачуюць, калі са мною ўвойдуць у эмацыянальны кантакт вялікія народы Расіі», у перакладзе на беларускую мову выходзяць упершыню. У чарговасці размяшчэння вершаў і паэм з яго сусветна вядомай кнігі «Лісце травы» (яна ўпершыню выдадзена ў 1855 годзе ў Брукліне, а потым шмат разоў перавыдавалася з дапаўненнямі) намі захаваны прынцып, які ўстанавіў сам паэт для апошняга прыжыццёвага выдання сваіх твораў.

У кнігу, якая прапануецца чытачам, уключаны вершы, урыўкі з паэм і паэмы амаль з усіх нізак, што стварыў Уітмен за сваё доўгае творчае жыццё. Тут і патрыятычная лірыка гадоў грамадзянскай вайны паміж Поўначчу і Поўднем з нізкі «Барабанны бой», і філасофская паэзія з нізкі «Марскія плыні», і шчырыя вершы пра каханне з цыкла «Дзеці Адама», і непаўторная паэма «Калі цвіў гэтай вясною бэз у маім двары» з нізкі «Памяці прэзідэнта Лінкальна». Апрача таго, у кнізе шырока прадстаўлены нізкі «Прысвячэнні», «Пералётныя птушкі», «Ля дарогі», «Дні сямідзесяцігоддзя», «Бывай, мая Фантазія» і іншыя.

### *Адной спявачцы*

Верш прысвечаны опернай спявачцы Марыеце Алдоні. У тэатральным сезоне 1852/53 гадоў яна спявала ў дзесяці операх, і на кожную з іх адгукаўся паэт.

### *Стаю супакоены*

М а н н а х а т а — старая індзейская назва вострава, на якім зараз цэнтр Нью-Йорка. У часы Уітмена востраў знаходзіўся за горадам і быў любімым месцам адпачынку паэта.

***Народжаны на Паманоку***

П а м а н о к - старая індзейская назва вострава Лонг-Айленд, на якім нарадзіўся паэт.

***Песня пра сябе***

К а н у к — канадскі жыхар французскага паходжання.
Т а к а х а — жартаўлівая назва самага беднага насельніцтва ў штаце Віргінія.

***Прывітанне свету***

S a l u t a u M o n d e ! — ( ф р а н ц у з с к а е ) прывітанне свету. Дарэчы, Уітмен і ў некаторых іншых мясцінах ужывае французскія, іспанскія словы, якія падаюцца тут у перакладзе.

***Песня пра тапор***

С а л о д к а я б у л ь б а — трапічная расліна ў Амерыцы з вялікім і салодкім клубнем, крухмальным, разварыстым.

***Піянеры! О, піянеры!***

Верш прысвечаны піянерскаму руху ў Амерыцы. Піянерамі там называлі першых перасяленцаў, якія асвойвалі новыя землі на захадзе Амерыканскага кантынента.

***Франция (18-ты год наших Штатаў)***

Храналогія Уітмена пачынаецца ад «Дэкларацыі амерыканскай незалежнасці», абвешчанай у 1776 годзе. Значыць, у вершы гаворыцца пра Францыю 1793 года, калі французская буржуазная рэвалюцыя перажывала кульмінацыйны момант.

***Бостанская балада***

Напісана ў 1854 годзе, калі ў ЗША дзейнічаў закон аб збеглых рабах. Па гэтаму закону найміты паўднёвых плантатараў арыштавалі ў Бостане былога раба, негра Антані Бёрнса, для перадачы яго «гаспадару». Буржуазныя колы Бостана аказвалі плантатарам усялякую падтрымку.

Джанатан — мянушка амерыканцаў, жыхароў Новай Англіі, якую далі ім англічане.

Прывіды, якія падняліся з магіл і якія з жахам глядзяць на прысланыя рабаўладальнікамі войскі — гэта ўдзельнікі амерыканскай вайны за незалежнасць XVIII сгагоддзя.

«Янкі Дудль» — пачатковыя словы маршавай патрыятычнай песні.

Кароль Георг — англійскі кароль Георг III (1738—1820) — фанатычны вораг амерыканскай рэспублікі і французскай рэвалюцыі, які звар'яцеў над старасць.

***А днаму з прэзідэнтаў***

*Вер*ш напісаны ў *1860* годзе, калі прэзідэнтам быў Дж. Б'юкенен.

***Нашым Штатам***

У гэты час прэзідэнтамі былі М. Філмор (1850—1853), Ф. Пірэ (1853—1857) і Дж. Б'юкенен (1857—1861), палітыка і бяздзейнасць якіх абурала Уітмена.

***Тысяча восемсот шэсцьдзесят першы***

1861 год — год пачатку грамадзянскай вайны паміж Поўднем і Поўначчу ў ЗША.

Сіняе адзенне — войскі Поўдня насілі сінія блузы.

***Калі цвіў гэтай вясною бэз у маім двары***

Паэма прысвечана памяці прэзідэнта Аўраама Лінкальна і была напісана, відаць, неўзабаве пасля яго смерці. Лінкальн, які пераможна закончыў грамадзянскую вайну паміж Поўначчу і Поўднем, быў забіты 14 красавіка 1865 года ў ложы вашынгтонскага тэатра, дзе ён глядзеў вясёлую п'есу «Наш амерыканскі сваяк», фанатычным прыхільнікам пераможанага рабаўладальніцкага Поўдня Джонам Уілкісам Бусам.

Уітмен паказвае ў паэме шматдзённае жалобнае шэсце, калі труну з целам прэзідэнта правезлі па ўсёй краіне — з Філадэльфіі ў Нью-Йорк, з Нью-Йорка ў Чыкага і г. д.— і пахавалі 4 мая ў штаце Ілінойс.

Вялікае месца ў паэме займае вобраз бэзу ў квецені. Сам Уітмен, выступаючы з лекцыяй пра Лінкальна, успамінаючы пра той жахлівы дзень 14 красавіка, тлумачыў гэта: «Я памятаю, дзе я ў гэты час зна-

ходзіўся. Вясна была ў поўным разгары, цвіло многа бэзу. Бываюць такія капрызы, якія ўваходзяць, асвятляюць і афарбоўваюць падзеі, хоць самі яны і не з'яўляюцца часткаю гэтых падзей. У сувязі з гэтым мне заўсёды напамінаюць пра вялікую трагедыю таго дня выгляд і пах гэтых кветак».

Вядомы англійскі паэт Олджэрнон Суінберн пісаў, што гэта паэма — «самы цудоўны і звонкі накцюрн, якія калі-небудзь спявалі ў храме свету».

### *Было дзіця, якое кожны дзень выходзіла з хаты*

Тут і ў некаторых іншых сваіх творах Уітмен карыстаецца старым квакерскім календаром, дзе назвы месяцаў былі лічбавыя: сакавік называўся трэцім месяцам, май — пятым месяцам, верасень — дзевятым месяцам і г. д.

### *О, капітан! Мой капітан!*

Папулярны, хрэстаматыйны верш Уітмена — адзін з нямногіх вершаў, дзе захоўваецца рыфмоўка. Напісаны пад уражаннем смерці Лінкальна.

К а п і т а н — тут прэзідэнт Лінкальн.

ЗМЕСТ

## ІЛЮСТРАЦЫІ

**Уітмен Уолт**

**У 39** **Лісце травы. Вершы. Пераклад з англійскай. Укладанне і тлумачэнні Я. Сіпакова. Мн., «Маст. літ.», 1978.**

160 с., 8 с. укл.

Асноўны пафас кнігі вялікага амерыканскага паэта Уолта Уітмена «Лісце травы» — дружба народаў, братэрства людзей усяго свету. Яго творы вызначаюцца дасканаласцю паэтычнай формы, непаўторнасцю рытмаў «вольнага верша», глыбінёй думкі.

**У** $\frac{\textbf{70404-031}}{\textbf{М 302 (05) —78}}$ **127-77**

И(Амер)

УОЛТ УИТМЕН
*Листья травы*

На белорусском языке

Рэдактар **Хв. Д. Жычка**. Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар **Л. Я. Прагін**. Тэхнічны рэдактар **Л. М. Шлапо**. Карэктар **В. В. Шарамета**.

ІБ № 82. Здадзена ў набор 21/VI 1977 г. Падп. да друку 23/1 1978 г. Тыраж 2000 экз. Фармат 60x70$^{1}/_{16}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 8,19. Ул.-выд. арк. 5,28. Зак. 411. Цана 90 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Паркавая магістраль, 11,